# МАТЭРЫЯЛЫ

## да абласнога слоўніка Магілёўшчыны

Выпуск 2

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ “МАГІЛЁЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ імя А.А. КУЛЯШОВА”

# МАТЭРЫЯЛЫ
## да абласнога слоўніка Магілёўшчыны

**ВЫПУСК 2**




Магілёў 2005

УДК 811.161.3
ББК 81.411.3
М34

*Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага*
*і экспертнага савета МДУ імя А.А. Куляшова*

Аўтары:
М.В. Абабурка, М.П. Бузук,
А.С. Лаўшук, Т.І. Якубовіч

Рэцэнзент
ст. навуковы супрацоўнік
Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі
кандыдат філалагічных навук
*І.І. Лучыц-Федарэц*

**Матэрыялы** для абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Вып. 2 / М.В. Абабурка, М.П. Бузук, А.С. Лаўшук, Т.І. Якубовіч. – Магілеў: МДУ імя А.А. Куляшова, 2005. – 88 с.

М34

ISBN 985-480-118-7.

У слоўнік уключана дыялектная лексіка, сабраная за апошнія 25 год у розных раёнах Магілёўшчыны. Акрамя дыялектнай лексікі ў слоўнік уключаны казкі, замовы, паданні, песні, малітвы.

Выданне разлічана і адрасавана тым, хто цікавіцца жывым беларускім словам.

Вып. 1 выдадзены ў 1981 годзе.

**УДК 811.161.3**
**ББК 81.411.3**

**ISBN 985-480-118-7**

# ПРАДМОВА

*Падрыхтаваны да выдання другі выпуск "Матэрыялаў да абласнога слоўніка Магілёўшчыны" працягвае публікацыю сучаснай дыялектнай лексікі і фразеалогіі з народных гаворак Магілёўскай вобласці. Структура дадзенага выпуску такая ж самая, як і першага (Мн.: "Навука і тэхніка", 1981). Аднак у гэты выпуск дадаткова ўключаны арыгінальны мясцовы маўленчы матэрыял, некаторыя словазлучэнні і словаформы, звязныя тэксты. Фактычны і ілюстрацыйны матэрыял сабраны студэнтамі беларускага аддзялення і выкладчыкамі кафедры беларускай мовы Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.А. Куляшова за 1973 – 1983 гг.*

*Як і ў першым, у другім выпуску ўсе рээстравыя словы і выразы "Матэрыялаў" суправаджаюцца граматыка-стылістычнымі паметамі, што характарызуюць тую ці іншую лексему або фразему з боку адносін яе да пэўнай часціны мовы, а таксама лексічнай і сінтаксічнай спалучальнасці з іншымі словамі жывога маўлення. Пашпартызацыя прыкладаў-ілюстрацый падаецца па апошнім адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле Магілёўскай вобласці.*

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

## Граматыка-стылістычныя паметы

| | |
|---|---|
| абразл. | – абразлівае |
| аг. | – агульны род |
| адз. | – адзіночны лік |
| асудж. | – асуджальнае |
| выкл. | – выклічнік |
| гарэзл. | – гарэзлівае |
| груб. | – грубае |
| гукаперайм. | – гукапераймальнае слова |
| дзіц. | – дзіцячае |
| ж. | – жаночы род |
| займ. | – займеннік |
| зб. | – зборны |
| зак. | – закончанае трыванне |
| злуч. | – злучнік |
| зневаж. | – зневажальнае |
| іран. | – іранічнае |
| ласк. | – ласкавае |
| лаянк. | – лаянкавае |
| м. | – мужчынскі род |
| мн. | – множны лік |
| н. | – ніякі род |
| неадабр. | – неадабральнае |
| незак. | – незакончанае трыванне |
| пагардл. | – пагардлівае |
| перан. | – пераноснае |
| прым. | – прыметнік |
| прын. | – прыназоўнік |
| прысл. | – прыслоўе |
| словазл. | – словазлучэнне |
| спалуч. | – спалучэнне (лексікалізаванае) |
| часц. | – часціца |
| уст. | – устарэлае |

## Раёны Магілёўскай вобласці

| | |
|---|---|
| Асіп. | – Асіповіцкі |
| Бабр. | – Бабруйскі |
| Бых. | – Быхаўскі |
| Бял. | – Бялыніцкі |
| Глуск. | – Глускі |
| Гор. | – Горацкі |
| Дрыб. | – Дрыбінскі |
| Касц. | – Касцюковіцкі |
| Кір. | – Кіраўскі |
| Клім. | – Клімавіцкі |
| Кліч. | – Клічаўскі |
| Красн. | – Краснапольскі |
| Кругл. | – Круглянскі |
| Крыч. | – Крычаўскі |
| Маг. | – Магілёўскі |
| Мсц. | – Мсціслаўскі |
| Слаўг. | – Слаўгарадскі |
| Хоц. | – Хоцімскі |
| Чав. | – Чавускі |
| Чэрык. | – Чэрыкаўскі |
| Шкл. | – Шклоўскі |

# Словы, некаторыя словаформы, словазлучэнні і спалучэнні слоў

## А

**АБАДДЗЯ́** ж. Жэрдка з вядром у калодзежным жураўлі. Нада новую абадзьзю, плоха ваду набіраць. Замасточча. Глуск.

**АБДЗЁРКІ** мн. Абадраны ад кастрыцы лён. Бывала маці застыўляла абадзёркі прясць, гуляць ні пускала. Сухары. Маг.

**АБДЗІРА́НКА** ж. Вотруб'е. У нас нескалькі мяшкоў абдзіранкі засталося. Дрыбін.

**АБЕ́Я** ліч. Абедзве. Ёсьць дзьве дачкі. Абея вучацца ў Мінску. Хоцімск.

**АБЛЕ́ЗНІК** м. зневаж. Чалавек з аблезлым тварам. Шчэ й аблезьнік абзываецца. Сядзеў бы ўжо ціха, як мыш пад мятлою, а ён: "Няправільна! Няправільна!". Хамінічы Гор.

**АБЛЫ́СІЦЬ** зак. 1. Зрабіць лысым. 2. Абчасаць бервяно. Ляжыць дрэва, дык я думаю дай аблышу яго, каб ні згніло. Чырвоная Слабада Бых.

**АБНЯ́ЦЬ** зак. 1. Абняць. 2. Напаткаць. А пошля ў цябе, мая суседачка, такая ж беда, няшчасьця абняла: і твой хазяін памёр. Свяцілавічы Бял. 3. Акружыць. Немцаў тады з усіх бакоў абнялі. Рыкі Маг.

**АБРЫТА́НТ** м. Неакуратны чалавек. Заплікніш да пацьцягні штаны, ходзіш, як абрытант. Н. Аляксандраўка Чав.

**АБРЫ́ЧАНЫ** прым. Пракіслы (пра малако). Абрычанае малако дзеці ні хочуць есьць. Замасточча Глуск.

**АБРЫЧАНЯ́ЦЬ** зак. Пракіснуць (пра малако). Толькі карову падаіла, а ўжэ малако абрычаняла. Замасточча Глуск.

**АБСА́ДА** ж. Асада; аправа (для вокан і дзвярэй). Зьдзелалі апсаду толькі для вокан у новую хату, а дзверы старыя – нікрасіва. Бабровічы Маг.

**АБСА́МБЫЛЬ** м. Ансамбль. Людзей было дужа многа, апсамбыль з горыда прійзжджаў. Сухары Маг.

**АБШЫВА́НКА** ж. 1. Дошка, якая прымацоўваецца да воза. Прыбі апшыванку да воза, а то ўсё сена растрасецца. Лубнішча Маг. 2. Лодка, якая робіцца з дошчак. Раньшы дзелылі дуўбанкі, а цеперя толькі дзелыюць апшыванкі – і быстра і культурна. Лабковічы Крыч.

**АБЫ́ЙМЫ** мн. Абдымкі. Бяссовесны, пад мухай да кожнай у абыймы лезець. Прыхабы Бял.

**АБЫ́РЫЦЬ** зак. Заленавацца. А ты, як я пагляджу, саўсім абырыла. Нічога зьдзелыць ня хочыш. Смаліца Бых.

**АГАМЗЕ́ЛЫ** дзеепрым. Ашалелы. Кот наш штосьць, як агамзелы, носіцца па хаце. Прыхабы Бял.

**АГАМЗЕ́ЦЬ** зак. Здурэць, ашалець. Агамзеў ты ці што? Нашто столькі п'еш? Прыхабы Бял.

**АГДЗЕ́, АЙДЗЕ́** прысл. Дзе. Агдзе парцізаны былі, ім людзі чым маглі пумугалі. Айдзе мы праходзілі, нас хлебам-соллю сустрікалі. Макеевічы Клім.

**АГРЭ́БЧЫК** м. Гліняны посуд, жбанок. Доча, прінясі с погріба агрепчык сы сьмітанью. Немерка Дрыб.

**АГО́РЫЦЦА** зак. Прывыкнуць. Спачатку цяшка было, а посьлі агорыўся. Цяперя малец што нада. Клімавічы Шкл.

**АДВАРА́НКА** ж. Адвараная бульба ("у мудзірах"). Адваранку трэба есьці гарачую, калі астынець, то саўсім нісмачныя. Чырвоная Слабада Бых.

**АДВЯРНУ́ЦЬ** зак. 1. Адвярнуць. 2. Адтапіць (пра малако). Нада адвярнуць кіслае малако на тварёх. Бярозкі Хоц.

**АДГАВЕ́ЦЦА** зак. уст. Прычасціцца. На масьляніну сырам адгаўляюцца. Лабковічы Крыч.

**АДЗІЯ́ЛА** н. Коўдра (байкавая, шарсцяная, ватная). Раньшы адзіялыў ня знали, былі дзярюгі і ўсё. Шавароўка Гор.

**АДЗІЯ́ЛЫ Ў ДЫМКІ І НІЦІКІ** спалуч. Перабіраныя, узорыстыя коўдры, посцілкі і інш. Адзіялы ў дымкі і ніцікі – узорыстыя адзіялы, зь льняных нітак. Тубушкі Бял.

**АДПРА́ВІЦЬ СТАЛЫ́** спалуч. Справіць хаўтуры па нябожчыку. У суботу мы адправілі сталы па Адасю. Ой, Божа, Божа! Прысна Маг.

**АДСАЛЕ́ВАНКА** ж. Абабраная, пасоленая і вараная бульба. Ці будзеш есьць атсаліванку? Роськаў Клім.

**А́ДРЫСТ** м. Адрас. У мяне пяць адрыстоў зь Мінска. Каменка Гор.

**АДСТРАПАЛІ́ЦЬ** зак. Вельмі добра, адмыслова зрабіць якую-небудзь рэч. Вод гэта атстрапаліў палічку, хоць вязі яе на выстаўку. Брожа Бабр.

**АД'ЯДА** аг. зневаж. Надаедлівы чалавек. Дай ты яму тую кнішку, хай серца не ад'ядаець ад'яда гэтыя. Хамінічы Гор.

**АЖЫГА́НЕЦ** м. зневаж. Той, хто хутка зношвае адзенне. Табе хоць жалезны касцюм падавай – раз-два парвёш, ажыганіц! Хамінічы Гор.

**АКАШЫ́ЦЬ** зак. Узяць, ахапіць. Як прыйшлі мы ў лес, дык акашыў мяне страх. Сафійск Маг.

**АЛІ́-ТАКІ́** часц. Усё ж такі. Алі-такі гэты першы хронт прайшоў. Так мы і асталіся жывыя. Чарнаручча Шкл.

**АМБЕ́Ц** м. Канец, смерць. Вось як трэсну, так і амбец табе будзець. Рэкта Гор.

**АМЦІСЛА́Ў** м. Мсціслаў. Амціслаў ат нас трыццаць кіламетраў. Варанёва Крыч.

**АНЫ́ДАСЬ** прысл. Нядаўна. Аныдась былі ў мяне госьці з Мугулёва. Семукачы.

**АНБА́РЬ** м. Амбар, свіран. Сяньні прівезьлі з анбаря жыта, нада ш змалоць як-та. Бярозкі Хоц.

**АНДАРАЧО́К У ТРЫ ПО́ЛКІ** спалуч. Святочная спадніца. Андарачок у трі полкі, кохта палатняная – вот і ўсе мае былі пріборы. А на ногі – дзерівяшкі. Заходы Шкл.

**АНТАБУ́С** м. Аўтобус. Антабус паехаў, вот і спазнілася. Дзікае Глуск.

**АНЫ́** займ. Яны. – Чуем: "Парцізаны йдуць". Глядзім: аны такія важныя, бытта армія сапраўдная. Клічаў.

**АПАСЛІ́, АПАСЛЯ́** прысл. Пасля. Падруга пышла раньшы замуж, а я тады апысьля (і). Сухары Маг.

**АПО́ЎДЗІНА** ж. Апоўзіна. Апоўдзіны падалі на стох яшчэ ні было дажджу. Замасточча Глуск.

**АПО́ЎЗЛЫ** прым. Фізічна слабы. Сёліта нейкіі парасяты апоўзлыі. Чырвоная Слабада Бых.

**АПРЫЧО́НІК** м. Найбольш смачны кавалак чаго-н. У цябе губа ні дура: ты толькі апрычонікі любіш. Чырвоная Слабада Бых.

**АРАХІ́** мн. зб. Арэхі. На кыляды семячкоў, аряхоў пыныбіраюць ды лускаюць. Рыкі Маг.

**АРА́ЦЬ У СКЛАД** словазлуч. Араць барознамі да цэнтра ўчастка. На зіму аром у роскід, вясной – у склад, таму і поля роўнае. Чырвоная Слабада Бых.

**АРГІ́НЯ** ж. Геаргіна. У мяне ў палісадніку адна аргіня ёсьць, красівая-красівая. Сухары Маг.

**АСА́ДЗЬБА** ж. Сядзіба. Асадзьба мая невялікая, усяго дзесяць сотак. Але зь мяне хопіць. Мокрае Бых.

**АСКАЛЁПКІ** мн. Трэскі. Дрэвы пачасалі, а аскалёпкі засталіся гнісьці. Чырвоная Слабада Бых.

**АСЛАБАНІ́ЦЦА** зак. Вызваліцца. Пака аслабаніліся ад гэтай фашысцкай нечысьці, многа чаго перажылі і страцілі. Слабада Бабр.

**АСТЫ́ЦЬ** зак. Прастудзіцца, захварэць. Ета я, наверна, на лузе астыла, вот і кашаль б'ець. Н.Аляксандраўка Чав.

**АСУ́ШКІ** мн. Самаробнае пячэнне. Раніцой маці напякла смачных асушак. Мы ў карманы на работу бралі – і елі ў перакуры. Бабровічы Маг.

**АСЦЕ́НЧЫКІ** аг. Адросткі пер'яў пасля лінькі птушак. У птушак паявіліся ўжо асьценчыкі. Праўда, йшчэ слаба відаць. Лубнішча Маг.

**АСЦЮ́ЛЬКІ** мн. зб. 1. Асцюкі. 2. Рэшткі ад аўса. Колькі асьцюлік засталося? Кепскі ўраджай у гэтым годзі. Тударава Шкл.

**АТ'Е́ТУЛЯ** прысл. Адгэтуль. А ты пачынай браць ат'етуля. Рэкта Гор.

**АТМА́ЛКУ** прысл. Ззамаладу. Бацька мой добры грыбнік атмалку. Чырвоная Слабада Бых.

**АТТУ́ЛЯКА** прысл. Адтуль. Загналі нас у балота, думалі аттуляка і не павылазім – усё перажылі, перабаролі, слава богу, цэлыя засталіся. Брыцалавічы Асіп.

**АЎЖО́ Ж** прысл. Ужо; як-небудзь. Ну, аўжо ж зраблю і бес цябе. Ні лезь! Ні тваё дзела… Лубнішча Маг.

**АХАЛАДЗЕ́ЦЬ** зак. Прастыць. Лезь, дзед, на печ, а то саўсім ахаладзеў, адагрэйся хоць. Рыкі Маг.

**АЦІ́РАК** м. Гультай, абібок. І аціpак аціраецца тутацькі – чаго захацеў, навернаш ні работы? Горкі Чэрык.

**АЧАМУ́ДРА** аг. Непрычэсаны чалавек. З етага ачамудры смяяліся ўсе на вуліцы. Во мода пашла! Дзеўкі як хлопцы, хлопцы як дзеўкі. Усе валасатыя. Княжыцы Маг.

**АШЧАЛЁПЫ** мн. груб. Сківіцы. Так трахнулі, як толькі ашчалёпы на месцы засталіся. Прыхабы Бял.

**АШКРУПЯНЕ́ЦЬ** зак. Спалохацца, аслупянець. Ён як убачыў мяне, дык і ашкрупянеў. Чуць яго ўспакоіла. Смаліца Бых.

**АШУ́РАК** м. $^1/_4$ сажня дроў. Забяры сабе етый ашурак, хай ні гніець тута. Лубнішча Маг.

**АШЫ́БІЦЬ** зак. Апанаваць. Выйшла ноччу, дык мяне як ашып страх! Лець у хату звярнулася. Сафійск Маг.

## Б

**БАБА́К** м. Дурань. Нічога ні зрабіць, дарагая: гэты бабак нікога ні слухаіць. Прыхабы Бял.

**БА́БКА** ж. Карэнны зуб. У мяне ўжо ўсі бапкі павылітали. Нада йціць да зубнога, хоць і баюся. Чарнаручча Шкл.

**БА́БКІ** мн. Петлі, закруткі на нітках. Ужо надакучыла етыя бабкі разблытываць. Хай яно гаріць такое прядзіва! Мхінічы Красн.

**БАДАВО́** н. Камбайн. Хадзем паўз рэчку глядзець бадаво. Н.Аляксандраўка Чав.

**БАЙСТРЫ́К** м. Жэрдка, якой уціскаюць воз з сенам, саломай і інш. Так уціскалі воз, што аж байстрык зламаўся. Прышлося новы высякаць. Чырвоная Слабада Бых.

**БАЛАБА́ЙКА** м. Званок, які чаплялі жывёле на шыю. Трэба, як раней, прычапіць балабайку нашаму цяляці, адбіваецца, чортава косць, ад стада. Лубнішча Маг.

**БА́ЛКІ** аг. Узгоркавая мясцовасць. Дзеці ўсё ў балкі хуваюцца. Сухары Маг.

**БАЛО́НЧЫК** м. Слоік, бідончык. Балончыкі вывісіла на прясла сушыць. Харошкі Маг.

**БА́НДА** ж. 1. Банда. 2. Статак кароў. У нашай вёсцы чатыры банды кароў. Пасём іх на выгарадзі. Прысна Маг.

**БА́НЬКА** ж. Спражка. Як дам січас банькаю, дык будзеш знаць, як цягацца з хлапцамі і ня дзелыць урокаў. Н.Аляксандраўка Чав.

**БАНШУ́Р** аг. Нагуленае дзіця. Прыдбала сабе баншура, а цяперацька цацкайся. І замуж ніхто ні возьміць. Прысна Маг.

**БАРАБУ́ЛЯ** ж. Бульба. У етым годзі добрыя барабуля была. Гарбовічы Чав.

**БАРАДА́** ж. Перан. Пасма няскошанай травы. Ідзі, сынуля, паглядзі на свае бароды, вазьмі касу і паскашай, каб людзі ні сьмяяліся. Прыхабы Бял.

**БАРА́НАЧКІ** мн. Кветкі чабору. Мы бараначкі заварваем на чай, дужа прыятны запах. Прыхабы Бял.

**БАРАХЛІ́ЦЬ** незак. Працаваць з перабоямі. Нешта ваша машына (магнітафон) барахліць Клімавічы.

**БАРАХЛО́** аг. 1. Барахло. 2. Чалавек, які многа гаворыць. 3. Хлус. Гэты барахло табе нагаворыць, ты толькі слухай яго. Вот такей мой сказ. Семукачы Маг.

**БАРГА́Н** м. Плот. Развесіла сваё бяллё на баргане і хваліцца. Было п чым. Загацце Кліч.

**БАЎДЗІ́ЛА** аг. 1. Абоўдзіла. 2. Чалавек, які ходзіць паволі, шоргаючы нагамі. Куды ж ты пайшоў, баўдзіла етакі. Тут жа я памыла. Сумарокава Маг.

**БАЦВІ́ННІК** м. Бацвінне. Бацьвіньнік во які вымахаў, а бульбы можа і ня быць. Нада яго скасіць – корм харошый будзець. Клімавічы.

**БАЦІ́НКІ НА СКРЫ́ПАХ** спалуч. Чаравікі са скрыпам. Красівыя былі бацінкі на скрыпах. Але адны на ўсю вёску. Татарка Кругл.

**БЕ́ГАНЦЫ** мн. Бежанцы. У мяне было многа тады бегынцаў ны хвацеры. Сафійск Маг.

**БЕЖЧ** незак. Бегчы. Нада бежч на херму. Сласцёны Чав.

**БЕ́ЛАЯ НЯДЗЕ́ЛЯ** спалуч. Уст. Апошні тыдзень перад вялікаднем. Заўтра пачынаецца ўжо белая нядзеля. Нада ўсё вымыць, вычысціць, сустрэць сьвята як мае быць. Княжыцы Маг.

**БЕЛЬ** зб. Уст. Ніткі, якія раней пралі і бялілі. Там на рэчкі, на быстрой, там малодка бель бяліла. Сухары Маг.

**БІЁМІН** м. Гультай. Етый біёмін нічога ня хоча рабіць. Бадзяецца толькі с канца ў канец вёскі. Прысна Маг.

**БІТЛА́ЖКА** ж. 1. Біклага, біклажка. 2. Паўлітра. 3. Бутэлька. Прыкупім, бывала, бітлашку сівухі – і дзела с канцом. Заполле Шкл.

**БІЦЬ АЛЕ́Й** слоазлуч. Саматужна рабіць алей. Алей білі самі. Бульбу атваріш і макаеш. Заходы Маг.

**БІЦЬ ПЛАСТЫ́** спалуч. Рабіць перабіркі сена. Бі скарэй пласты, бо, мабуць, дош будзя. Н.Аляксандраўка Чав.

**БО́ДКА** ж. Бадлівая карова. Гэтай бодкі баялася ўся вёска. Княжыцы Маг.

**БО́ЦІХ** м. Пуга; батог. Сьцебануў боціхам, так зразу за ўрокі сеў. Біскупка Бял.

**БРА́КНУЦЬ** зак. 1. Бразнуць ч.-небудзь. 2. Сказаць, не падумаўшы. 3. Пазваніць па тэлефоне. Брадкнуў, што сымому плоха стала. Выдранка Красн.

**БРАТА́НІЧ** м. Пляменнік; сын брата. Мой братаніч дужа разумны, у Маскве ў акадземіі вучыцца. Прыхабы Бял.

**БРО́ЙЛІЦЬ** незак. Рабіць нязначную шкоду. Во на купалу ёшчэ ходзююць ноччу і бройлююць. Праўда, ні так, як раней: апасаюцца. Клімавічы.

**БРО́ЎКА** ж. 1. Палоска зямлі каля пасеву бульбы, на якой расце трава. 2. Узмежак. Трэба ж броўку скасіць, а то ўжэ трава пастарэла. Брожа Бабр.

**БРУКАВА́ЦЬ** незак. 1. Буркаваць. 2. Размаўляць (пра закаханых). Брукуюць удваёх, як тыя галубы. Акалінцы Маг.

**БРУШЛЕ́Т, БРУСЬЛЕ́Т** м. Бранзалет. Тыя разы брушлет на руках носюць. Глянь-ка, як твой брусьлет блішчыць красіва. Вусце Чэрык.

**БРЫЛЁК** м.л. 1. Невялікі капялюш. 2. Карніз над печчу. Сьпічкі ўсягды кладзём на брылёк: тамацька суха. Чырвоная Слабада Быx.

**БРЫЛЬ** ж. 1. Капялюш. 2. Выступ (у печы). Глядзі не стукніся аб брыль, бо у нас ля дзвярэй адразу печ стаіць. Чырвоная Слабада Быx.

**БРЫ́НДЗІ** мн. Штаны-галіфэ. Ай, красавец быў. Як адзене гэтыя бryndzi, усе дзіваяцца. Во прыгожы быў. Шчамілаўка Бял.

**БУГО́НЯ** ж. Загон, паласа ўзаранага поля. Во зараз дзесяць кавілак адмералі і займём новую бугоню. Вусце Чэрык.

**БУ́ДКА** ж. 1. Будка. 2. Будова над паграбам. Ету банку занясі ў бутку. Тамыцька пыстаў у самый вугол. Мхінічы Красн.

**БУЛДЭ́ШКА** ж. Палка з круглым канцом, якою б'юць на бубне (звычайна самаробная). Бубны рабілі с сабачай шкуры, рабілі бічайку шырокую, круглую і булдэшку такую з ручкай. Сухары Маг.

**БУ́ЛЬНІК** м. 1. Быльнік. 2. Бацвінне (звычайна быльбы). Пасьля дажджу бульнік так і прэць угару, бульбы саўсём ня будзець. Клімавічы.

**БУТУ́РЫЦЬ** незак. Трыбушыць, рабіць беспарадак. Аленка, донька, не бутуры ў хаце. І так ні спраўляюся ўбіраць. Заполле Бял.

**БУХА́ТКА** ж. Буханка (хлеба). Ня сьпёк – ні бухатка, ні радзіў – ні дзіцятка. Чарнаруччa Шкл.

**БУШМАКІ́** мн. Боты. Чаго ета твае бушмакі валяюцца пасрадзі хаты. Н.Аляксандраўка Чав.

**БЫВА́ЛЫШНЫ** прым. Былы. Спомнім нашу бывалышную жызьнь, як нам было ціжало, ніякай вісялосьці, сьлёзы на вочы набягаюць. Свяцілавічы Бял.

**БЫКО́НКА** ж. Дошка для мыцця бялізны. Прынясі с чулана быконку, сьціраць нада. Смаліца Быx.

**БЫРК** гукаперайм. Пырх, скок. Я із лоткі бырк – і ў кусты. Стрілялі па мне і, слава богу, ні пупалі. Лабковічы Крыч.

**БЫЦЬ У АТЛУ́ЧКІ** словазлуч. Не быць, не прысутнічаць дома. Я быў у атлучкі, езьдзіў у млін, таму і жывы астаўся. Астатніх немцы пабілі і папалілі. Слабада Бабр.

**БЭ́ЙБУС** м. Гультай. Во ўжэ бэйбус, толькі і зная што есьці. Брожа Бабр.

**БЭ́РЛА** м. абразл. Здаровы чалавек, які не працуе; тунеядзец. Божа міласьцівый, такій бэрла, а на печы ляжыць, клапам ногі лічыць. Аляксандраўка Маг.

**БЯСЕ́ДАВАЦЦА** незак. Мірна і спакойна гутарыць. Прыйшлі ў сваты, сядзяць, гарэлку п'юць, бясконца бяседуюцца. Прыхабы Бял.

# В

**ВАДЗІ́ЦЬ КОНЕЙ НА ЛУГ** словазл. Вадзіць, пасвіць коней. У дзецтві пасьці каждую ноч вадзілі коней на луг. Трысціно Хоц.

**ВАДНЕ́Й** прысл. Дажджлівей. Калі вадней, так шмат бывае грыбоў. Год ваднейшы – грыбоў шмат. Клімавічы.

**ВАЗВЕЛІЧА́ЦЬ** незак. Ушаноўваць. От мяне парція і правіцельства вызвілічалі дык вызвілічалі – і вордзен маю, і медалі, і граматы ўсялякія. Галачоўка Чав.

**ВАЛЬТАНУ́ТЫ(Й)** прым. Ненармальны, звар'яцелы. Нейкій прыяжджаў правяраць, чэснае слова, вальтанутый – крычаў, рукамі махаў, гразіўся, а было п чаго! Магілёў.

**ВАЛЭ́НДАЦЦА** незак. Цягацца, туляцца. Валэндаецца недзе аж да ночы. Дунаёк Бых.

**ВАЛЮ́ШКА** ж. Вялікі кавалак гліны. Гліна ўся ў валюшкі падзелылася. Праваловшня Клім.

**ВА́НЬКА МО́КРЫ** спалуч. Кветка "агеньчык". Ужо так прыгожа цвіце Ванька мокры, што вачэй ні адвесьці. Семукачы Маг.

**ВАРСА́ЦЬ** незак. Біць нагамі. Фашысты етыя, ірады, прідуць і варсаюць усіх падрат сваімі кованымі бацінкамі. Больна, а мы маўчым. А іх ета яшчэ больш раз'ятрывае. Брыцалавічы Асіп.

**ВАЎХВІ́ЦЬ** незак. Варажыць. Ваўхвяць ужо менш і менш: людзі ўсё больш і больш ня вераць. Чырвоная Слабада Бых.

**ВА́ШПІТАЛЬ** м. Шпіталь. Мой чалавек акантужаны ліжаў у вашпіталі. Сафійск Маг.

**ВЕ́РХНЯЕ** прым. і наз н. Верхняе адзенне (мужчынскае і жаночае). Шылі з палатна і ніжняе, і верхняе. Тубушкі Бял.

**ВЕТРАВА́Я БАНЦІ́НА** спалуч. Бакавыя дошкі ў страсе, якія прыкрываюць салому, каб вецер не разносіў. Ідзі, стары, накрый в.б. Тубушки Бял.

**ВЕ́ХЦІК** м. 1. Вехцік. 2. Кавалак тканіны для мыцця пасуды. Дзе ета вехцік дзеўся, нечым посуд мыць. Н.Аляксандраўка Чав.

**ВЕЦІНА́Р, ВІЦІНА́Р** м. Ветэрынар. Вунь паехаў віцінар, заві скарэй. Мацеевічы Маг. Трэба зноў вецінара зваць да каровы, штось ёй ніздаровіцца, есьць ня хочаць. Бабровічы Маг.

**ВІЗА́НКА** ж. Вялікі сноп ільну, звязаны пасля ўборкі. Ны полі ні зысталысь дэйжа апошняя візанка, так хорыша ўбралі, проста любата. Мхінічы Краснап.

**ВІЗЁЛ** м. Вузел. Зывяжы хустку візлом, а то вецір зьдзярець і панясець. Сухары Маг.

**ВІКАЎСЯ́НКА** ж. зб. Віка-аўсяная сумесь. Даўно нада было вікаўсянку скасіць. Вусце Чэрык.

**ВІ́ЦЦА ТРУБО́Й** словазл. Добра расці (пра траву). Дажджы йшлі і трава трубой вілася. А вот убіраць трунна было. Многа пагніло. Дасовічы Маг.

**ВІЧЧЫПА́ЦЦА** зак. Вылечыцца, паправіцца. Доўга ліжаў у бальніцы, надзёжа малая была, але ён віччыпаўся. Сухары Маг.

**ВІ́ШАЛЬНІЦА** ж. Шыбеніца, віселіца. Немцы – етыя гады – ні гнушаліся савецкіх людзей на вішальніцу вешэць, мяне лавілі, хацелі так жа павесіць за связь зь пырцізанамі. Макеевічы Клім.

**ВО́БЛАК** м. 1. Воблака. 2. Уст. Вялікі кош для перавозкі бульбы і інш.; палукаш. Раней у воблаку вазілі і бульбу, і журавіны. Прыхабы Бял.

**ВО́БЛЫК** м. Кара з ліпы. Дзядзя! Зрабі мне з воблыка добрую дудку. Ну, зрабі, пажалуста! Загацце Кліч.

**ВО́БУЙ, ВО́БУЎ** м. зб. Абутак. Купілі цёплы вобуй дзецям, ато ўжо зіма скора. Каўшова Мец.

**ВО́ГНІК** м. Нарыў; болькі на губах. У маіх дзетак вогнік высыпаў на губах, так мучацца, есьці няма як. Прыхабы Бял.

**ВО́ЙСЦЕР** кароткі прым., перан. Востры. Етый хлопец войсцер на язык, ні глядзі, што бледный. Н.Аляксандраўка Чав.

**ВО́РАК** м. Мяшок. Вазьмі ў нас ворак бульбы. Лобча Чэрык.

**ВО́РАХ** прысл. Шмат, многа. Назьбірала ворах цэлый рызьзя, хоць бы тряпышнік ездзіў. Н.Аляксандраўка Чав.

**ВО́РША** ж. Орша. Ворша ад мяне нідалёка. Каменка Гор.

**ВО́СІМІСЯТ** лич. Восемдзесят. Восімісят вёрст шлі пяшком, но ні папалі ў лапы к фашыстам. Макеевічы Клім.

**ВУГНЯ́ВІЦЬ, ВУГНА́ЦІЦЬ** незак. Гугнявіць. Вугнявіў нешта ніпанятныя. Каўшова Мец. Ужо большэй пачаў вугнаціць. Заполле Шкл.

**ВУ́ДНУЦЬ, ВУ́ТНУЦЬ** зак. Стукнуць, ударыць. Пірістань бегыць, а то січас вудну палкый. Бярозкі Хоц. Так боль вутнуў, аж звініць у галаве. Дзікае Глуск.

**ВУ́ТЛЫ(Й)** прым. Хілы, слабы, нядужы. Нешта вутлы хлопец, дзе яму такую дзяравіну падымаць, яму толькі паперкі якія перапісваць. Хамінічы Гор.

**ВУЧО́БЫ** мн. 1. Вучоба. 2. Навука, адукацыя. У савецкій час для ўсіх аткрыліся вучобы. Абідавічы Бых.

**ВУША́ТАК** м. Вялікая драўляная пасудзіна (з вушкамі, каб было лепш насіць). Наклалі поўны вушатак сала, будзя на ўсю зіму з бульбай што есьці. Сялец Бых.

**ВУША́ТКА** ж. Курыца, у якой па абодвух баках галавы вырастаюць чубкі. Ну вось і зноў вушатка зайшла ў агарод. Пайдзі-ка, сынок, пагані, ато ўсё паграбець Лубнішча Маг.

**ВЫ́ГАРАДЗЬ** м. Выган. Пасвім кароў на выгарадзі. Прысна Маг.

**ВЫ́ЗЫБАЦЦА** зак. Вырасці. Вызыбаўся на лес гледзячы, а цяперацы рабіць лянуецца. Скугаты Бял.

**ВЫ́КАЧАЦЬ** зак. Выгадаваць. Усіх дзевяцёх выкачала. І цяпер усе жывыя і здаровыя. Слава богу! Шчамілаўка Бял.

**КУПЛЯ́ЦЬ ПРЫДА́НЫЯ** словазл. Госці маладой (у вяселлі) кагда прівозяць нявесьціна пріданыя, то ўсе вылазюць з-за стала і ідуць пріданыя выкупляць. Доўга таргуюцца, покуль сойдуцца. Вітунь Касц.

**ВЫ́ЛУПАК** м. зневаж. Вірлавокі чалавек. Дзе ён дзеўся, вылупак той? Што мы ўсе будзем аднаго ждаць? Прыхабы Бял.

**ВЫ́ЛЬВАК** м. Вылівак? Неданошанае яйцо. У гняздзе шмат выльвакаў, нехта прыбіў, наверна куріцу. Прысна Маг.

**ВЫ́ПЯКАНЫ** прым. вельмі яркі, выразны. Заўтра будзець мароз, на небе зоркі, як выпяканыя. Н.Аляксандраўка. Чав.

**ВЫ́СВАТЫЦЬ** незак. Выбіраць сватаючы. Раньшы есьлі ні высватыюць дзяўчыну, нікакой свадзьбы і быць ні магло. Лабанаўка Чэрык.

**ВЫ́СМЫГЛЫ(Й)** прым. Тонкі і высокі (пра чалавека). Як пуга, высмыглы гэты Лёня. Як ідзе, дык здаецца, што вот-вот пераломіцца напалам. Хамінічы Гор.

**ВЫ́СЦІ** мн. Восці. Да вайны рыбу лавілі сключыцільна высьцямі. Мой хызяін раз пуймаў высьцямі сама. Лабковічы Крыч.

**ВЫ́ЎЧЫЦЬ** зак. Вывучыць. Ня йдзёць нікуда, пакуля ўсяго ня выўчыць. Каменка Гор.

**ВЫ́ЦЯЖКІ ПОЛНЫЯ** спалуч. Суцэльная загатоўка (для ботаў). Маю пару выцяжак полных, яшчы ад вайны ліжаць. Вусце Чэрык.

**ВЫ́ШЫЎКА** ж. 1. Вышыўка. 2. Самаробны пояс (звычайна ў штанах). Колісь у штанах у майго была прыгожая вышыўка, так хварсіў, так хварсіў... Мхінічы Краснап.

**ВЯЛІ́КАННЯ** н. уст. Вялікдзень. Хто прасыпаў у первый дзень вялікання заутреню, таго ў панядзелык акачувалі вадой. Паршына Маг.

**ВЯРХНЯ́К** м. 1. Верхняя частка асадкі дзвярэй, акон і інш. Суседзь іздзелай мне вярхняк у дзьвярах, бо мой згніў саўсём. Н.Аляксандраўка Чав. 2. Верхні камень (у жорнах). Трэба вярхняк у жорнах перамяніць: штось распадаецца. Лубнішча Маг.

**ВЯРХО́ЎЯ** н. Кудзеля. На штаны раньшы вярхоўя пралі. Татарка Кругл. Ета во што зьдзярэш із лёну, вярхоўя называлася. Заходы Шкл.

**ВЯРБЛЮ́ДНЫЯ ЛЮ́ДЗІ** спалуч. Шкодныя людзі. Вярблюдныя людзі – ета нехарошыя людзі. Сялец Бых.

**ВЯСНО́ЎСКІ** прым. Вясенні. Вясноўскі дзень пралятае нізаметна, хоць бывае і многа рознай палявой работы. Слабодка Бабр.

**ВЯСО́К** м. Замок. А ў іх на дзвірях вясок вісіць, к йім ня йдзіця. Малінаўка Бял.

**ВЯХА́** ж. Знак забароны. Там віху паставіў дарожный, нікасіця тамацькі. Рудня Слаўг.

# Г

**ГА́ДСКАЕ ПЛЕМЯ** спалуч. Злыя людзі, якіх не паважаюць, але баяцца. Э, ета такое гатскае племя. Вусце Чэрык.

**ГАЛГАТА́ЦЬ** незак. Гергетаць. Чую фашысты галгочуць, дак я ў калодзяц, а яны і ні дадумаліся туды пагглядзець. Так і засталася жывая. Гонча Кліч.

**ГАЛДА́ДА** ж. зневаж. Неахайная дзяўчына. Расьцець у цябе нейкая галдада, а ні дзеўка. Бракава Маг.

**ГАЛУБЕ́Ц** м. 1. Від стравы. 2. Голуб. Галубцы жывуць у пуні, а ў хаці ня хочуць. Старына Мсц.

**ГАЛУБЯ́ТНІЦА** ж. 1. Жанчына, што любіць галубоў. 2. Ласк. Галубка. Ой, цёшча мыя, галубятніца, ныварыла галубей: заўтря пятніца. Шамашы Слаўг.

**ГАЛУ́Й** аг. Галадранец. У іго ніколі нічога ні было, у галуя гетыга. Што п ні савецкая ўласць, прапаў бы. Сумарокава Маг.

**ГАЛУ́ШКІ** мн. 1. Клёцкі. 2. Хаўтурны абрад. 3. Яда на хаўтурах. Пасля пахавання ўсе прыйшлі на галушкі – і тыя, каго запрашалі, і тыя, каго ні запрашалі. Праўда, ні бяды – усім хваціла і пітва, і закускі. 4. Бульба, звараная цэлай. Галушкі такея разварнэя сяньні палучылісь. Малая Краўня Касц.

**ГАЛЬДО́БА** ж. Высокая, худая дзяўчына. Ну й ці дзяўчына ета: вялікая і худая – гальдоба адным словам. Сумарокава Маг.

**ГАЛЯНДЭ́РСКІ** прым. 1. Чужы. 2. Вялікі. Які вунь смешны галяндэрскі чалавек. Дзікае Глуск.

**ГАМАБІ́ЦЬ** незак. Берагчы. Гэта плацця я дужа гамаблю, я ў ім йшчэ нізамужам хадзіла. Заполле Бял.

**ГАМЕ́ШНІК** м. Качарэжнік. Апяць у цябе брудна ў гамешніку. Скажы-ка мне, што ты за хазяйка? Загацце Кліч.

**ГА́НАЧКІ** мн. Сходкі, сходы. Каждый год раўняем ганачкі ў паграбню. Цвёрдаў Бых.

**ГА́НТА, ГО́НДА** ж. Гонт, гонта. Наша хата была гантой накрыта сьпірва. Цяцерын Бял. Гондаю накрою, дак да сьмерці хопіць. Александрыя Шкл.

**ГАНТА́Р** м. Вялікі цвік. Тут малый гвозьдзь ні падойдзя, тут трэба гантар. Чырвоная Слабада Бых.

**ГАНЯ́ЦЬ КАРО́Ў** словазл. Пасвіць (кароў). Зь дзецтва і коней вадзілі, і кароў ганялі – усё рабілі. Трысціно Хоц.

**ГАРБУДЗЯНЯ́** н. 1. Семя гарбуза. 2. Пра малое дзіця. Гарбудзяняты паджараныя дужа смашныя. Сумарокава Маг. І як ні любіць гарбудзяня ета. Сумарокава Маг.

**ГАРБУЗО́ЎНІК** м. зб. Гарбузнік. Гарбузоўнік коліцца. Шаламы Слаўг. Гарбузоўнік сьцеліцца. Амхінічы Чав.

**ГАРГАТА́ЦЬ** незак. Гергетаць (пра гусей). І чаго яны сёння гаргочуць, етыя гусі. Ідзі-ка яшчэ раз пакармі, ні лянуйся. Мхінічы Краснап.

**ГАРМО́НЯ** м. 1. Гармонік. 2. Талака. 3. Аўтобус з прычэпам. Гармоня наша што йта сапсавалася. Паршына Маг. Во гармоню пусьцілі п на етай лініі. Магілёў.

**ГАРЧЭ́ШНІК** м. Чалавек, які робіць гліняны посуд. По вёсцы ізноў ходзюць гарчэшнікі, алі ж ніхто ў іх нічога ні купляіць – вот ні вязець бедным. Бабровічы Маг.

**ГАРЫСО́ЎКА** ж. Прыгожая (шарсцяная) хустка. У магазін прывезьлі гарысоўкі, ураз бабы расхваталі. Скрыпліца Кір.

**ГАРЭ́ЦЬ** незак. перан. Блішчаць (пра парадак і чысціню). Прыдзіш у кварціру – аж гарыць усё кругом. Во ета хазяйка! Во ета чысьцюля! Клімавічы Шкл.

**ГАСІ́ЦЬ** незак. Бясконца аддаваць што-небудзь. Сколькі мы ім ні гасілі, а яны ўсё нешта нідавольныя. І што за людзі! Семукачы Маг.

**ГАЎРЫ́ЛА** ж. уст. Лучына (разам з лучнікам). Гаварылі: "Запаляй гаўрылу, будзем прасьць". Н.Аляксандраўка Чав.

**ГАЧА́ЧА** ж. Страва з канопляў, патоўчаных у ступе. Мар'я, прыгатуй нам гачачы. Давыдавічы Бых.

**ГАШЭ́ЛЬНІК** м. Кавалак. Як з'ясі гашэльнік мяса, тады й кыса, як пуга. Шаламы Слаўг.

**ГВАЗДЗЁ** н. зб. Цвікі. Тарчыць гэта гвазьдзё ўсюды, так і бойся ступіць і сесьць. Шчамілаўка Бял.

**ГІ́БАЦЦА** незак. Выгінацца. Балаты былі такія страшныя, асобенна калі пачнець гібацца пад нагамі, здэцца, на той сьвет ідзеш. Цяперака ўсё пасушылі. Баравіца Бабр.

**ГІ́БЕЛЬ** ж. 1. Гібель. 2. Мноства чаго-небудзь. У етым годзі было гібель грыбоў – і насалілі, і насушылі, і намарынавалі людзі. Прысна Маг.

**ГІ́ЛКА** ж. Палка. Гілкуй хырашо гіліць мячык. Шаламы Слаўг.

**ГІРГІТА́ЦЬ** незак. Гаварыць незразумела; гергетаць. Нешта гіргіталі ні па-нашаму. Точна, як немцы, у вайну. Чарнаручча Шкл.

**ГІ́ЎНІК** м. зб. 1. Вецце вярбы. 2. Вецце як корм. Высахшы гіўнік ідзець на корм жывёле. Заполле Шкл.

**ГЛА́ДКІЙ** прым. Тоўсты (пра паўнату чалавека). Вунь якая гладкая кабета пайшла. Як спераду, так і ззаду – любуйцеся людзі. Прысна Маг.

**ГЛУПЦЫ́** мн. Агульная назва пласцінчатых грыбоў. Сёліта глупцы паўсюдна растуць. Семукачы Маг.

**ГЛУ́СЕК** м. Глуск. Вот і Глусек мінулі. Засценак Глуск.

**ГЛУХА́Р** м. 1. Глушэц. 2. Курыца, у якой па баках галавы вырастаюць чубкі. Гэты глухар добра нясецца, увесь год ні перастаець. Княжыцы Маг.

**ГЛЫ́ЖЫК** м. Гарлач. У нядзелю глыжык новы купіла, а ўнучка сягоння яго разбіла. Так жалка, так жалка, што б вы толькі зналі. Мокрае Бых.

**ГЛЯДЗЕ́ЛКІ** мн. Груб. Вочы. Што ты глядзелкі свае ўставіў, ай бачыў даўно? Раманаў Краснап.

**ГНАЯВЫ́Я ВІ́ЛКІ** спалуч. Вілы для гною. Саўсім пылымаліcь нашы вілкі гныявыя. Ляхаўшчына Чав.

**ГНЯСЦІ́** незак. 1. Прыцiскаць. 2. Біць. Я яго п'янага гняту, гняту, а яму ходзь бы што. Накладаем воз, гняцём і возім дамоў етую салому. Шышава Гор.

**ГНУ́ЦІКІ** мн. Самаробныя сані (з гнутых палазоў). Гнуцікі – ета калі загінаецца дзерава. Вусце Чэрык.

**ГНЮ́СЛЫЙ** прым. Паскудны, брыдкі, агідны. На-ка, на-ка, есьлі ты такей гнюслый. Шаламы Слаўг.

**ГОЛАПЛЕ́ЧКА** ж. Жаночая сарочка (без рукавоў). Сыма пашыла сібе гылаплечку – вот і харашо. Бярозкі Хоц.

**ГО́НА** ж. Бабка (страва з дранай бульбы, выпечаная ў форме). Такая смачная гона, наелася з малаком, цеперся есці больш не хачу. Няраж Бых.

**ГО́РА НЕСХАДЗІ́МАЕ І НЕПЕРАНАСІ́МАЕ** спалуч. Вялікае гора. Штоп яе больш ніколі не было, етакей вайны. Гора было нісхадзімыя і ніпіранасімыя. Труханаўка Кругл.

**ГО́РСТКА** ж. 1. Жменя ч.-небудзь. 2. Пацёртая жменя (канапель, лёну і інш.) А ету горстку пакладзі ў тэй куток, яна якая-то рыжая. Мхінічы Краснап.

**ГРАБА́РКА** ж. Кош, карзіна (для бульбы). Больш німа куды сыпыць бульбу, ужо поўная грабарька. Сухары Маг.

**ГРАБЕ́Ц** м. Прыстасаванне ў касе. Пуламаўся грабец – і касьбе канец. Шаламы Слаўг.

**ГРАБІ́ЛКА** ж. 1. Конныя граблі. 2. Трактарныя граблі. Прыставілі мяне сённі да грабілкі. Галоўчын Бял.

**ГРА́БКІ** мн. Могілкі. На раданіцу ў нас ўсе ходзяць на грабкі. Магілкі абкладуць дзярном, пасьля садзяцца і п'юць, патом плачуць. Шаблі Касц.

**ГРАВІЛО́, ГРАВІ́НЬ** м. 1. Гравій. 2. Дарога з гравію. На дарогу гравіль возім – ат гразі спасаімся (з частушкі). Шаламы Слаўг. Шла гравінем, дак пяты баляць. Заполле Шкл.

**ГРА́ДУГА** ж.Вясёлка. Вой, якая ж градуга – глянь-ка, сынок. Машанкі Маг.

**ГРАМАХВО́Т** м. Грамаадвод. На калгасным двару паставілі высокі грамахвот. Скураты Бял.

**ГРАЦКО́ЎЕ** н. зб. Поле, на якім расла грэчка. Яны ўсе, наверна, на грацкоўя кароў пагналі. Заполле Шкл.

**ГРУДКО́М** прысл. Купкай, у адно месца. Пысыбіраемся грудком і песьні пяём ці каго замуж аддаём. Гародня Маг.

**ГРУДЗІ́ЦЦА** незак. Збірацца ў адно месца; скучвацца. На прадвесьні крыгі грудзяцца, лезуць адна на адну, могуць і мост зьнесьці. Прыхабы Бял.

**ГРЫ́НУЦЬ** зак. Раптоўна пабегчы. Як пачалася бамбёжка ўсе ў лес грынулі, людзі расьціралісі. Труханаўка Кругл.

**ГРЭ́ЦКІЙ МЕ́СЯЦ** спалуч. Уст. Рэлігійны абрад. Так ты будзеш дзелаць грецкій месяц? Шаламы Слаўг.

**ГУРУСО́К** м. Невялікая летняя хустка. Завяжы новый гурусок. М. Крапіўня Касц.

**ГУСІНА́** ж. 1. Гусь. 2. Гусяня. Цвердаў Бых.

**ГУСТА́Я БУ́ЛЬБА** спалуч. Пюрэ. Пайшлі, дзеці, есць густую бульбу. Касцюковічы.

**ГУСТО́ВІК** м. Пюрэ. У густовік луччы солі с цыбуляй, чымся масла. Заполле Шкл.

**ГУСТЫ́Ш** 1. Густая страва. 2. Гушча ў страве. Ну, што ета за суп: адзін густыш астаўся, а юшка выгарала. Чырвоная Слабада Бых.

**ГУ́ШЧА** ж. 1. Што-небудзь густое. 2. Тварог. Паставіла малако ў печ, каб гушча палучылася, потым сыр зробім. Бабровічы Маг.

**ГЫ́ЛЯ** выкл. 1. Так адганяюць гусей. Гыля! Куды ета вы? Гыля! Шаламы Слаўг. 2. Так адганяюць свіней. Гыля! Чаго йта тут рыяце? Гыля атсюль! Заполле Шкл.

**ГЭ́ДАК** прысл. Во, гэдак, дзеткі, жылі ўсю вайну, як гарох пры дарозі, хто ня йдзе, той ушчыпне. Слабада Бабр.

**ГЭ́НЫ** займ. Гэты. Няўжо гэны чалавек здурнеў, што так крычыць? Чырвоная Слабада Бых.

# Д

**ДАВА́ЦЬ ПАЛУ́ЧКУ** словазлуч. Выплачваць зарплату. Іван, ці даюць сяньні палучку? Хоцімск.

**ДАКО́ПКІ** мн. 1. Заканчэнне ўборкі бульбы. 2. Абрад, свята заканчэння ўборкі бульбы. Бульбу выкапалі, а дакопкі хіба на новы год? Чырвоная Слабада Бых.

**ДАКУШНЫ́(Й)** прым. Надакучлівы. Етый маліц такей дакушный, як прічэпіцца, ні атчэпісься. Заходы Шкл.

**ДАЛІ́НІЦА** ж. Даліна. Ехаў Колечка па далініцы (з песні). Асман-Касаева Бял.

**ДАПЕ́ТРЫЦЬ** зак. Дадумацца. Тады я толькі дапетрыла, што трэба рабіць, калі ў дзьвірах паказаўся ён. Брожа Бабр.

**ДАРАВА́ЦЬ** незак. Дарыць. На вяселлі маладых добра дурувалі і дзіньгамі, і вішчамі. Сухары Маг.

**ДАСУ́ЖЫ** прым. Вельмі дапытлівы. Я молада была, дасужа была, везьдзе успявала, усё знала. Сухары Маг.

**ДАТО́ЎПІЦЦА** зак. Дастояцца, сумець дасягнуць ч.-н. у натоўпе. Мы не маглі датоўпіцца, што б пыглядзець на першых парцізан. Макеевічы Клім.

**ДАХАДЗЯ́ГА** аг. Худы чалавек. Такей дыхадзяга – страх пыглядзець. Бярозкі Хоц.

**ДАХАДНЫ́** прым. Худы. Конь гэты ўжо вельмі ж дахадны, каб на траву хутчэй, дык можа б і ад'еўся. Лубнішча Маг.

**ДВАЙНЁЎКІ** мн. Гліняныя гаршчочкі, злучаныя разам. Раньшы пастухам насілі харчы ў двайнёўках – у такіх махотачках, што дзве стравы адразу. Бярозкі Хоц.

**ДВО́МІ** ліч. Двума. Я з двомі дзіцямі гырювала ўсю вайну і посьлі вайны горюшка мне хваціла. Родня Клім.

**ДЗЕВАВА́ЦЦА** незак. Быць незамужняй, дзяўчынай. Усе дзеўкі замуж пывыхадзілі, а я яшчэ дзівывалася да трыццаці гадоў. Сухары Маг.

**ДЗЕВЯ́ТАЯ ПАДНЯВЕ́СНІЦА** спалуч. Апошняя з дружак маладой. Дзівятый пыднявесніцый можа быць любая дзеўка ці свыячка. Вітунь Касц.

**ДЗЕВЯЦІ́НЫ** мн. Абрад (9 дзён пасля смерці). Яшчэ адзнычаюць дзівяціны пы нябошчыку. Гэта дзевяць дней пасьля сьмерці. Тударава Шкл.

**ДЗЕ́РАВА** н. Дрэва. Так і не знала куды падзецца, кідаюся то пад адно дзеріва, то пад другое, каб дзе латвей схувацца. Мокрае Бых.

**ДЗЕРАВЯ́ШКІ** мн. Драўнінны абутак. Хадзілі бысяком. Насілі лапці і дзірывяшкі. Заходы Шкл.

**ДЗЕСЯ́ТКА** ж. Уст. Назва меры (крыху больш за пуд). Гэта проса важыла чуць больш дзесяткі, а мы плацілі больш як за дзве. Лубнішча Маг.

**ДЗЕСЯТО́ЎКА** ж. Уст. 1. Посуд. 2. Мерка для збожжа. Насып мне, кумка, хоць дзесятоўку пшаніцы: хачу крупу зьдзелыць на каляды. Загацце Кліч.

**ДЗЁРАН** м. 1. Дзёрн. 2. Зелле на пасевах. Пайдзі снімі з бульбы дзёран, а то людзі сьмяюцца. Заполле Шкл.

**ДЗЁРКА** ж. Тарка, пры дапамозе якой дзяруць бульбу. Дзёрка мая зытупілася, неяк і бульбы сыдраць. Ай жа ж была ўдалая дзёрачка. Такой больш ні куплю! Княжыцы Маг.

**ДЗІКАЛО́Н** м. Адэкалон. Нейкі дзікалон ат цябе пахнець. Лудчыцы Бых.

**ДЗІРГАНУ́ЦЬ** зак. Хутка пайсці. Хадзіця хоць у хату, а то дождж як дзірганець, дык саўсім змокніця. Харошкі Маг.

**ДЗЯРГУ́Н** м. Чалавек, у якога хутка рвецца адзенне. Што ета за дзяргун? Усягды ў яго калені ірваныя, не спраўляесься купляць штаноў. Вот галгот. Н.Аляксандраўка Чав.

**ДЗЯРУ́ГА** ж. 1. Коўдра. 2. Цёплая хустка. Дзяругі ткалі самі, былі і простыя і суконныя, усялякія ткалі. Шышава Гор.

**ДО́ЙКІ, СІ́СЬКІ** мн. Грудзі (жаночыя). Пыглянь-ка: дойкі сваі выставіла – любіця міня. Магілёў. Схувала п сваі сіські, бястыдніца. Магілёў.

**ДО́НДЗІК** жарт. м. Прыдурак. Ходзіць узад-упярод, як дондзік які. Во бяздзельнік. Шклоў.

**ДОР** м. Драніца. Я думаю сёліта пірякрыць крышу: ужо і дору ныдраў. Забычанне Касцюк.

**ДРАВЯ́НКА** ж. Дрывотнік. Скарэй нясі ў дравянку сухія дровы, а то дошч памоча і цябе, і етыя дровы. Сялец Бых.

**ДРА́ГАЦЦА** незак. Рухацца. Мая жонка так забалела, што і драгацца ня можа. Вот нішчасьця. Бабровічы Маг.

**ДРА́ЖНІК** м. Сметнік. Вынясі, доча, сьмецце на дражнік, ніхай у хаце ні ляжыць, а то людзі нас засьмяюць. Прыхабы Бых.

**ДРА́ЛЫ** прым. Вельмі стары. У дзяреўні січас толькі адны дралыя пааставаліся. Сухары Маг.

**ДРА́НЫ БЛІ́Н** спалуч. Блін з дранай бульбы; дранік. Маці драных бліноў напячэць, а мы іх і с салам, і с сьмятанай ядзім, колькі ўлезе. Чырвоная Слабада Бых.

**ДРА́ЧКА** ж. 1. Працэс ачысткі воўны. 2. Прыстасаванне, якім чэшуць воўну. Маці кінула драчку і пабегла да гасцей. Драла воўну, драла ды й драчку зламала. Мхінічы Красн.

**ДО́ЧА** ж. ласк. Дачка. Доча, а, доча! Даць цыцы, даць мылычка? Шаламы Слаўг.

**ДРА́ЧЫК** м. Венік без лісця; дзяркач. Вазьмі драчык і падмяці двор. Чырвоная Слабада Бых.

**ДРЫЛІХА́** ж. Саматканая спадніца. Раней усе насілі дрыліхі са свайго палатна. Чырвоная Слабада Бых.

**ДРЫ́ЛІЦЬ** незак. Танцаваць. Во бывала я дрыліла дык дрыліла. Усіх у вёсцы перамагала ў любым танцы. Шчамілаўка Бял.

**ДРЫНДУ́ШКА** ж. Старадаўняя песня. Вельмі цікава было пачуць дрындушку ў той цяжкі час. Трылесіна Дрыб.

**ДУБАКА́, ДУ́БАРА** прысл. У беспарадку. Чаго у цібе валасы стаяць дубака? Прыбярыся. Н.Аляксандраўка Чав. У хаці ўсё дубара. Чавусы.

**ДУ́ЙКА** ж. Вялікая мяцеліца. Пад вечар узнялася дуйка, так замяло, што трактарамі машыны выцягвалі сь сьнегу. Прыхабы Бял. Сяньні ўсю ноч зы акном выла дуйка. Амхінічы Чав.

**ДУ́РА(Ы)** ж. Буякі. А дураў жа ў лесі тады сколькі было. Сухары Маг.

**ДУРАЛІ́НА** аг. Дурань. Што за дураліна? Куды ні пойдзець – толькі людзей насмешыць. Сумарокава Маг.

**ДУРУКАВА́ТЫ(Й)** прым. Дурнаваты. Што вы яго слухаеця: ён жа дурукаватый. Заходы Шкл.

**ДУРКУ́ША** ж. абразл. Дурніца. Што за дуркуша! Яй-богу ніразумная. На ферму ныкрасілась. Хоць ногі ў дзярме, а жаніх на ўме. Аляксандраў Маг.

**ДУРНЕ́ПС** м. Турнепс. У нас каждый год дурнепс садзім, такей харошый расьцець. Чэрнеўка Дрыб.

**ДУРНІ́ЦЫ** мн. Буякі. У нашым лесе многа дурніц, але мы іх бярём мала. Найбольш бярём чарнікі, землянікі, бруснікі. Зь йіх варення дзелыім. Трысціно Хоц.

**ДУРЭ́Ц** м. Дурань. Нейкі дурэц, а ні чалавек з розумам. Днём спіць, а ноччу па вуліцы з гармонікам цягаецца – сам ня спіць і людзям не даець. Хамінічы Гор.

**ДУЎБА́НКА** ж. Лодка, выдзеўбаная з дрэва; човен. Дуўбанкі дзелылі з асіны, таму што йіна дуўбаіцца хырашо. Лабковічы Крыч.

**ДУШНІ́К** м. Адтуліна ў фундаменце. Нада во душнікі пызыпхаць якім різьзім, а то сьнегу напрецъ за зіму чорт знаіць сколькі. Немерка Дрыб.

**ДЫГА́ТЫ(й)** прым. Які з доўгімі нагамі; цыбаты. Во ўжо пляменнік дыгаты ў Аксінні. Хамінічы Гор.

**ДЫК НЯВО́Ж, ДЫ НЯ́Ж** часц., прысл. Дык ня во ж. – Ці ты пойдзяш у грібы? – Дык нявож. Ды няж пойдзім сяньні ны работу? Празнік жа! Рымінка Чав.

**ДЫРАГЕ́Й** прым. Дарагі. Дырягей ты мой сынок! Спасіба зы сьціпеньдзію. Лазовіца Клім.

**ДЫ́ШЛІ** мн. Зб. Перан. Цапы (у малатарні). У малацілцы спорціліся дышлі. Так мы і прасядзелі цэлый дзень. Тодарава Шкл.

**ДЭ́НКА** ж. Дошка, на якой што-небудзь рэжуць (мяса, сала, капусту і інш.). Што ж ты крышыш ны кляёнкі, вазьмі дэнку. Толька памый спірва. Клімавічы Шкл.

**ДЭ́ЎЖАР** м. зневаж. 1. Штосьці надта доўгае. 2. Высокі чалавек. Такі дэўжар твой сын, худы ён, мусіць, толькі такі, што яшчэ расцець. Хамінічы Гор.

## Е

**ЕВЕСЯ** прысл. Даўно. Евеся тое было, што й забыліся ўсе. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЕСТ** дз. ёсць. Ест станцыя Васілевічы. Там мы і ўцяклі, калі нас доўга ні прапускалі. Слаўкавічы Глуск.

## Ё

**ЁМКА** ж. Матыка. Вазьмі, Таня, ёмку: пойдзем палоць сьвяклу. Чырвоная Слабада Бых.

**ЁРШ** м. 1. Рыба. 2. Від мужчынскай прычоскі (коратка падстрыжаныя валасы). Сам старый, а ёрш на галаве. Заходы Шкл.

**ЁСЦЯКА** Ёсць. Усялякія людзі ёсьцяка – і добрыя, і злыя, і прадажныя. У вайну нагледзіліся на каго хочаце. Ні дай бог зноў такой заварухі. Брыцалавічы Асіп.

## Ж

**ЖАМАНУ́ЦЦА** зак. Захацецца. Ну і жыманулыся яму ў горыдзі пабыць. Узяў усё прыдаў дай туда, а там ні тут то было. Мушына Мсц.

**ЖА́МКІ** мн. 1. Пернікі. 2. Жвачка. Мам, купі мне жамык. Кавалёўка Клім.

**ЖА́ХНУЦЬ** зак. 1. Нечакана стукнуць. 2. Раптоўна выстраліць. Гергеталі, гергеталі ды як жахнуць с пулямёта – мы ўсе і пападалі. Брыцалавічы Асіп.

**ЖВЯ́КАЦЬ** незак. 1. Шумець, грукаць, стукаць. 2. Жаваць што-небудзь. Што-та мая карова ні жвякайіць жвачку. Наверна яшчур напаў. Бабровічы Маг.

**ЖУ́ЖМА** ж. Вялікая колькасць дробных насякомых. Як пацяплеець, дык вечарамі цэлая жужма камароў, мошак і ўсякай трасцы. Прыхабы Бых.

**ЖУЛЯ́БІЯ** аг. Малады, непаслухмяны хлопец. Вырас сынок жулябіям. Шчэ ў школі быў на ўчоці ў міліцыі. Прысна Маг.

**ЖУРАВО́К** м., **ЖУРАЎКО́М** прысл. Упражка коней. Запрагай коней жураўком, паедзем па маладых, дай прыкацім іх. Хай помняць вяселле. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЖУ́РЖА** ж. зневаж. 1. Абібок. 2. Бесклапотная, гультаяватая жанчына. Што ты ўсё бегыіш, як журжа. Вазьміс за дзела. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЖЫВЫ́Я Я́ГАДЫ** спалуч. Цэлыя, непераапрацаваныя ягады, закансерваваныя на зіму. Мы варення ня варім, а зыкатуім жывымі ягадамі. Насыпаем, абдаем варам і закатыім. Вепрын Чэрык.

**ЖЫ́ДКАЯ БУ́ЛЬБА** спалуч. Булён. Вот і ўкусная ш жыткая бульба с жараным салам, з лучком. Заходы Шкл.

**ЖЫЛАВА́ТАЯ БУ́ЛЬБА** спалуч. Негатункавая бульба. Раньшы бульба была нейкая жылаватыя, цяперіцька ўся харошынькыя. Заходы Шкл.

**ЖЫ́РНАЕ ЯЙЦО́** спалуч. 1. Неданошанае яйцо. 2. Баўтун. У агародзе ў крапіве Ганна зныйшла жырнае яйцо – ні то курыная, ні то гусіная. Прысна Маг.

**ЖЭ́РДНІК** м. Плот з жэрдак. У міня каля жэрдніку цвяты растуць. Буднеў Кліч.

**ЖЫ́ЖКА** ж. 1. Жыжка. 2. Груб. Смаркачы. Малец, ай, малец! Уватры жышку, нос твой цякець. Сялец Бых.

# З

**ЗАБА́РСВАЦЬ** незак. Завязваць. Зыбарсвай тухлі, гідка глядзець ны цябе, як цягі, шнуркі валочуцца, наступіш – пываліісся. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЗАБІ́ЦЬ КАБАНА́** словазлуч. Падрыхтаваць кабана да ўжывання ў ежу, зрабіць з яго сала, мяса і інш. Заб'ём кыбына – і за месіц увесь зьядзім. Сям'я вялікыя і ў горыт аташлём пылавіну. Мазалава Мсц.

**ЗАБРУСЕ́ЦЬ** зак. Зацвярдзець. Забрусела вымя ў каровы, я і расцірала яго і намазвала, а яно прама, як брус. Вот бяды было! Прыхабы Бял.

**ЗАБРУСЯНЕ́ЦЬ** зак. Пачырванець. У бацькі нага баліць, забрусянела ўся. Ходзь бы ні нарыў с пат касьці, а то будзя бяды. Сялец Бых.

**ЗАБУРЫ́ЦЦА** зак. Разбурыцца. Усі парцізанскія зімлянкі даўно забуріліся, толькі ямы анны зысталіся. Макеевічы Клім.

**ЗАВАЛЕ́НЬ** м. 1. Прызба. 2. Чалавек, які многа спіць, гультай. Ты хоць бы, завалень, устаў ды хоць пад'еў, ды хоць што зрабіў, а то бакі аблезнуць ат сну. Бракава Маг.

**ЗАВЭ́ЗГАЦЬ** зак. Забрудзіць. Толькі надзеў бацінкі – і ўжо завэзгаў у грась. Рэкта Гор.

**ЗА́ГАРАДА** ж. 1. Загарода. 2. Стойла. Цяпера каровы ў загарадзі больша. Ветрынка Бых.

**ЗА́ГВІНЫ** мн. Уст. Апошняя нядзеля перад постам. У гэту нядзелю мы павінны ўсюды ўправіцца, а то зараз загвіны, а ў нас работы да пакоты. Прысна Маг.

**ЗАГРА́Ч** ж. зневаж. Зіркаты чалавек. От велькія вочы – заграч нейкі, а ні ладны малец. Хамінічы Гор.

**ЗАГУ́Н НАВЕ́СЦІ** спалуч. Даць ганьбу, зганіць. Што ты на нашу рыбу загун навяла? Н.Аляксандраўка Чав.

**ЗАДАВА́СТЫ(Й)** прым. Ганарлівы (чалавек). Ай, баба, якая ты задавастыя, аш праціўна глядзець. І старой стала, а розуму ні на грош. Тударава Шкл.

**ЗАДЗВІ́ЖКА** ж. 1. Засаўка. 2. Юшка, якую засоўваюць пасля выпальвання печы ці печкі. Гл. закутычка. Трэба зрабіць задзвіжку ў печы. Лубнішча Маг.

**ЗА́ДНЯЯ ХА́ТА** спалуч. Частка сялянскай хаты, дзе стаіць печ; кухня. У задньюй хаці ўсігда натуптына. Вусце Чэрык.

**ЗАДРЫ́ПА** аг. Неахайны чалавек. Такей задрыпа, ходзіць бязь дзела, ходзь бы памыўся. Барсукі Шкл.

**ЗАЁЎНІ** мн. Куткі, загарадкі (у свірне, хляве). Былі заложаны ўсе заёўні ў хляве, а йшчэ і на стох хапіла саломы. Княжыцы Маг.

**ЗАЗРО́НІК** м. Зайздроснік. Зазронік етый нікому нічога ні дасьць, а ўсё грабець і грабець к сабе – як бы на той свет ўсё забярэць. Хамінічы Гор.

**ЗАЗРО́НІЦА** ж. зневаж. Зайздросніца. Во ўжо зазроніца, ні крошкі ні дасьць, хоць памры. Хамінічы Гор.

**ЗАКАБА́Й** м. Цёмны кут у хаце. Калі ня будзеш, сыне, спаць, пасадзім у закабай. Замасточча Глуск.

**ЗАКА́ТВАЦЬ ГРЫБЫ́** словазл. Кансерваваць грыбы на зіму (звычайна ў слоікі). Цяперя ўсі грібы закатыюць, закатыюць і закатыюць. Паназыкатыюць на цэлую зіму, патом з бульбай ядзяць. Ой, смешна! Луччы мяса. Вепрын Чэрык.

**ЗАКВЕ́НЧЫЦЬ** зак. Загаварыць пасля доўгага маўчання. Во ўжо заквенчыў, як посьлі вясельля. Рыкі Маг.

**ЗАКУ́РАНЫ** мн. Абшыўка з ворсам на кажуху. – У! Якія ш ў цябе добрыя закураны! Сам такея зьдзелыў? Мхінічы Красн.

**ЗАКУТЫ́ЧКА** ж. Юшка, якую засоўваюць пасля выпальвання печы ці печкі. Закутый закутычку ды лажыся ны ліжанку – усіраўно зіма. Палі ў печы да грей плечы! Мхінічы Красн.

**ЗАЛЁТ** м. Агароджа з бярвенняў. Піралес церас залёт і глядзіць – ну, што цібе нада? Нядашава Маг.

**ЗАЛІ́ЦЬ ЗАЛІ́ЎКАЙ** словазл. Заправіць канапляным маслам (малаком). Раньшы капусту квашыную накрышым, зальём заліўкуй і ядзім з бульбай. Вепрын Чэрык.

**ЗАЛО́ЖАЧНІК** м. Драўлянае прыстасаванне закладваць ложкі, каб сушыліся пасля мыцця. Заложачнікі ці вешалі на сьцяну, ці ставілі на стол. Чырвоная Слабада Бых.

**ЗАМУДО́ХАЦЦА** зак. Стаміцца. Сённі за етымі свіньнямі замудохылась. Ніхай яно згарыць: есьці смашна, але ж гадаваць трудна. Чарнаручча Шкл.

**ЗАНЕ́ТКІ** мн. уст. Вяселле. Я ўжо етыя гады ні хаджу на занеткі, дык і песьні пазабылася. Прысна Маг.

**ЗАПА́СКІ** мн. Першы выган у поле жывёлы пасля зімы. Заўтра ўжо запаскі кароў. І ня згледзім, калі лецейка прыйдзець. Клімавічы Шкл.

**ЗАПЛІКНУ́ЦЬ** зак. Зашпіліць. Заплікні сарочку, дарагей! Ніхарашо з голай шыяй. Нядашава Маг.

**ЗАРЧЭ́ЙШЫ(Й)** прым. Прыгажэйшы. Вешай гардзіну етым бокам, кажыцца тут яна зарчэйшая. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЗАСІ́ЛІЦЦА** зак. Трапіць у бяду. Будзеш бегаць позна, дык засілісься дзенебудзь. Слабодка Дрыб.

**ЗАСІ́ЛІЦЬ** зак. Зачэрпнуць (вады). Хадзі-ка, дзетычка, засіль мне вады. Бярозкі Хоц.

**ЗАСТАСАВА́ЦЬ** незак. Сустракаць (кароў з поля). Дзетачкі, няма мне січас часу з вамі рызгыварываць: трэба йсьці кароў застасваць. А то ж згубіцца наша цёлка. Клімавічы Шкл.

**ЗАСТАЛІ́ЦЬ** зак. Пакласці столь. К восіні сват сваю хату і засталіў, і замасьціў. Паршына Гор.

**ЗАСЦІ́ГНУЦЬ** зак. Застаць. Раньнія зіма засьцігла нас урасплох. Некаторыя с палёў ні ўспелі ўбраць усё. Вот быў страшный гот. Машкоўка Гор.

**ЗА́СЦІЦЬ** зак. Запэцкаць вопратку. Адась! Як жа ты засціў новую кашулю? Ці ж я табе буду кожный дзень новую даваць? Прысна Маг.

**ЗА́ТХАЛА** н. 1. Заткала. 2. Засланка. Дзе ш ета затхала падзявалася: няма, чым печ зачыніць. Галоўчын Бял.

**ЗАХАМУТА́ЦЬ** зак. перан. Поўнасцю завалодаць к.-н., прымусіць працаваць на сябе. Ні йдзі, чалавеча, ў прымы, зыхымутаюць цябе – будзіш дзень і ноч рабіць, як заклятый. Шышава Гор.

**ЗАХО́ДДЗЕ** н. Прамежак (паміж сцяною і печкай). Заходзьдзя забіць нада, а то ўсё зыкідайцца туды. Рыкі Маг.

**ЗАЦІВА́ЦЬ** незак. Прымушаць. Яе ці зыцівай ці не, ці ш йіна паслухыйіць. Сухары Маг.

**ЗАЦІ́СНУЦЬ** зак. 1. Заціснуць. 2. Перан. Звесці са свету. Штогод якога кабанчыка ці баранчыка зацісьнем – і мяса ні зводзілася. Трохі ўмелі жыць. Баравіца Бабр.

**ЗАЦЭ́ЛІЦЬ** зак. Заняць (поўнасцю). Немцы ехалі, каб зацэліць ету вёску. Там і пысяліліс гады. Тударава Шкл.

**ЗАЧУ́ЦЬ** зак. Пачуць. – А зачуў жа гэта Колечка…

– А ні чаруй жа ты, Танічка (з галашэння)
Красная Горка Шкл.

**ЗАШКІ́РКІ** прысл. За каўнер. Ён так ухваціў мяне зашкіркі, што ўсе пугаўкі павырваліс. Во гэта стораш! Сялец Быx.

**ЗАШМУЛЕ́НІК, ЗАШМУЛЯ́НІК** м. асудж. Той, хто ходзіць у брудным, заношаным адзенні. С хаты ні пушчу, пакуль ні пірадзенісься, зашмулянік ты. Людзям жа стыдна ў вочы глядзець будзець. Хамінічы Гор.

**ЗАШНЭ́ЙДАРЫЦЬ** зак. іран. Прышыць. У наш час кожны можа зашнэйдырыць сам сібе гузік у пальто, а ні лётыць расхрыстаным. Ёсьць кагда, ні кажыце мне! Трылесіна Дрыб.

**ЗАШЭ́РХНУЦЬ** зак. Пакрыцца тонкім лёдам; крыху замерзнуць. Сажалка толькі зашэрхла, ні нада дзяцей пускаць, пакуль добра

**ЗЛЯКА́ЦЦА** зак. Спалохацца. Цяпера табе я накажу такоя, што ты й зьлікаесься. Асман-Касаева Бял.

**ЗНАЙДЗЁНЫШ** м. Апошняе дзіця ў сям'і (звычайна сын). Па вуліцы бегае толька Васілісін знайдзёныш. Ох, і балуець жа яна яго. Княжыцы Маг.

**ЗНЕЛЮБЕ́ЦЬ** зак. Надаесці, абрыднуць. Як жа вы мне ўсе зьнелюбелі, вочы б мае вас ні бачылі. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЗНЕ́ЦЕЙКУ, ЗНЕ́ЦІЎКУ** прысл. Знянацку. “Васіль падышоў да яе знецейку, дак Ганна й спалохалася”. – Ты кажаш “зьнеційку”, а на судзе ні так гаварылі. Бабровічы Маг.

**ЗРУГА́ННЕ** н. Здзек. Аддыла во дачку ны зруганьня, а ўсё ж дзіцёнык свой, жалка. Сафійск Маг.

**ЗЫ́КАЎКА** ж. Куслівая муха, якая з'яўляецца ў ліпені. Як паявяцца зыкаўкі, іх дужа баяцца каровы й коні. Каровы дык калі ні пабзыкай, то падымаюць хвасты ўгору. Прыхабы Бял.

**ЗЭС** м. Пранізлівы холад. Які зэс на дварэ! І красавік, здаецца, настаў. Прыхабы Бял.

**ЗЯГРА́ТЫ(Й)** прым. Які з вялікімі вачыма; зіркаты. Малы, а зяграты, як бацька. Такія вочы! Як яблыкі! Хамінічы Гор.

**ЗЯЛЕ́ЗЗЕ** н. зб. Жалеза. Зялезьзя – ні прайсці, а, гаворуць, міталалом нада. Сухары Маг.

# І

**ІГЫ́, ЫГЫ́** часц. Ага, але. – Ці хадзіў ты сяньні ў школу? – Ігы. Сухары Маг.

**ІДЗІ́ ТЫ!** Выкл. Што ты! –“Сёліта маё зьвяно будзіць первым”. – “Ідзі ты!” Рэкта Гор.

**ІЗДЗІВЕ́НЕЦ** м. Нахлебнік, утрыманец. У яго йшчэ двояізьдзівенцаў удвору. Шаламы Слаўг.

**ІЛЬНІ́ШЧА** н. Поле, дзе рос лён. Загані карову на ільнішча, ніхай паходзіць крошку! Нічыпаравічы Шкл.

**ІСК** м. Пчаліная разведка, пошук. Перід роім бываіць пчаліный іск. Вусце Чэрык.

**ІСПО́ДНЯ** мн. **ІСПО́ДНЯЕ** н. зб. Споднікі. У хаці халодна, дык у ісподнім спаць кладземся. Чырвоная Слабада Бых.

## Й

**ЙІЖО́** прысл. Ужо. Як прыйшоў поіст, я была йіжо на станцыі. Дрыбін Гор.

## К

**КАБЫ́ЛА** ж. 1. Кабыла. 2. Жалезная дуга ў печы. 3. Ядомы грыб. Залезную дугу ў печы завём "кабыла". Чырвоная Слабада Бых. Кабылы – ета асеннія грібы. Такея чорныя. Сідаравічы Маг.

**КАВІ́ЛКА** ж. А – падобная мерка. Брыгадзір хадзіў па полю з кавілкай, пэўна, мераў дзялянку. Пудоўня Дрыб.

**КАЖА́К** м. Той, хто ў сваёй мове часта ўжывае слова "кажа". Вунь пашлі два кажакі. Яны маслуі (гл.). Кавычыцы Касц.

**КАЗА́** ж. 1. Каза. 2. Частка сялянскай ("рускай") печы, дзе можна штонебудзь прасушыць. Пылажы ны казу пасушыць яблыкі, а то яны нешта атышлі ў сенцах. Дрыбін

**КАЗАКІ́Н** м. Верхняя жаночая вопратка з саматканага сукна. Накінь казакін ды схадзі ў лаўку, мо што свежанькага прывёзлі. Лубнішча Маг.

**КАЗЮ́ЛЬКА** ж. Маленькая лаўка; зэдлік. Садзісь на казюльку, да пасядзі, баба. Пыгаворім ап сём, ап том. Шаблі Касц.

**КАЛАТУ́ХА** ж. Яечня. Набіла сваім яец і жжарыла калатуху. Есьце, гавару, а сама пайшла на работу. Чырвоная Слабада Бых.

**КАЛАТУ́ШКА** ж. 1. Пасудзіна для збівання масла; маслабойка. У кылатушцы маці зьбівала масла. Саб'ець – і на продаж нясець, а нам сьлінку глытай. Выдранка Красн. 2. Таўкач. Нада бульбу таўчы, а кылатушка кудысь прапала. Забялышын Хоц.

**КАЛАЦІ́ЦЬ** незак. перан. Рабаваць. Немцы, етыя хвашысты, і днём і ноччу калацілі, як хацелі. Ох, гады! Ні дна ім, ні пакрышкі! Чарнаруčча Шкл.

**КАЗІ́КА** ж. Бручка. Якая ш смачная казіка! А вот мала яе содзяць. І чаму ш так, ні знаю… Скрыпліца Кір.

**КАЛО́ДКА** ж. Драўляная ручка (у дзвярах). Раней рабілі калодкі з дрэва, цяперака купляем залезныя. Чырвоная Слабада Бых.

**КАЛЬВЯ́ГІ** мн. Ворчык. Прывёў пару коней, быстрей нясі кальвягі ды будзем араць. Н.Аляксандраўка Чав.

**КАМЕ́ШНІК** м. Куток у хаце, куды змятаюць смецце. Вазьмі ў камешніку венік і падмяці ў хаці. Замасточча Глуск.

**КАМЛЯ́К** м. 1. Камель, кавалак дрэва. 2. Куль саломы. Бальшы камляк саломы, снапоў дванаццаць – чатырнаццаць – ета па-вашаму куль. Гарадзец Бых.

**КАМЫ́ШЫКІ** мн. Дзіцячыя боцікі. Ленка, адзень камышыкі, дошч на дварэ. Смаліца Бых.

**КАНА́ПА** ж. 1. Канапа. 2. Лава, ці змацаваныя дошкі для сядзення, спання. Пысьцялі мне ны кынапі, хоць мулка, дый не на мосьце ш спаць. Н.Аляксандраўка Чав.

**КАНАПУ́ШКІ** мн. Вяснушкі. Сястра вясной аж рыжая ад канапушак. Яна спачатку стыдзілася, а цяпера прывыкла. Сялец Бых.

**КАНУ́НА** ж. Страва, якую ядуць першую на хаўтурах. Кануну робяць так: халодная вада зь мёдам, пасьля туды крышаць булку. Прыхабы Бял.

**КАНЮ́ШНІК** м. Канюшня. Коні ў канюшніку стаяць, цёпла йім шчас. Цяцерына Кругл.

**КАПА́НКА** уст. Дарога сярод балота. Січас кыпанык ня дзелыюць. І балоты січас асушылі. Звянчатка Клім.

**КАПЕ́ЛЬ** ж. 1. Капеж. 2. Частка страхі, якая звісае над сцяной. Пат капеллю тарчаў серп. Гаварылі, што ета быў прадзедаў яшчэ. Княжыцы Маг.

**КАПЕРА́ЦЫЯ** ж. 1. Кааперацыя. 2. Магазін, крама. Пыглянь-ка: у капірацыю зноў прывязьлі хлеп. Троіца Шкл.

**КА́ПКА** ж. Кропля. Дошч пашоў бальшэннымі капкамі. Цяцерын Кругл.

**КА́ПКУ, КА́ПАЧКУ** прысл. Трошкі, крышачку. Пачакай мяне капку. Скураты Кругл. Нада капачку соды і капачку солі, змішаць, растваріць у вадзе і прыпыласкаць тваё горла. Масток Маг.

**КАПО́Т** м. уст. Сукенка. Надзень сяньні свой капот, самый красівый. На табе маціp'ял і сашый мне капот! Н.Аляксандраўка Чав.

**КАПТУ́РКА** ж. уст. Прылада для асвятлення. У хаце было цёмна, калі патухне каптурка. Ды й лучына сьвяціла слаба. Прысна Маг.

**КАПЯЛЮ́ХА** ж. Капялюш. Надзеў Ціхон сабе капялюху, дай думаець, што пан. Вусце Чэрык.

**КАПУ́СНІК** м. зб. Поле, дзе расла капуста. Пабеглі дзеці на капусьнік за качарышкамі, бягі і ты, чаго тут бадзяесься бязь дзела. Прыхабы Бял.

**КАПЫ́Л** м. 1. Прылада, якой робяць карыта. Схадзі-ка папрасі капыла ды карыта зьдзелый. Забор'е Бых. 2. Упарты чалавек. Вот капыл так капыл. Рымінка Чав.

**КАПЯ́К** м. Бурт. Трэба на зіму добра прысыпаць капяк зямлёй, а то можа марос прыхваціць тады пішы – прапала, згіне бульба! Сялец Бых. Наша бульба ў капяку падмёрзла. Кульшычы Слаўг.

**КАРАВА́Й ГІБА́ЦЬ** словазл. Рабіць каравай. Ужо каравайніцы прыйшлі, каравай гібаць. Хамінічы Гор.

**КАРАВА́ЙНІЦА** ж. Жанчына, якая робіць каравай. Ужо каравайніцы прыйшлі, каравай гібаць пачалі, а бацькі так і ні прыехылі зь Мінску. Хамінічы Гор.

**КАРАГО́Н** м. Спінка ў санях (для апоры). Сані былі нязручныя, ня было карагона, усё звальвалася. Сялец Бых.

**КАРАГО́НЫ** мн. Сані вазіць бярвенне. Каня няма, а лес вывезьць нада, хоць сам стынавіся ў карагоны. Пачэпы Красн.

**КАРО́БАЧКА** ж. перан. "Школьны" аўтобус. Сабірайся быстрэй, скора каробачка прыедзець. Нашто гладзіцца, будзеш жа сядзець, тые стрэлкі і памнуцца. Шклоў.

**КАРТУ́З** м. 1. Картуз. 2. Мяшок. Картуз быў напоўнены бульбаю. Толькі дзядзька хацеў яго на плечы, а тут яго самога цап-царап ды ў каталашку. Лобча Чэрык.

**КАРШЭ́НЬ** м. Карак. На маім каршэні трое сядзіць, а нада ўсім ім даць рады, а мне і самому сябе цяжка даглядзець. Тартак Бых.

**КАРЫ́ТА** н. 1. Карыта. 2. Перан. Пра мурзатае дзіця. Куды за стол садзіць, карыта такое, ніхай ідзе хоць памыіцца. Хамінічы Гор.

**КАСА́** ж. 1. Каса. 2. Касмыль. У кукурузе. Як наліваюцца пачаткі, косы мяккія. Вусце Чэрык.

**КАСМУ́ШКА** ж. Галавешка. Не зачыняй, дочка, заслонку, няхай касмушкі пагараць. Прыхабы Бял.

**КАЦЁЛКА** ж. Качалка. Слухай, Алёна, ці нямашака ў цябе кацёлкі дарошкі пакачаць? Чырвоная Слабада Бых.

**КАЎГА́Н** аг. абразл. 1. Кацёл. 2. Няўмека, нячысты чалавек. Што яна табе люцкага зварыць есьці, каўган еты. Хамінічы Гор.

**КАЎТУ́Н** м. 1. Каўтун. 2. Клок узлахмачаных валасоў. Рашчашы хоць каўтуны свае, а то пазвісалі, як на чучалі якім. Хамінічы Бых.

**КА́ЦЦА** мадальнае слова. Здаецца, мабыць. Кацца, я ўчора ета чула. Рудня Слаўг.

**КАРЦЮ́ШКА** ж. Спадніца. Сягоння ў сусеткі карцюшка ладная была. Казала, што нявестка пыдарыла. Тобча Чэрык.

**КАСАНУ́ЦЬ** зак. перан. Пабіць. Нашы немцаў так касанулі, што аш чорна было на полі. Дзісятаму закажуць фрыцы. Чарнаручча Шкл.

**КАСЯЧО́К** м. Трохвугольная паліца, прымацаваная на куце.

– Дзе ета падзеліся нажніцы?
– Глядзі-ка ны касячку там.
Н.Аляксандраўка Чав.

**КАТА́ШКА** ж. 1. Катушка. 2. Магнітафонныя ленты. 3. Калясо. Толькі дзьве каташкі ў магнітахвоне круцяцца – так усе паціхлі. Клімавічы Шкл.

**КАТАНУ́ЦЬ** зак. перан. Праспяваць. Паша, ну-ка катані вясёлую. Ніхай усе заслухыюцца пра нашу жысьць. Клімавічы Шкл.

**КАТУ́ШКА** ж. Прылада ў калодзежы, на якую намотваецца ланцуг пры даставанні вады. Катушка йета натта дрэнна верціцца. Акулінцы Маг.

**КАЎБУХАВА́ТЫ(Й)** прым. Які з вялікім жыватом. Вельмі ж каўбухаватая карова ў Мікулінай. Праўда, хоць многа есьць, але і многа малака даець. Княжыцы Маг.

**КАЎКАНУ́ЦЬ** зак. Выпіць, кульнуць. Вось бы цяпер каўкануць бы чарку, то й сьпявалася б добра, і ўспаміналіся п усялякія песьні. Прысна Маг.

**КАХАЛДА́ЧЫЦЬ** незак. жарт. Сьпяваць. Во, калі б была Полька, то яна вам кахалдачыла п. Рыкі Маг.

**КАЧУ́ЛКА** ж. 1. Качалка. 2. Прылада для выраўноўвання на полі пасеянага зерня. Качулка раней аш прыгала за канём, а цяперацькі ўсё поле роўненькае – так укачаюць, што хоць сам качайся – адна любата. Бабровічы Маг.

**КАШУ́ЛКА** ж. Плецены выраб для пераносу чаго-небудзь (карзіна ці кош). Вазьмі кашулку і схадзі ў мыгазін за хлебам. Няўжо ж і ета табе цяшка?! Ой, горюшка маё! Рэкта Слаўг.

**КВА́СКА** ж. Скрыня, куды кладуць мяса. Цэлую кваску мяса наклалі. Буднеў Кліч.

**(К)ДВО́РУ** прысл. Дадому. Палага, я пайду (к)двору: нада зьбіць масла. Бярозкі Хоц.

**КЕ́ЛЬНЯ** ж. жарт. Старая, невялікая хата. Пасяліліся мы тут, бо гэта кельня ўжо даўно пуставала. Княжыцы Маг.

**КІПЕ́ЦЬ** незак. 1. Кіпець. 2. Поўніцца. Бувала, кіпіць дзяреўня ат песень. Асобінна вечарам. Тударава Шкл.

**КІПЯЦІ́ЦЦА** незак. Злавацца. Чаго ты кіпяцісься. Біражы нервы, на старысьць прыгадзяцца. Чарнаручча Шкл.

**КІСЛУ́ХА, КІСЛУ́ШКА** ж. Страва з прасяных круп, падрыхтаваная на сыроватцы. Кап пад'ела кіслухі, кажыцца, пыздыравела п. Н.Аляксандраўка Чав.

**КЛЁЦ** м. Зуб бараны. І стальны клёц, а паламаўся, калі я бараніў першы раз бульбу. Чырвоная Слабада Бых.

**КЛО́ДАЎЕ** н. Могільнік. На клодаўі прасла павалілася, і німа каму яго паставіць. Сялец Бых.

**КО́КА** н., ласк. 1. Яйцо. 2. Бульба. А мальцы крічаць: “Мама! Дай кока”. Шаламы Слаўг.

**КЛУ́МБЫ** мн. Туфлі на драўлянай падэшве. Як ёй ні сорамна такія клумбы надзела і ходзіць! Прыхабы Бял.

**КЛЫБА́Ч** м. абразл. Клышаногі чалавек. Хай клыбач еты ідзе сам! Я ні за што не пайду. Хамінічы Гор.

**КЛЫ́ШАЎКА** ж. Клышаногая жанчына. Клышаўка таксама ў клубе была. Хамінічы Гор.

**КО́ЗКА** ж. Страказа. Козкі лётаюць – значыць цёпла будзець. Прыхабы Бял.

**КО́ЛАЧКА КАЎБАСЫ́** спалуч. Кавалак каўбасы ў выглядзе кольца. Раньшы ў кыляды толькі мяса начынюць, колачку куўбасы, сала – і тады свята. Цяперя так ядзім кождый дзень. Заходы Шкл.

**КО́НДРА** ж. 1. Коўдра, вытканая з кудзелі. Нада лапіць кондру, а то саўсім падралася. Н.Аляксандраўка Чав. 2. аг. П'яні ца. Вун кондру чуць жывога павялі дамоў. Хто ш так напаіў? Елавец Хоц.

**КО́ПАНКІ** мн. Сані з бярозы, выкапанай з коранем. Зыпрагай копанкі, да й паедзем у барок: нада дроў назапасіць. Н.Аляксандраўка Чав.

**КО́ПАЦЦЕ** н. Вецце. Такі важкі яблык, аж копацце гнецца. Машавое Касцюк.

**КО́ПАТ** м. Сук. Яблыкі ўсе копыты абломюць. Такей урыджайны гот! Машавое Касц.

**КО́ПКА** ж. Пячурка. Маці паклала цыбулю ў копку, дак йіна ўзіла дый прырасла. Верамейкі Чэрык.

**КО́РЫ** мн. зб. Від туфлі, абутку. А дзе ты купіла сабе такея красівыя коры? Елавец Хоц.

**КО́ЎШ** м. 1. Чарпак. 2. Драўляная аправа (у жорнах). Трэба новы коўш збіраць для жорнаў, а то мука рассыпаецца далоў. Лубнішча Маг.

**КРАПІЎ́НІКІ** мн. Кураняты. Апяць крапіўнікі ў агарод зайшлі. Ну, што йім зьдзелыць, пасаветуйця! Мушына Мсц.

**КРО́СНЫ** мн. 1. Кросны. 2. Аснова для ткання. Кросны снімаюць с сноўлі і плятуць у пляцёнкі, патом мочуць. Тубушкі Бял.

**КРО́ШКУ** прысл. Крыху. Пасадзіла во крошку бульбы. Хай расьцець. І ўход за ей нівялікі. І польза будзець. Чарнаручча Шкл.

**КРУПАДЗЁР** м. уст. Той, хто пытлюе муку. Во які быў багаты той крупадзёр. С усяго раёну везьлі к яму малоць жыта і пшаніцу. Прысна Маг.

**КРУПЧА́ТКА** ж. Блін з круп. Дранікі надаядалі, дык мы малолі крупы і з етай крупяной мукі пяклі крупчаткі – якія ні былі, а ўсё-такі ні драныя бліны. Баравіца Бабр.

**КРЫМА́ЧЫК** м. Невялікі нож; ножык-складанчык. Бяры свой крымачык, пойдзем у абабкі. Чырвоная Слабада Бых.

**КРЫЖАВА́Я ДАРО́ГА** спалуч. Дарога на скрыжаванні. На купалле хадзілі на крыжавую дарогу. Песьні пелі, кастры палілі, скакалі ціраз іх. Клімавічы Шкл.

**КРЫ́ЛЬЦЫ** мн. Шалупінне ад аўса, кукурузы. Ні ўрадзіў авёс, адных крыльцаў назьмятала ворах. Н.Аляксандраўка Чав.

**КРЫЦЬ ПАД ГРАБЁНКУ** спалуч. Рабіць саламяную страху (каласамі ўверх). Слухай: ці ўмееш крыць пад грабёнку? Накрый ты мне хату пад грабёнку. Н.Аляксандраўка Чав.

**КРЫЦЬ ПАД КО́ЛАС** спалуч. Рабіць саламяную страху (каласамі ўніз). Слухай: накрый-ка ты мне хату пад колас. Н.Аляксандраўка Чав.

**КУЗЮ́КА** ж. Бручка; кузіка. А там пірад лесам сёліта кузюку пасейілі. Харошая! Смаліца Бых.

**КУЁЎДА** аг. Гарэза, непаседа. Што ета за куёўда, ні пасядзіць ні мінутачкі спакойна. Н.Аляксандраўка Чав.

**КУЁЎДЗІЦЦА** незак. Круціцца, капашыцца. От ета дзіцёнак, куёўдзіцца і куёўдзіцца, аж у вачах мітусіцца. Н.Аляксандраўка Чав.

**КУ́КНУЦЬ** зак. Памерці. Што за гора ў нашу вёску ўвалілася, ужо пяць чалавек кукнула за адзін месяц. Прысна Маг.

**КУКУ́ЛЯ** ж. Зязюля. Ужо кукулі прыляцелі, сяньні сама чула, як кукавалі. Хамінічы Бых.

**КУКУРУ́ЗНІК** м. зб. Сцябло кукурузы. Кукурузьнік дужа любяць каровы. Цяцерын Кругл.

**КУ́КСА** ж. 1. Кукса. 2. Нарасцень на целе. Во вырасла ў мяне на назе гэтая кукса, дык не магу падабраць сабе чаравікі. Княжыцы Маг.

**КУЛДО́НІЦЬ** незак. жарт. Спяваць. Ганна, кулдонь мне песьню, хопіць етым сьцюдзентам, яны й так многа запісалі. Бабровічы Маг.

**КУ́НДАЛЬ** м. зневаж. Кудлаты чалавек, кудлач. Што ты сваімі кудламі трасеш, кундаль ты етакі! Едзь у свой горад ды пастрыжыся лепш. Хамінічы Гор.

**КУПА́СТЫ(Й)** прым. Густы, крупчасты. Каноплі былі купастыя. Ох, і вазьні ж было зь німі! І ўбіралі, і мачылі, і ткалі! Машавое Касц.

**КУ́ПЛЕНЫЯ ЛЮДЗІ** спалуч. Людзі, што перасеплены на работу адкуль-небудзь. У гэтым доме жывуць толькі купленыя людзі. Гэта для іх спрыяльна зрабілі. Затое і рабочыя рукі знаходзяцца. Княжыцы Маг.

**КУРАСПЕ́ЛКА** ж. Ранняя бульба. Плоха, калі нямашацькі курасьпелкі – усе бульбу ядуць, а ты жджы. Цяцерын Кругл.

**КУРА́ШКА** ж. 1. Прыстасаванне падкурваць пчол. 2. Тое, чым запраўляюць прыстасаванне падкурваць пчол. Пабягі-ка, сынок, набяры пабольш курашак. Вот пчолы ядавітыя! І курашка ім ні па чом! Прыхабы Бял.

**КУРТА́Ч** м. Нізкарослы чалавек. Глядзі якей куртач пайшоў. Адкуль ён такей узяўся? Аксенькавічы Бял.

**КУ́ТКІ** мн. зб. Асадка акна, дзвярэй. Хоць у старой хаце, але былі новыя куткі. Княжыцы Маг.

**КУ́ЧМА** ж. 1. Куча. 2. Чалавек з непрычэсанымі валасамі. Кучма нейкая, а ні дзеўка, а шчэ з горада прыехала. Чырвоная Слабада Бых.

**КУШО́РКА, КУШЭ́РКА** ж. Акушэрка. Мае роды прымала саўсім маладая кушорка. Каменка Дрыб. Кушорку звалі – так плоха было. Дубна Слаўг.

# Л

**ЛАБАВІ́К** м. Франтон (звычайна ў гумне, хляве). Будзем, як раней, гумно рабіць з лабавіком. Княжыцы Маг.

**ЛАГО́ШЫЦА** аг. зневаж. Крываногі чалавек. Етую лагошыцу й на кані ні пірагоніш. Шаламы Слаўг.

**ЛАДЗГА́Н** м. зневаж. Малое дзіця, якое соўваецца, лазіць куды не трэба. Каб не схапіла за нагу, разьбіўся б ладзган гэты, як з лавы зваліўся. Во непаседа! Шаламы Слаўг.

**ЛА́ДЗІЦЬ ЛА́Д** словазл. Дапамагаць малаціць у два цапы. Выбівала я нібыгата, а ладзіла лад добра. Юзефоўка Хоц.

**ЛАЗО́БКА** ж. Посуд для мёду. Маем лазопку мёду ліповыга – ат прастуды будзям лячыцца. Каўшова Мсц.

**ЛА́ДНА** прысл. Шмат, многа чаго-небудзь. Ладна дабра ў яе, хоць і ўдовая. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЛАЙДУ́НКІ** мн. Прыколкі для валасоў. Закалю лайдункі спераду, а "хвост" зраблю ззаду – і фаршу сабе. Шчамілаўка Бял.

**ЛАЙТУ́ТЫ** мн. Прысмакі. Кончыліс яму лайтуты. Шаламы Слаўг.

**ЛАМАНІКІ́** мн. Саматканыя коўдры, палавікі і інш. Сяголета маці саткала ўсяго толькі два ламанікі, можна было б больш, але стараватая ўжо, слаба бачыць. Бабровічы Маг.

**ЛАМІ́НА** аг. Гультай, абібок. Ці ж гэты ламіна паможа табе? У яго самога нямашака ніводнага палена, а ён табе паедзе ў дровы! Чырвоная Слабада Бых.

**ЛА́НПА** ж. Лямпа. Калі нямашака лектрычаства, то палім карасінавую ланпу. Чырвоная Слабада Бых.

**ЛАНТУ́Х** м. 1. Жывот, страўнік. 2. Тоўсты, непаваротлівы чалавек. Наш Іван – такі лантух, як павернецца, дык абязацельна што-небудзь ськінець. Прыхабы Бял.

**ЛА́САЎКА** ж. 1. Ласаванне. 2. Дастатак. Пятроўка – галадоўка, спасаўка – ласаўка. Цяцерын Кругл.

**ЛАСО́МА** ж. Салома. Дзіўчаты будуць пірасушываць ласому. Пераваловшня Клім.

**ЛАПАЦЕ́ЦЬ** незак. Ехаць. А на выхадны ўсе тады лапацяць у дзярэўню. Набяруць сала, мяса – і назат. Сёе-тое і памагаюць нам. Тударава Шкл.

**ЛА́ПІНА** ж. Латка. Вазьмі лапіну такую ш, як тваё плацьця, і прыклей. Чырвоная Слабада Бых.

**ЛАПУШЫ́ЦЬ** незак. Ірваць што-небудзь паспешліва, без разбору. Дзеці моркву лапушылі, ні так наеліся, як наглумілі. Прыхабы Бял.

**ЛАТУ́ШКА** ж. Драўляная міска. Цяперацькі ў нас такіх латушак нямашака. Скурцы Кругл.

**ЛАЎКА** ж. 1. Лаўка. 2. Магазін. У лаўцы ёсь мука сойівыя. Шаламы Слаўг. Пайдзём, сусетка, у лаўку сходзім. Тратны Клім.

**ЛАЎРЫ́Н** м. Яр. Чорт яго ведае, гэтага п'яніцу, можа дзе ў лаўріне ляжыць. Нада йсці шукаць. Вы тут пасядзіця пакуль. Шышава Гор.

**ЛАХА́НКА** ж. Міска. Бяри лаханку з малаком у судні да й еш. Мілаславічы Клім.

**ЛЕ́ТАШКА** ж. Цялё, якое перазімавала адну зіму. Ета леташка будзе добрай каровай: і есць харашо, і ласкавая. Машавое Касц.

**ЛЕ́ТЫ ДАГАНЯ́ЦЬ** словазл. Гады лічыць, успамінаючы. Як сяду я і паеду леты даганяць, дык аж слёзы самі просяцца. Асман-Касаева Бял.

**ЛЕЙ** м. 1. Алей. 2. Канаплянае масла. Я купіла літру лею, няўжэ ль мала будзець? Бярозкі Хоц. Нальём раньшы лаханку лею і ядзім. Бярозкі Хоц.

**ЛЁК** м. Расол. Лёк – ета жышка ад рыбы. Заходы Шкл.

**ЛЁТКА** ж. Адтуліна ў пчаліным вуллі. Паглянь-ка, сколькі пчол поўзае на лёткі. Галоўчын Бял.

**ЛІ́ВА** ж. Вялікі дождж; лівень. Добра, што хоць ліва прайшла. Лепш сіраўно, чым без дажджу. Шчамілаўка Бял.

**ЛІГО́ТА** ж. Ільгота. Лігота, кажуць, будзець. Дубна Слаўг.

**ЛІ́ПНІК** м. 1.Месца, дзе расце ліпа. 2.Маладая ліпа, з якой дралі лыкі. Лапці дзелалі з ліпніку. Бацька надзярэ, спляцем і носім. Абідавічы Быx.

**ЛІ́ЗЕР, ЛІ́ЗЕРТ** м. Канава. Машына прама ў лізер(т) з’ехала, так сліска было на дарозі. Сялец Быx.

**ЛІКСА́НДРА** аг. Аляксандр, Аляксандра. Наша Ліксандра другей раз замуж вышла, жывець луччы першыга. Немерка Дрыб.

**ЛІПСІРДА́К** м. Пінжак. Накінь, сынок, хоць ліпсірдак, усё ж цяплей будзіць. Немерка Дрыб.

**ЛІСА́** ж. 1. Ліса. 2. Прапаленая дзірка. Ай, сяньні вялікую лісу палучыў каля цяпла. Забор’е Быx.

**ЛІСАВЕ́ТА** ж. Елізавета. Лісавета, ай, Лісавета, хадзем у ягады! Дзікае Глуск.

**ЛІСІ́ЦА** ж. 1. Лісіца. 2. Участак лугу і лесу, дзе раней была нара лісы. Столькі вады на лісіцы, што ногі ні высыхалі, калі касілі лух. Кострычы Кір. 3. Самаробныя цыскі. Зажмі жэрдзь у лісіцу. Тады луччы будзець цісаць. Забычанне Касц.

**ЛІ́СЦІК** м. 1. Лісцік. 2. Люфцік. Адкрый, сынуля, лісьцік, а то нешта ў хаці ўгарна. Заполле Шкл.

**ЛІ́ШТВЫ** мн. 1. Ліштва. 2. Перан. Карункі. Я і ліштвы сама рабіла ны рушнікі. Акулінцы Маг.

**ЛІШЧО́ТКА** ж. уст. Падстаўка, якой карысталіся пры трапанні льну. У даўнія часы лён трапалі пры помачы лішчоткі. Ета такая патстаўка. Мхінічы Красн.

**ЛОГ** м. 1. Лагчына. 2. Месца, дзе сцелюць лён. Шафёрка, табе брыгадзір казаў вазіць лён з лога. Галоўчын Бял.

**ЛУ́ЖА** ж. 1. Лужа, гразь. 2. Перан. абразл. Той, хто многа выпівае. Дзе ты напоіш лужу етую! Яму і вядра мала! Хамінічы Гор.

**ЛУЗНУ́ЦЬ** зак. груб. Ударыць; трэснуць. Адыдзі, нехрысьць! Як лузну шчас, дак дзісятаму закажаш. Чырвоная Слабада Быx.

**ЛУПАКА́ ДАЦЬ** словазл. Уцячы, даць дзёру. Скоранька далі лупака, як міліцыя паявілася. Дзікае Глуск.

**ЛУПАНУ́ЦЬ** зак. 1. Лупянуць. Як лупануў дождж, дак мы нызад. Бярозкі Хоц. 2. Перан. Пабегчы (вельмі хутка). Мы лупанулі па етай дарозе, і нас ні дагналі. А суседзей дык пабілі. Во гады! Чарнаруčча Шкл.

**ЛУПА́ТЫ(Й)** прым. 1. Які з вялікімі вачамі. 2. Які з вялікімі губамі. 3. Перан. Які кідаецца ў вочы. Ідзе ты купіла, кумка, такую лупатую кашамірку? Чырвоная Слабада Быx.

**ЛУПСЕ́Й** м. зневаж. Чалавек з вялікімі губамі. Лупсей нейкій, адно лупы вялікія і больш нічога ў яго няма, а ён яшчэ свае фокусы выкідваець – вот дажыліся палякі: ні хлеба, ні табакі. Хамінічы Гор.

**ЛУПЯНДЗЯ́** ж. зневаж. Жанчына з вялікімі і тоўстымі губамі. Шчэ й лупяндзя ета сваё пачала пастанаўляць. Даўней на яе ніхто і ня глянуў бы, а цяпера, глядзіця, яна шышка. Хамінічы Гор.

**ЛУХЦІ́ЦЬ** незак. Гаварыць абы-што; несці лухту. Ай, ні лухці ты мне: галава ўжо баліць. Падгор'е Маг. Цэлый дзень лухціць і лухціць – і язык ні забаліць. Вішаў Бял.

**ЛУ́ЧЧЫ** прым., прысл. Лепшы, лепш. Луччы сядзь, па-добраму сызнайся, ні дыжыдайся пакуліцька пруціну вазьму. Немерка Дрыб.

**ЛУ́ША** ж. Легкадумая дзяўчына. У жонкі, хлопча, трэба браць працавітую дзеўку, а ні якую-небудзь лушу, што й анучы ні памыя. Аляксандраў Маг.

**ЛЫ́НДАЦЬ** незак. 1. Гультайнічаць, біць лынды. 2. Дарэмна хадзіць. Дзень цэлы па горадзі лындалі і нічогенька ні купілі. Чырвоная Слабада Бых.

**ЛЬНІ́ШЧА** н. Льнянішча. На льнішчу лён сьцелім, а пасьля кароў пасьцім. Вусце Чэрык.

**ЛЭ́НДЖА** аг. Пустамеля. Лэндзіць і лэндзіць лэнджа еты. Абы толькі ні маўчаць. Што за вырадак! Хамінічы Гор.

**ЛЮ́ТАР** м. уст. Бязбожнік. Лютар еты зноў награшыў. Зноў аблаяў і бацюшку, і бога. Хамінічы Гор.

**ЛЮ́ХТА** Ж. Адтуліна ў печы, фундаменце і інш. Нада ўжо люхты ў хвундамінці закрыць, а то ў хаці халодна, хоць і топім печ. Цвёрдаў Бых.

**ЛЯДА́ЦЬ** незак. Рабіцца мутарна, моташна. Чаго йта мяне так лідаець, а ні ташніць? Ці жалудак ні забалеў? Н.Аляксандраўка Чав.

**ЛЯДО́ЎКІ** мн. Познія грыбы. Лядоўкі растуць да зімы. Бароўка Маг.

**ЛЯКЕ́РКІ** мн. уст. Лакіраваныя туфлі. Як даўней, дык і лякеркі былі роскаш. А цяперацька ўсё ні па чом – машыну йім падавай. Скрыпліца Кір.

**ЛЯ́ПАЎКА** ж. жарт. Званок, які вешаюць на шыю блуднай жывёле. Наша цёлка дужа зброддівая. Вот я й павесіла ёй ляпаўку на шыю. Чырвоная Слабада Бых.

**ЛЯПЕ́ШНІК** м. зб. Алешнік. Выгань, сынок, кароў зь ляпешніка: там ужо німашыцька нічога есьць. Шаламы Слаўг.

**ЛЯСКО́ЎКА** ж. 1. Дзікая яблыня. 2. Плод дзікай яблыні. Такія кіслыя, аж рот дзярэць – гэтыя ляскоўкі. Прыхабы Бял.

# М

**МАГАЗІ́НШЧЫЦА** ж. Прадаўшчыца. Ці скора ета мыгазіншчыца аткрыіць мыгазін. Хоцімск. Магазіншчыца некуды з'ехала, ажно цэлы дзень ні будзе. Падлужжа Глуск. Ізноў у нас новыя мыгазіншчыца! Негін Касц.

**МАДЗЕ́ЦЬ** незак. Маяцца. Ой, п'ець п'яніца нядзелю,
А я зь дзеткамі мадзею. (З песні)
Красная Горка Шкл.

**МАДЭ́ДА** ж. іран. Пра жанчыну, якая любіць звышмодна апранацца. Што ета мадэда на галаву сабе ўзложыла? Ці ня хочаш і ты такую шапку прыдбаць? Хамінічы Гор.

**МАЗО́ЛІЦЦА** незак. перан. Успамінаць. Ай, нам ужо, старым, ні інцірэсна, ня хочыцца ўжо мазоліцца. Гылыва баліць. Харошкі Маг.

**МАКАЗЕ́Й** м. Пабудова для зерня. Жыта раньшы было ўсё ў маказею. Перакладавічы Быx.

**МАКАТЫ́РНІК** м. груб. Галава. Што, раскалоў свой макатырнік. Больш піць ня будзяш? Н.Аляксандраўка Чав.

**МА(К)ЦЫКЛЕ́Т м, МАНЦЫКЛЕ́ТА м., МАНЦЫКЛЕ́Т, МЫНЦЫКЛЕ́Т** м. Матацыкл. Чую: макцыклет загудзеў. Каменка Крыч. Мой мацыклет прайшоў пяць тысяч кілометраў. Ветрынка Быx. У нас дзеўкі езьдзяць на манцыклеце. Дзікае Глуск. Сын шыпка езьдзя на манцыклеці. Забор'е Быx. Які харошы манцыклет. Смаліца Быx. На вуліцы прасігналіў манцыклет. Ялоўка Чэрык. Ён цябе на мынцыклеце прівёс? Негін Касц.

**МАЛАДЗЯ́Н** м. асудж. Пра немаладога ўжо чалавека, які не кідае звычак маладых. Стары чалавек, а ўсё маладзіцца. Так і кажам: "маладзян!" "Маладзян дык маладзян".

**МАМЕ́Й** груб. Маўчун. Што ета за мамей, толькі сапе ў нос і ўсё. Ні пагаварыць зь ім. Н.Аляксандраўка Чав.

**МАН** аг. Падманшчык. У таго мана ты хочаш праўду знайсці? Плюнь! Прысна Маг.

**МАНІ́ЦЬ** незак. Клікаць жывёліну, заманьваючы. Усё летам мы сваю карову манілі, каб загнаць у хлеў, – так ёй ні хацелася ісці двору. Прысна Маг.

**МАНКЕ́ТА** ж. Манжэта. Схавай, фарсун, манкеты, а то павылезьлі з рукавоў. Прыхабы Бял.

**МАРАЗЯ́НКА** ж. Ледзяная горка. Як былі дзецьмі, маразянкі марозілі і коўзаліся позна-позна. Сухары Маг.

**МАРКЕ́Р** м. Акучнік. Вазьмі ў Піліпа маркер, трэба бульбу падагнаць. Чырвоная Слабада Быx.

**МА́СЛІНКА** ж. 1. Масленіца. 2. Абрад у вяселлі. Масьлінку начынаюць ш чыцьвірга – маслым гылаву мажуць, сырым адгыўляюцца… Лабковічы Крыч.

**МАСТАВЫ́** прым. Драўляны. Ой, ты кладачка маставенькая, не гніся ты пада мной. (З песні). Красны Бор Шкл.

**МАСЛУХ** м., гл. **КАЖАК.** Людзі, якія прыходзілі з боку Браншчыны з мэтай падрыхтоўкі лесу для пабудовы ферм. Вунь пашлі два маслухі (кажакі). Кавычыцы Касц.

**МА́СЛЯНІЦА** ж. Посуд для масла. Цяпера культурна – усё масла дзяржаць у масьляніцы. Галоўчын Бял.

**МАСО́Л** м. 1. Костка. 2. Падмазка. 3. Анучка для змазвання скаварады. Вымаж снычала скывараду масолам, а затым лажы ўжо цеста. Клімавічы Шкл.

**МАСНІ́ЦА** ж. Маснічына. Масьніцы пакаробіліся, нада мяняць. Сялец Быx.

**МАТО́К** м. 1. Маток. 2. Вузел (на нітцы, матэрыі і інш.). На сукенцы ў Насці маток на матку. На нітцы завязаўся маток. Мхінічы Краснап.

**МАТРЫ́** мн. Канцы асновы, якія адразаюцца пасля датыкання. Зграбі матры ў адну кучу, ніхай ні выляюцца пад нығамі. Мхінічы Краснап.

**МАХАЁРЫ** мн. Парванае адзенне. Панадзявала гэтыя махаёры, хіба німа чаго лепшага насіць. Замасточча Глуск.

**МА́ХЕР, МАХЯ́Р** м., іран. Майстар. О, ты ў міне махяр на ўсе рукі, як нічога ні робіш, а як станіш рабіць – нічога ні выходзіць. Хамінічы Гор.

**МЕ́ЛЬШЧЫК** м. Мельнік. Мельшчык у нас дужа цікавы чалавек. Столькі людзей бачыў, дак многа чаго чуў. Угольшчына Бял.

**МЕНДА́ЛЬ** ж. Медаль. У мяне ёсць дзве мендалі за вайну. Угольшчына Бял. Ён атрымаў мендаль за атвагу. Асман-Касаева Бял. Колькі я нагаравалася, каб атрымаць гэту мендалю. Асман-Касаева Бял.

**МЕ́ТРЫ** мн. Дровы падрыхтаваныя і складзеныя ў кубічныя метры (у лесе). Сасед вун воз метраў прівёс, а ты ўсё дрыхніш. Рыкі Маг.

**МЕ́ШАНКА** ж. Прыгатаваны корм для свіней. На, дружок, мешанку свіням занясі. Угольшчына Бял.

**МІ́ЗДРА** ж. Пацёртая сырая бульба. Трэба дабавіць у міздру крыху мукі і будуць добрыя дранікі. Мокрае Быx.

**МІКА́ДА** ж. Вафля. Купі мне, унучка, пачку мікады. Брожа Бабр.

**МІТРАХВО́Н** м. Магнітафон. Прынясіце, дзетачкі, мітрахвон, тады я буду вам піяць. І кап па радзіва пірадалі. Тударава Шкл.

**МО́НДРЫ** прым. іран. Разумны. Каб ні такі мондры, то ні ўляцеў бы ў бяду. І ні разбіралі б, і ні судзілі б! Жыві сам – і ні мяшай другім жыць! І цябе ніхто ні пакрыўдзіць, калі ты крыўдзіць ня будзеш. Хамінічы Гор.

**МУНІ́СЬЦЯ** ж. Амністыя. А як мунісьція была, дык яму пяць гадоў скінулі. Січас, як шоўкавый. Сухары Маг.

**МУ́РЫН** м. іран. Чанавалосы, смуглы чалавек. І сам ён мурын, і мурын сын у яго. Хамінічы Гор.

**МЫКА́ЦЬ МЫ́ЧКІ** словазл. Рыхтаваць лён да пражы. Учора мыкала мычкі, а сяньні буду прясьць. Каўшова Мсц.

**МЫС** м. Нос лодкі. На мысе лучыну палілі. Штоб луччы рыбу можна было ночаю відзіць. Лабковічы Крыч.

**МЫ́СІК** м. Вострыканец яйца. Ня бі пушкай, а бі мысікам. Княжыцы Маг.

**МЫТАХО́Н** м. Магнітафон. Пріехыў Пеця, дык мы ў яго ўсё на мытахон запісалі. Дзюжа харошыя запісі. Сухары Маг.

**МЫТЫЦЫКЛЕ́Т** м. Матацыкл. Данілка, дзетычка, ні купляй ты етый мытыцыклет, на што ён табе здаўся. Немерка Дрыб.

**МЫЧА́ЦЬ ЛЁН** спалуч. Часаць лён. Лён на грэбені мычуць, патом у звязкі вяжуць. Мхінічы Красн.

**МЯЦІ́ЎЯ** н. зб. Бацвінне. Нада мяціўя карові аддаваць, а то згніець у гародзі. Прыхабы Бял.

**МЯ́ЧКА** ж. Церніца. Калі лён высахнець, круцім яго ў мячкі. Тубушкі Бял.

# Н

**НАБУРДЫ́ХАЦЬ** зак. груб. Наліць (праз меру). Ну, што набурдыхаў поўнае судно, дайжа з верхам? Магілёў.

**НАГА́ ЦЕ́РАЗ ПАРО́Г** словазл. Першы крок (у сені, у хату і інш.). Толькі я нагу церас парог, а фашысты цап за мяне: дзе была? Куды хадзіла? Брыцалавічы Асіп.

**НАГДА́** прысл. Калі-небудзь, сяды-тады. Нагда ён бывае ў нас, каскі расказвая. Сялец Бых.

**НАГЛЫТА́ЦЦА** зак. Напіцца. Во, ужо ізноў наглытаўся. Пільшчыцы Бял.

**НАДВО́Р'Е** н. Двор. Чаму ты не памяла надвор'е? Смаліца Бых.

**НАДЗЁЖА** ж. Адзенне. Надзёжа мая нізавісная. Сухары Маг.

**НА ДО́СВІЦЦЯ** прысл. На досвітку. Агата йшчэ на досьвіцьця пашла ў ягады. Вусце Чэрык.

**НАД ДУ́ХАМ** прысл. Каля печы ці над печчу. Вольга, павесь-ка цадзілку над духам. Каменка Крыч.

**НАДЫ́БАЦЬ** зак. іран. Знайсці; набыць. Ну й работку ж мы сабе надыбалі – нада ш так апраставалосіцца! Тударава Шкл.

**НАЕ́ЗДЖЫ(Й)** прым. Такі, які перасяліўся з адной мясцовасці ў другую. Сколькі наезджых прыехала ў нашу вёску, атабарыліся і жывуць хоць бы што. Прысна Маг.

**НАЖУ́ТКА** ж. Цёплая кофта. Нада надзець, наверна, нажутку, замерзлі плечы. Біскупка Бял.

**НАЗА́ЎТРАГА** прысл. Назаўтра. Назаўтріга пріджджаюць міліцыянер і сьледувацель. Гародня Маг. Нызаўтріга міня сразу пыслалі ў разьветку. Маеевічы Клім.

**НА́ЙДА** ж. Жанчына, якая паспявае пабыць усюды. Ну й Аріна – сушчыя найда, усюдых пабываець. Немерка Дрыб.

**НАКАСТЫЛЯ́ЦЬ** зак. іран. Адлупцаваць. Учора Ігнат ныкыстыляў свайго сына, сяньні, як шоўкавый. Мушына Мсц.

**НАКЛАДА́НКА** ж. Саматканая посцілка. Етую накладанку ткала шчэ мая мама. Чырвоная Слабада Бых.

**НАКРУЦІ́ЦЬ** зак. перан. Навязаць багата вянкоў цыбулі. Багата вянкоў цыбулі накруціла сёлета. Костачы Кір.

**НАКУДЛА́ЧЫЦЬ, НАКУЛЬДА́ЧЫЦЬ, НАКУЛЬДО́ЧЫЦЬ, НАКУЛЬДЫ́ЧЫЦЬ** зак. Нагаварыць абы-чаго, напляткарыць. Ня слухайце яе, накудлачыць яна вам абы-чаго. Угольшчына Бял. Што ты тут накульдочыла? Асман-Касаева Бял. Іна вам накульдачыла, што і ні разбірыцё. Шчамілаўка Бых. Абы-чаго накульдычыла етая Прося. Пільшчыца Бял.

**НАКЛЮ́КАЦЦА** зак. іран. Напіцца (гарэлкі, віна і пад.). Во наклюкаўся, чуць паўзе. Брожа Бабр.

**НА́НАЧКІ** прысл. 1. На ноч. Толькі ў лес наначкі збіралася ўся наша сям'я, а тут бух-бабах. І танкі пашлі. І вёску запалілі. Шчамілаўка Бял. 2. Позна вечарам. Наначкі ў нашай хаце збіралася амаль уся маладзёж. Асман-Касаева Бял. Бывала, мы збіраліся наначкі і спявалі, вышывалі. Асман-Касаева Бял.

**НА́НІЧКУ** прысл. Наадварот (апрануць вопратку). От і адзелась, а сукенку то нанічку адзела! Ну, куда ш ісці так на вуліцу. Скрыпліца Кір.

**НАПРЫКЛЯ́ЦЦА** зак. Надакучаць, надаядаць. Ды ці доўга ты будзеш напрыкляцца? Ідзі адсюль, пакуль ні палучыў па заслугам… Чырвоная Слабада Бых.

**НАПСЕ́ЦЬ** зак. Набракнуць, намокнуць. Ета бярно так напсела, што аш цячэць зь яго. Шаламы Слаўг.

**НАПУЗЫ́РЫЦЦА** зак. Наесціся звыш нормы. Во напузырыўся казённыга, што німа сілы йсці. Ну й завісьнікі! Немерка Дрыб.

**НАПУ́ЦІЦЬ, НАПУ́ЧЫЦЬ** зак. Паказаць, указаць. Прынясі карту, я вас напучу, куды ісці. Я вас магу напуціць, бо я ведаю ету мясцовасць. Угольшчына Бял.

**НАРА́СЦЬ** ж. Нарыў. Нейкыя нарысьць нырысла ў цялёнка ў році, нічога во ня есь. Акуліцы Маг.

**НАРО́ЖНІК** м. Пасуднік. Палажы ложкі ў нарожнік, дачушка. Чырвоная Слабада Бых.

**НАРУ́ГВАЦЦА** незак. Здзекавацца, насміхацца. Наругваўся ён зь Ніны, і забалела дзеўка. А яму ходзь бы што – вот ірад. Сухары Маг.

**НАСКАВІ́К** м. Мяшок адціскаць сыр. Наліла ўжо ў наскавік тварагу, буду ацыціскаць сыр. Чырвоная Слабада Бых.

**НАСМЕ́ТНІК** м. Качарэжнік. У насметніку стыяць кычырьга, чыпіла, вілкі. Хоцімск.

**НАСТРЫКА́ЦЬ** зак. Ссекчы, высцебаць крапівай. Ну й і настрыкаю ш я цябе, унучак, крапіваю за вытаптаныя грады. Чырвоная Слабада Бых.

**НАСУ́ЛЯ** ж. зневаж. Насатая жанчына. Насулю такую ўзяў – багацце зьнікла, а і зараз ні магу на яе палюбоўна глядзець, але ж прывыклася. Хамінічы Гор.

**НАЎЛО́ННІ** прысл. На каленях. Мая дзяўчынка так любіць сядзець наўлонні, што ня выказаць. Рымінка Чав.

**НАЎПРО́ЦЬ** прысл. Насупраць. Наўпроць ля дома была школа. Асман-Касаева Бял. Наўпроць расло вельмі многа арэшніку. Асман-Касаева Бял.

**НА ЎМЕ́ЦІ (МЕЦЬ)** словазл. Мець на ўвазе. Я ўмела на ўмеці закончыць сяньні ету работу, ды ня вышла, як задумыла. Рымінка Чав.

**НА́ХВІЛЯ** прысл. Навошта. Нахвіля ты яшчэ адну сукенку прыдбала? Гэтыя хоць панасі. Угольшчына Бял. Нахвіля яны табе спатрэбіліся зарас? Асман-Касаева Бял.

**НАХІНУ́ЦЦА** зак. Нагнуцца, нахіліцца. Нахінуўся ён над ёй, пацалаваў, а што нельга ці што? Бялевічы Маг.

**НАХО́ДЖЫЦЬ** зак. Знаходзіць. Сядзімо ў лесі, чакаем нівядома чаго, нас так ніхто і ні находжыць. Як захацелі есьці, дык самі пачалі варушыцца. Слабада Бабр.

**НАЦЕ́НКА** ж. Памылка пры снаванні кросен. Як гэта я магла наценку зрабіць у знаёмым дзеле? Мхінічы Красн.

**НА́ЦЯ** дз. Наце. Наця вам стул, садзіціся. Шчамілаўка Бял. Наця вам хлеб і ложку, есьце. Пільшчыцы Бял.

**НАЧАНУ́ЦЬ** зак. Пачнуць. Кіно нычануць яшчэ ня скора. Асман-Касаева Бял.

**НАЧАРАСЯ́К** прысл. Напрасткі. Пайдзём начарасяк цірас поля: бліжэй будзя. Бракава Маг.

**НАЧО́Й, НО́ЧЧЫ** прысл. Ноччу. Начой мала сплю, нада нервы лячыць. Дасовічы Маг. Начой прыехалі хвашысты, акружылі дзяреўню і ўсю спалілі. Машкова Гор. Ноччы было страшней, чым днём. Слабодка Бабр.

**НАЧЭ́РАЗ, НАЧЭРАСЯ́К** Напрасткі. Ён пайшоў начэраз, а мы паехалі. Радзішына Шкл. Пайшлі начэрысяк, а прыйшлі пазьней усіх. Цяцерка Кругл.

**НЕДАВЯ́РАК** аг. Той, хто не давярае. От ужэ нідавярак, ніколі ні паверыць. Што яму ні скажы – усё пераверне на свой лад, недавярак еты. Паршына Маг.

**НЕДАЛЭ́НЧА, НІДАЛЭ́НЧА** аг. зневаж. Недарэка, няўклюдны, недалужны чалавек. Ну што, недалэнча ета, што яна можа? Ні хлопяц, а нідалэнча некій – усё з рук падая. Мхінічы Красн.

**НЕДАПЕ́КА** аг. іран. Дурнаваты чалавек. Ці ж з етым недапекам куды ў людзі выйдзеш? Чырвоная Слабада Бых.

**НЕДАПЕ́ЧАНЫ** прым. Ненармальны, дурны. Я гавару яму: "Ідзі ў хату, а то дождж!", а ён стаіць, як недапечаны, і мокне. Брожа Бабр.

**НЕДАСЕ́КА** ж. Загана. Як ні гаварыла маці, у палатне была недасека. Палатно на мяшкі пайшло. Мхінічы Красн.

**НЕ́ЖАЧКІ** мн. ласк. Ножачкі. Пажалеў ён свае нежачкі, сеў на гэтую машыну, вот і прапаў саколік. Пільшычы Бял.

**НЕПАПРА́ТАНЫ** дзеепрым. Не схаваны. Хто быў не папратаны, таго пагналі на плошчаць, каб глядзелі на расправу с парцізанамі. Асман-Касаева Бял.

**НЕПА́РУШНІЦА** ж. Такая, што не складае пары; не пара. А яна была яму непарушніца. Сухары Маг.

**НЕПУТНЫ́(Й)** прым. Нядобры, неразваротлівы. У нашыя Ганны саўсём непутный мужык. Сухары Маг.

**НЕРАЗВЯ́ЗНЫ** прым. Маўклівы. Хвёдар у нас такі ўжэ неразвязны быў, а цяпера такі дбайны бацька стаў – проста любата. Княжыцы Маг.

**НЕСУСВЕ́ТНЫ(Й)** прым. Вельмі вялікі (ілгун, гультай і інш.). Сусед наш нісусветны лгун. З роду такі і памрэ такі. Чырвоная Слабада Быx.

**НЕ́ТРА** ж. 1. Непраходнае месца. 2. Непагадзь. Куды мы ідом нетра тат ня лезь. У ету нетру. Брожа Бабр.

**НІ́ЖНЯЕ** прым. н. Ніжняе, сподняе жаночае і мужчынскае адзенне. Палатно йшло на ўсё – і на ніжняе, і на верхняе. Тубушкі Бял.

**НІ́КАЦЬ** незак. Выглядаць, вывіжоўваць. Ні хачу, каб хадзілі да нікалі тут усялякія. Чырвоная Слабада Быx.

**НІЛАЙДЫ́МА ЯК** прысл. Немаведама як. Сядзім, вучымся, бувала, а двору іщці так баісься ўвечары, што нілайдыма як. Шышава Гор.

**НІПЕ́ЎНЫ** прым. Слабы, дрэнны. У міне ўжэ такія зубы ніпеўныя. Замасточча Глуск.

**НІЧАЕ́НЕЧКА** займ. Нічога. Нічаенечка ні было пасьля вайны, цяпера ўсім давольны. Сафійск Маг.

**НІЎЗА́ДАЎЗІ** прысл. Незадоўга. Ніўзадаўзі ж і твой хазяін памёр, асталіся мы ўдовы пошля вайны. Свяцілавічы Бял.

**НО́НІЧЫ** прысл. Зараз, цяпер. Нонічы добра жывецца ўсім. Ета вялікае шчасце. Кледнявічы Дрыб.

**НО́САЛЬ** м. абразл. Насаты чалавек; насач. Як буў носаль у маладосьці, так ім і застаўся да самай глыбокай старасьці. Пайшла за яго, бо загадалі бацькі. Хамінічы Гор.

**НО́СКІ** прым. Які доўга носіцца (пра матэрыял). Якое ж носкае палатно еты лаўсан! Праўда , потнае цела ад яго й адзенне іскрыць. Чырвоная Слабада Быx.

**НО́ШАЧКА** ж. Клунак. Людзі бяруць с сабой ношачкі і ня ведаюць, што йдуць на смерць. Хто мог паверыць, што немцы – такія гады. Слаўкавічы Глуск.

**НУЛЁЎКА** ж. Машынка для стрыжкі валос. Дзяцей луччы нулёўкай пастрыгаць. Тударава Шкл.

**НУ́ТРАННАСЦЬ** ж. 1. Нутро. 2. Унутранасць. Нутрінныськ – ета серца, пячонка, лёхкія ў кыбына. Люзалава Мсц.

**НЯВЕ́ХНАЧКА** ж. Нявестачка. А ў мяне нявехначка дужа добрая; колькі жывём, ні магу нацешыцца. Угольшчына Бял.

**НЯВЕ́СНА, НЯВЕ́ХНА, НЯВЕ́ХНАЧКА, НЯВЕ́ХТА** ж. Нявестка. А ідзе нявесна падзелася? Шамілаўка Бял. Не чуе нявехна, ваду беручы. Асман-Касаева Бял. А ў мяне дужа добрая нявехначка, працавітая і прыгожая. Угольшчына Бял.

**НЯГО́ Ж** прысл. Няўжо ж. Няго ж яна ня знала, што ён сёння прыдзе? Пільшычы Бял. А няго ж ты нічога ня ведаеш пра свайго старэйшага брата? Асман-Касаева Бял. Няго ж ты ні бачыла яе дачкі? Угольшчына Бял.

**НЯЖ** прысл. Няўжо ж, сапраўды. Няж не так? Дабужа Быx.

**НЯЗДЗЕ́ЖНІ** прым. Нетутэйшы. Вось еты нязьдзежні нарабіў бяды, а нам расхлёбвацца. Пільшыцы Бял.

**НЯЗЬДЗЕ́ШНІ, НЯЗЬЗДЗЕ́ШНЫ(Й)** прым. Нетутэйшы. Еты чылавек нязьдзешній. Бярозкі Хоц.

**НЯЗЛО́МАК** м. Здаравяка. Які ж ён нязломак! Бярэць бярно і кладзець на пірядок ходзь бы што. Чарнаручча Шкл.

**НЯЛЮ́БА** прысл. Дрэнна, кепска. Нялюба мне жыць, няма ніводнай сястры, усе толькі браты. І ні пырадзіцца, і ні ныгаварыцца. Клімавічы Шкл.

**НЯПРО́ЦЬ** прысл. Не супраць. Хочыш пастyпаць вучыцца? Ета і я няпроць. Сухары Маг.

**НЯМА́Ш** прысл. Няма. Німаш яшчэ ў лесі ягыт, куды йта людзі йдуць? Старына Мсц.

**НЯПРА́ЎДЗІЦЬ** незак. 1. Гаварыць няпраўду. 2. Не збывацца прадказанаму. Ай, карты нісколька ніпраўдзюць. Заполле Шкл.

**НЯЎЖЭ́ЛІ** прысл. Хіба, няўжо. Няўжэлі ўжо дошч пойдзіць, ходзь бы даў нам сена высушыць, а то адной тады зь йім цігайся. Харошкі Маг.

**НЯЎМЕ́ЛКА** аг. Няўмека. Есьлі мучыца цячэць, то й няўмелка сьпячэць. Лабанаўка Чэр.

**НЯЎСПЕ́ЦЦА** зак. Не паспець. Ой, дзевачкі! Няўспеліся пісаць песьні? Матафон нада. Сафійск Маг.

**НЯХО́ЛЬНЯ** м. Неахайны чалавек. На вуліцы ходзіць нейкі няхольня. Адкулека ён паявіўся, ня ведаем. Прысна Маг.

## О

**ОТ ГЭ́ТАЙ ПАРО́Ю** спалуч. У гэтую пору, у гэты час. От гэтай парою прыбягае да мяне брат і гаворыць: “Уцякайце ў лес!” Мы ўцяклі і засталіся жывыя. Несята Кліч.

**О́ТКАЯ** прым. Вельмі добрая. Цяпер жысь откая! І каля хаты, і ў хаце. І робім мала. І сыты, і адзеты. Чарнаручча Шкл.

## П

**ПАБОЎТАЦЦА** зак. перан. Патанцаваць. Цяперя ці ш такія танцы? Пабоўтаюцца: боўць, боўць – і канец. Татарка Кругл.

**ПАБУВА́ЦЦА** зак. Абуцца (у лапці). Раней пабуёмся ў лапці, ды ідзём на вячоркі. А цяпера і плесці іх ніхто ня ўмеець. Бабровічы Маг.

**ПАГАНЁН** м. Крыклівае дзіця. Паганён гэты цэлу ноч спаць ні даў: усё “агу!” ды “агу”. А каб ён здаровенькі быў! Хамінічы Гор.

**ПАДАГНА́ЦЬ** (бульбу) зак. Акучыць (бульбу). Трэба другі раз бульбу падагнаць. Чырвоная Слабада Бых.

**ПАДАДЗІЯ́ЛЬНІК** м. Чахол на коўдру. Дзеці, наце на адзіяла пададзіяльнік надзеньця. Заходы Шкл. Купіла сіццу дабрэннага на пададзіяльнік, а шшыць яшчэ ня шшыла. Сялец Бых.

**ПАДАКУ́ЧВАЦЬ** незак. Пачынаць акучваць бульбу. Нада ўжо бульбу падакучваць, а то перарасцець і зеллем зарасьцець. Княжыцы Маг.

**ПАДАЛЕ́ШКІ** мн. зб. Ядомы від грыбоў вешанкі. Пападаліся толькі адны падалешкі. Смаліца Бых.

**ПАДВО́ЙНІКІ** мн. Падвойныя вокны; дубэльты. На зіму мы ставім падвойнікі. Многа цяплей. І ні так сыра ў домі. Клімавічы Шкл.

**ПАДГРАБЫ́** мн. Тоўстыя белыя грыбы. Сёння насабірала поўны кошык падграбоў у нашым лесу. Пасушу і зімой буду супы варыць. Княжыцы Маг.

**ПАДДЗЁМ** м. Зарослае нізіннае месца. Зімой у паддзёме шмат ваўкоў бываець. Харошкі Маг.

**ПАДКО́МЧЫЦЬ, ПАДКО́РЧЫЦЬ** зак. Падагнуць, падкурчыць (ногі). Падкомчыла ногі і села на канапу. Н.Аляксандраўка Чав.

**ПА́ДЛІШЧА** н. Месца для здохлай жывёлы. Ны падлішча я дайжа і ні хадзіла. Сухары Маг.

**ПАД МЯЦЁЛКУ** словазл. Дачыста, без астатку. Скот хвашысты ўвесь пыд мяцёлку ўгналі, дзяреўню спалілі, людзей пабілі. Машкова Гор.

**ПАДМЯША́ЦЬ** зак. Акучваць. Людзі ўжо бульбу пыдмішалі, а ты ўсё ходзіш, як сонный. Штоп схадзіў сяньні ніадкладна да брыгадзіра. Усім коней даець, і табе дась. Чарнаручча Шкл.

**ПАДНО́ЖНІК** м. Палавік (звычайна каля ложка). У нас каля креваці красівыя падножнікі. Буднеў Кліч.

**ПАДО́РВА** ж. жарт. Стан, калі можна падарвацца (ад смеху). Ой, з табой гаварыць адна падорва. І родзюцца ш такія комікі на свет! Тударава Шкл.

**ПАД ПЛУ́Г** прысл. Пры дапамозе плуга (пра спосаб пасадкі бульбы). Бульбу содзім толькі пат плух. Шапялевічы Кругл.

**ПАДСО́ЛНУХА** ж. Сланечнік. Падсолнуха вырасла пад самым акном. Смаліца Бых.

**ПАДСЯКА́ЦЬ** (бульбу) незак. Акучваць (бульбу). Нада бульбу пытсякаць, пірірясьцець скора. Доўгае Чэрык.

**ПАДУЗО́РНІК** м. Упрыгожванне для ложка, якое падвешваецца збоку. Вельмі прыгожыя ў цябе падузорнікі, вачэй не адарваць. Смаліца Бых.

**ПАДУРЫ́ЦЬ** зак. перан. Разгультаіць; разбэсціць. Падурыла пенсія людзей. Сядзяць седзьма дома, а сена гніець. Клімавічы Шкл.

**ПАДСТРЫ́ГЧЫ ПАД НУЛЁЎКУ** спалуч. Падстрыгчы нагола. Івану галоўку падстрыглі пад нулёўку. І пойдзіць служыць на славу Родзіны. Тударава Шкл.

**ПАДШЫ́ЎКА** ж. 1. Падбіўка. 2. Дошкі, якія прыбіваюць па баках страхі. Гэта падшыўка ўжо скора адваліцца – нада яе замяніць. Княжыцы Маг.

**ПАДЗЕ́ЛАЦЬ** зак. 1. Парабіць. 2. Ухадзіцца. Я во падзелыла, ды трохі цяпера пасьплю. Тударава Шкл.

**ПАДЗЕ́ЦЬ** зак. Схаваць. Куды б ета палучку падзець, штоб етый п'янтос не скраў. Мушына Мсц.

**ПАДЫБА́БАК** м. Падбярозавік. Дужа многа падыбабкаў расьцець у балоці. Бярозкі Хоц.

**ПАДЫМЛЯ́ЦЬ** зак. уст. Падымаць. Фашысты падымлюць яго рана і гонюць на работу. Пільшыцы Бял.

**ПАЗВАНО́ШНІК** м. Хрыбетнік. Ох, і няшчасная мая сусетка! З воза звалілася і зламала сабе пазваношнік. Асман-Касаева Бял.

**ПАІСА́** мн. Паясы зб. Плацце было з паісамі. Пільшыцы Бял. Тады прыгожыя былі паіса. Асман-Касаева Бял.

**ПАЙДЗЁЦЬ** зак. Пойдзе. Яна з намі пайдзёць. Дубейкава Мсц.

**ПАЗЫВА́ЦЬ** незак. Клікаць. А мяне тут пазываюць на трыбуну. Ну, думаю, і скажу ўсю праўдыньку. Чарнаручча Шкл.

**ПАЕ́ТУЛЯ** прысл. Дагэтуль, да гэтага часу. Раней шылі рубашку пылытняную, вышываную. Паетуля некаторыя носюць. Сухары Маг.

**ПАКА́МІСЬ** прысл. Пакуль. Пакамісь жылі з бацькам, было ўсё добранька. Як толькі аддзяліліся, пачаліся сваркі, праследаваньні: мужык аказаўся раўнівым. Слабодка Бабр.

**ПАКА́ЎКАЦЬ** незак. груб. Паесці. Во была ўчора ў Бялынічах, дык там усё ёсць, а тут пакаўкалі ўсё: і вермішэль, і мыкароны, і дайжа сушкі. Клімавічы Шкл.

**ПАКЕ́ДА, ПАКЕ́ЛЬ** прысл. Пакуль. Пакеда я прыйду, ты падажджы міня. Ну, пакель! Куляшоўка Клім.

**ПАКІ́ДЗІШЧА** н. Пажарышча. Кагда кончыўся еты пажар, дык ні ўсіх пазнаходзілі на етым пакідзішчы. Труханаўка Кругл.

**ПАКРА́ШЫ** прым. Прыгажэйшы. Паеду ў Расію – пакрашы найду за цябе. Асман-Касаева Бял.

**ПАКРЫ́ШКА** ж. Навалачка (на падушку). Пакрышкі да вайны самаробныя былі, цяпера пакупаім у магазіні. Харошкі Маг.

**ПАКУ́ЛЕЦЬКІ, ПАКУ́ЛЯ, ПАКУ́ЦЕЛЬКІ** прысл. Пакуль. Ты пакулецькі адпачні, а потым будзеш працаваць. Асман-Касаева Бял. Пакуля сонейка было, усё, як вішанька, цвіло. Асман-Касаева Бял. Пакуцелькі я праснулася, сонца паднялося высока. Угольшчына Бял.

**ПАЛАВІ́НКІ** мн. зб. Адвараная бульба (без шалупіння). Гразда смачныя палавінкі з гурком і мароженым салам. Чырвоная Слабада Бых.

**ПАЛА́НАЧКІ** мн. Невялікія начовачкі. Раней у паланачках крупы веялі. Чырвоная Слабада Бых.

**ПАЛА́НКІ** мн. Начоўкі палаць зерне. Зрабіў я сабе добрыя паланкі. Можа й табе зрабіць: ты ж жыта пасеіла сёліта. Лубнішча Маг.

**ПАЛАСКА́ЦЬ РОТ** словазл. 1. Пахмяляцца. 2. Гуляць апошні дзень вяселля. Пасьледній дзень рот палошчуць – значыць: свадзьбі канец. Лабковічы Крыч.

**ПАЛАТНО́** н. 1. Палатно. 2. Верх стала, яго гарызантальная частка. Пакладзі, сынок, сшыткі на палатно: я праверу. Мхінічы Красн.

**ПАЛАЎНІ́ЦА** ж. Дошка ў падлозе. Палаўніца вельмі скрыпела, так мы яе замянілі і йшчэ ні пакрасілі. Верамейкі Чэрык.

**ПАЛАЦЕ́НЕЦ** м. Ручнік. Памый палаценец, хай ні выляецца. М.Крапіўня Касц.

**ПАЛЁГАЦЬ** зак. Прыблізна ўзважыць, узяўшы рукамі. Палёгай, сколькі важыць гэта сумка. Ну, як думаеш? Справядлівый вес ці не? Чарнаручча Шкл.

**ПАЛО́ЙКА** ж. Квашаная капуста. Наквасілі палоік, на ўсю зіму хопіць. Шараеўшчына Бабр.

**ПАЛТРЭТ** м. Партрэт. Панадзелыла палтрэтаў, а нашто яны мне? Хоцімск.

**ПАЛЬЗІ́ЦЕЛЬНА** прысл. Карысна. Еш, ета пальзіцельна. М.Крапіўня Касц.

**ПАЛЫ́БАЦЬ** зак. жарт. Паесці. Пачакай, а то ты адзін палыбаеш усё, а брату й ні пакінеш – ведаім цябе. Рэкта Слаўг.

**ПАЛЯМБІ́ЦА** ж. Паляндвіца. С пылямбіцы надзелалі харошых куўбас. Шаламы Слаўг.

**ПАМАГА́ТАР** м. і н. зняваж. Памочнік. Добраму памочніку рады, а такіх памагатараў, каб адно за грошы, ні трэба. Хамінічы Гор.

**ПАМПУ́ШКІ** мн. 1.Бліны з пшанічнай мукі. 2.Катлеты з бульбы. Я очань люблю пампушкі. Смаліца Бых.

**ПАМЫ́ЧКІ** мн. уст. Прыстасаванне для вырабу вяровак. Лазячы па гары, дзеці знайшлі старыя памычкі. Не пагнілі – во дрэва было. Мхінічы Красн.

**ПАМЯ́ЦЬ ЛЁН У МЯ́ЧКІ** словазл. Пацерці лён у церніцы. Памнуць лён у мячкі – ета значыць памнуць лён у дзірвяннай мяліцы. Гарбатка Крыч.

**ПАНАЧАПА́ЦЬ** зак. Паназавязваць. Бывала паначапаюць лентаў у касу і такія красівыя-красівыя ходзяць і спяваюць. Прысна Маг.

**ПАНЁВА** ж. Спадніца з сукна. Падай мне панёву, дачушка. Перакладавічы Бых.

**ПАНІ́ЦІЦЦА** зак. Стаць кволым (пра кепскі рост). Сёліта так паніціліся буракі – і палівала, і ўдабрэнне сыпала, нічога ні памагло. Прыхабы Бял.

**ПАНТАЛЕ́ТЫ** мн. Лёгкі хатні абутак; сандалеты; пантофлі. Я во купіла панталеты, і добра: хадзіць лёхка. Брожа Бабр.

**ПАПАХА́ЦЬ** зак. 1. Паараць. 2. Пабаранаваць. 3. Прыбраць, падмесці (хату). Папахала б ты ж ужо хату, госьці ш прыйдуць. Стыдна ж будзе ні мне, а табе. Ты ж маладая, а я ўжо старая. Скрыпліца Кір.

**ПАПЕ́Д** м. Мапед. Апяць тут на сваім папедзі езьдзіць. Сасноўка Шкл.

**ПАПЕ́РЫЦЬ** зак. Памыць. Пайду я паперу бяльлё, а вы, дзеці, пагуляйця. Н.Аляксандраўка Чав.

**ПАПІ́ЧЫШЧА** н. Папрок. Гэта будзе ўжо вечнае папічышча – і нада ш так апраставалосіцца. Заазер'е Бял.

**ПАПКІ́** мн. зб. Расліна, падобная на дзяцеліну. А папкоў у нас многа, хоць касой касі. Сухары Маг.

**ПАПО́К** м. Капа лёну ці жыта. Пакуль ты прыцягнулася, я ўжо цэлы папок лёну набрала. Чырвоная Слабада Бых.

**ПА ПРЫРО́ДЗЕ** прысл. Па спадчыне. Па прыродзе ўдаўся такі рабацяга. Цяцерын Кругл.

**ПАПЯРО́ЧНІКІ** мн. Кароткія папярочныя барозны на прысядзібным участку. Там нам засталося падакучыць толькі некалькі папярочнікаў. Княжыцы Маг.

**ПА́РАНКА** ж. Рэзанае сена, запаранае гарачай вадой. Карові раніцай даём паранку. Засценак Глуск.

**ПАРАСПРАЎЛЯ́ЦЬ** зак. Адправіць. Параспраўляла я ўсіх хто куда, а цяпер адна жыву. Добра, але ш сумна. Чарнаруччa Шкл.

**ПАРУ́ХА** ж. Шэрсць; воўна. У нас з парухі вяжуць розныя сукенкі, вязёнкі, свіцеры. Трылесіна Дрыб.

**ПАСАЖЫ́РКА** ж. Аўтобус. Нямнога не дабегла да шасе, як пайшла пасажырка. Сасноўка Шкл. Пасажырка пайшла точна ў дванаццаць гадзін дня. Ялоўна Чэрык. Ці пайшла ўжо пасажырка? Малінаўка Бял. Я ехала туды і назад сянні на пасажырцы. Смаліца Бых. Цяпер да горада лёхка дабірацца. Сядзеш у пасажырку, і завязуць куды табе нада. Благаўка Шкл.

**ПАСАЛЁНКА** ж. Адварная ачышчаная бульба. Еш гуркі з пасалёнкаю. Негін Касц.

**ПАСЕ́ЙКІ** м. Вотруб'е; рэшткі пасля прасеянай мукі. Пакладзі мяшок з пасейкамі ў другі вугал. І глядзі, каб не было сыра там. Лубнішча Маг.

**ПА́СКА** ж. уст. Вялікдзень. Раней к пасцэ так гатовіліся, а зараз пачці ні прызнаём яе. Прывараць Глуск.

**ПА́СТА** ж. 1. Паша. 2. Чарга пасвіць жывёлу. Скора ўжэ й на пасту нада йсьціць. Н.Аляксандраўка Чав.

**ПАСО́БІЦЬ** зак. Дапамагчы. Пасоб мне, дзетачка, уськінуць сена. Ні ўмееш? Няўжо гырацкі? Толька ні лянісь – я навучу. Тударава Шкл.

**ПАСТАРАДА́ЮШЧЫЯ** дзеепрым. Якія пастрадалі, перанеслі скруху. У вайну ўсе былі сільна пастырыдаюшчыя. Бахань Слаўг.

**ПАСТЫЯ́ЛКА** ж. Свежае малако. Калі ня хочаця піць добрае мылако, бяріця пыстыялку. Хоцімск.

**ПАСУ́ДНЫЙ Я́ШЧЫК** спалуч. Месца захоўваць посуд. Ні красіла, а пакпеіла пасудный яшчык белаю бумагаю. Сялец Бых.

**ПАСУЛІ́ЦЬ** зак. Паабяцаць, не выканаць абяцання. Пасуліў ты мне, дзетка, белку паймаць. Угольшчына Бял. Пасуліць ты пасуліла, а зрабіць не зрабіла. Асман-Касаева Бял. Пасуліў прыйсці дадому рана, шчэ й няма. Шчамілаўка Бял.

**ПАСТРЫГА́ЛЬНІК** м. Цырульнік. Хоць ні такі, як у горадзі, пастрыгальнік, але патстрых. Усё лепей, як касмач быў. Хамінічы Гор.

**ПА́СЦІЦЬ КАРО́ВЫ** словазл. Пасвіць кароў. Да рэвалюцыі ўсяму нашаму роду прышлося толькі пасьціць каровы, цяперака мы інсьцітуты і цехнікумы паканчалі, начальнікамі робім. Слабодка Бабр.

**ПАСЦІ́ ШТО** часц. Бадай што, амаль што. Пасьці што ўжо тры часы, а дзевачкі ні вярнуліся з гулянкі – мо п схадзіў бы па іх стары! Як быў маладэй, кашу пасьці што цэлый дзень біз абеду – і ходзь бы што. Вот была сіла! Пілешчына Чав.

**ПАСЮГА́ЦЬ** зак. Пасёрбаць. А ты пасюгай, пасюгай, ні глядзі, што ні хочацца. Заходы Чав.

**ПАТАВАРЫШКАВА́ЦЬ** зак. Пасябраваць. З ім не патаварышкуеш, як з нармальным чалавекам. Хамінічы Гор.

**ПАСЯРО́ТКУ** прысл. Пасярод. А пасяротку ў гародзе нічога ў іх і не было. В.Бялевічы Маг.

**ПАТАПЦЫ́** мн. Хлеб з вадой і цукрам. Нарабі патапцаў дай паеш сабе. Падлужжа Глуск.

**ПАТО́КА** ж. Лагчына. Кароў сёньня пасьвілі ў патоцы, трава там стала харошая – і малака будзе многа. Баркалабава Бых.

**ПАТРАПА́ЦЬ** зак. 1. Ачысціць лён. 2. Даць адпор каму-небудзь. Мы іх, немцаў, патрапалі тут добра. Хай знаюць, па чым хунт ліха. Чарнаруччa Шкл.

**ПАЎВУГО́ЛЬНІК** м. Кут дзе стаіць кухонны посуд (насупраць печы). На паўвугольніку ў етай хадзяйкі стаяць чыстыя жбаны і вёдры ўсігда. Мхінічы Красн.

**ПАЎЗДУ́МАЦЬ** зак. Прыпомніць. Можа я ішчэ што паўздумаю, тады, дзетычкі, раскажу вам, а цяперя аддыхну. Сухары Маг.

**ПАЎЗУ́ХА** ж. Сані, якія прычэпліваюцца да трактара. Як былі эмтээсы, тады адзін трактарiст прівёз мне цэлую паўзуху дроў. Сухары Маг.

**ПАЎДЗЕ́ЛАЦЦА** зак. Забрудзіцца. Раней вазіў ён дзёгаць, паўдзелыецца, бувала, у яго, вонь у хаці. Сухары Маг.

**ПАЎСВІ́ТКА** ж. уст. Паўпаліто. Польты цяперака замянілі паўсвіткі. Паўсвіткі самі шылі. Яны былі цёплыя, але нісімпатычныя. Баравіца Бабр.

**ПАХВАЛЕ́ЙКА** н. Хвалько. Адно хваліцца – пахвалейка еты. Хамінічы Гор.

**ПАХЛУ́ДА** аг. Лайдак, абыякавы чалавек. Ну й і ўрадзілыся ж дзеўка, настыяшчая пахлуда: нічаво сяньні ня дзелыіць. Сухары Маг.

**ПАЦАГА́ЛКА** ж. Пляткарка. Ты вот ходзіш, як тая пацагалка, разносіш сплёткі па ўсёй акрузе. Кіраўск.

**ПАЦІРА́НАЯ ПА́МЯЦЬ** словазл. Кепская памяць. У яе чалавека саўсім паціраная памяць. Асман-Касаева Бял.

**ПАЦЬСІ́ЛУ** прысл. Па сіле. Ты дай яму пацьсілу ўзяцца: ён жа йшчэ малы. Заполле Шкл.

**ПАЧЫ́НАК** м. перан. жарт. 1. Таўстун. 2. Штосьці тоўстае ў чалавека. Ад'елася: рукі-пачынкі і касцей ні дамацаесься. Хамінічы Гор.

**ПАШАМАЦЕ́ЦЬ** зак. 1. Пашамацець. 2. Пайсці. Ён пышымацеў скорінька двору, як пакрытыкавалі на сыбраньні. Выдранка Красн.

**ПЕКАНУ́ЦЬ** зак. Моцна і раптоўна стрэліць. Як пекануў з даваеннага ружжа, дык аш дух заняло. І таво зайца ні захацелась. Сухары Маг.

**ПЕ́КЦІ** незак. Пячы. А сонца так пякець, што ні знаеш, куды дзявацца. Угольшчына Бял. Ну і сонейка пякець, аж некуды дзецца. Асман-Касаева Бял.

**ПЕ́ПЕЛЬНІК** м. Фартук. Насця, які ў цябе харошы пепельнік. Дзе ты яго купіла? Няўжо яшчэ мамін? Прысна Маг.

**ПЕРАБІРА́ЛКА** ж. Машына для сартыроўкі ч.-н. Цяперя ўсё перабіралка дзелыіць, а ўсё раўно ня тоя, што рукамі. Рукі нільзя замяніць. Сухары Маг.

**ПЕРАБІРА́НКІ** мн. зб. Саматканыя ручнікі. Гэтыя перабіранкі вышывала маці. Угольшчына Бял. У мяне ў сундуку былі і перабіранкі, і кажухі. Шчамілаўка Бял.

**ПЕРАБІ́РКА** ж. 1. Пярэбірак. 2. Мера пры куплі-прадажы сена. На пуд сена трэба было даць дзве перабіркі. А перабіркі розныя бываюць. Дрыбін.

**ПЕРАВЕ́ССЕ** н. Вузкая паласа лесу, якая калісьці аддзяляла палі дзвюх вёсак. Наша перавесьсе ўсё спалілі фашысты. Некрасава і Баканава Кругл.

**ПЕРАДА́ТЧЫК** м. 1. Сувязны. 2. Пляткар. А перадаччыкам пастух быў. Дзікае Глуск. Такі ш Ціхон перадаччык – нічога яму ні кажы. Замасточча Глуск.

**ПЕРАКАВІ́ЦА** ж. Прохтавая дарога. Гэта ш трэба ўсю перакавіцу ўзараць! Цяперака прыдзецца вялікі круг рабіць. Чырвоная Слабада Бых.

**ПЕРАКЛАДА́ЦЬ** зак. перан. Перабіраць. Пасьцілкі пракладалі ў цвяты, у кругі самадзельныя. Татарка Кругл.

**ПЕРАПАЛО́СЫ(Й)** прым. Пярэсты (чорны з белай паласою ўпоперак). Нашто ты купіў такога пірапалосага вяпрюка? Н.Аляксандраўка Чав.

**ПЕРАПЫ́ТВАЦЦА** незак. Перапытваць, пытацца некалькі разоў. Я перапытвалася, ці не бачыў яго? Асман-Касаева Бял.

**ПЕРАПХА́ЦЦА** зак. Перайсці. Піріпхаўся кой-как у восьмый клас і ўся мая навука. Любіў трудзіцца, етым і січас жыву. Юзефоўка Хоц.

**ПЕ́РАСАЛЬ** ж. Перасоленая страва. “Недасаль на стале – перасаль на сьпіне!” – етак любіў гаварыць мой бацька. Бабровічы Маг.

**ПЕРАЗНІМА́ЦЬ** незак. Калькаваць (узор, малюнак і інш.). Пірязьнімі-ка мне ету салхветку, я яе вышыю. Рудня Слаўг.

**ПЕ́РВАЯ ПАДНЯВЕ́СНІЦА** спалуч. Першая дружка ў маладой. Первая пыднявесьніца – ета первая падрушка ў нявесты. Вітунь Касц.

**ПЕРШЧА́ТКА** ж. Пальчатка. Патшый першчатку, а то ўжо скора разарвецца сусім. Негін Касц.

**ПЕ́СЦІК** м. 1. Невялікі таўкач. 2. Качалка. Бульбу нетуці чым тоўч, нада песьцік зьдзелаць. Рымінка Чав.

**ПЕ́ТЛІ** мн. уст. Вушкі ў лапцях ці чунях. Бывала аборкі ў петлі забырсаў – і на танцы. Ляхаўшчына Чав.

**ПЕТУШО́К** м. Вялікі палец. У саседа на правай руке нетуці пітушка. Бярозкі Хоц.

**ПЕ́ЎКІ** прым. Які добра спявае. У нашай вёсцы многа пеўкіх людзей. Есьлі б было каму сабраць хор, во быў бы хор! На ўсю вобласць! Чарнаруччa Шкл.

**ПЕЧАНЁК** м. Булачка ці пячэнне з салодкага цеста. Баб, сьпячы мне пічанька. Баб, а ў мыгазіне многа пічанькоў. Бярозкі Хоц.

**ПЕЧЫЛА́** ж. Чапяла. У нас заўсёды пічыла ля печы стаіць. Мушына Мсц.

**ПЕЦЬ ТАБУНО́М** словазл. Пець хорам. У нашым клубе часта пелі табуном. Асман Касаева Бял.

**ПЕШАКА́** прысл. Пяшком. А мы ж усё ўрэмя пешака ў школу хадзілі. В.Бялевічы Маг.

**ПІСЯТ, ПІДЗІСЯТ** ліч. Пяцьдзесят. Піісят лет умесьці жывём, скора залатую свадзьбу зьдзелыім. Лабковічы Крыч. Підзісят пар лапцей спляцець – і на базар. Пакупалі. Абідавічы Бых. Прайдзём підзісят вёрст – і ходзь бы што: былі сільныя. Макеевічы Клім.

**ПІК** м. Гудрон. Ой, сколькі піку! Кывычыцы Касц.

**ПІЛЬШЧ** м. Апілкі. Пільшчу во німа, саломы німа, ідзе ж можна ўзяць анціресна, чым патсцілаць скаціну. Сухары Маг.

**ПІСКЛЁНАК** м. Кураня. "Трэба йсці пісклёнкам даць есьці, а то пішчаць бедныя". "Ай, іх кармі-раскармі, усё раўно пішчаць". Тударава Шкл.

**ПІСТО́НЫ** мн. перан. Шкодлівыя дзеці. Во пістоны! Разьнеслі ўсё на сьвеце. І што бацькі думаюць? І чаму школа вучыць? Брожа Бабр.

**ПІЦО́ГІ** мн. уст. Зборкі ў адзенні (на рукавах, каўняры і інш.). Раней мы шылі сарочкі льняныя, прыгожыя, з піцогамі на рукавах і шыі. Княжыцы Маг.

**ПЛАВУ́К** м. Плывец. Які зь міне плавук, як сякера, на дно іду. Хамінічы Гор.

**ПЛАСТЫ́ БІ́ЦЬ, ПЛАСЦІ́ЦЬ** (сена, салому). Перабіраць сена, салому, складваць у пласты. Ты бі пласты, а я буду капу класьць. Н.Аляксандраўка Чав. Не пласьціця больш: сена сырое, пластоў ні падняць. Галоўчын Бял.

**ПЛАХЕ́ЙШЫ(Й)** прым. Горшы. Плахейшая зімля была ўсігда ў бíднякоў. Лабанаўка Чэрык.

**ПЛАШЭ́ЦЬ** незак. Занемагаць, рабіцца хваравітым. Ён стаў з кожным днём плашэць. Смаліца Бых.

**ПЛІ́СКІ** мн. Самаробныя вілы. Вазьмі пліскі ў хляве і бяжы бягом на сенакос, відзіш, туча сунецца. Чырвоная Слабада Бых.

**ПЛЮ́СЫ, ФЛЮ́СЫ** мн. Позьнія грыбы (радоўкі). Плюсы – ета ўсяго зімовыя грыбы. Трысціна Хоц. Флюсы растуць кучамі і радамі, такія сівыя, называем іх і радоўкамі. Сідаравічы Маг.

**ПЛЮ́ШАЎКА** ж. уст. Жаночае адзенне. Цяперака ў лаўку рэдка прывозяць плюшаўкі. Чырвоная Слабада Бых.

**ПЛЮ́ШКІ** мн. зб. Гнілая бульба. Хадзіла зьбіраць плюшкі, так і карміласся сама, і дзетак карміла. Слава богу, выжылі. Ой, не дай ты, божачка, больш такой жызьні! Клімавічы Шкл.

**ПЛЯ́ГАЦЬ** незак. Хадзіць без справы, без толку. Узіла йна яго на поле, і ён плягаў за ей увесь дзень. Так мы жалелі етага дзяцёнка. Клімавічы Шкл.

**ПЛЯ́ЖЫЦЬ** незак. Ліць без упынку (пра дождж). Ета ж нада, цэлы дзень дошч пляжыць – усё вымакне, машыны паґразнуць. Брожа Бабр.

**ПЛЯСНІВЫ** прым. Які з вяснушкамі. У Анюты быў плясьнівы-плясьнівы твар, як была малая. А як вырасла, то ўсё прапала, цяпер твар чысты. Княжыцы Маг.

**ПОЙДЗЕМА, ПОЙДЗІМА** зак. Пойдзем. Пойдзема быстрей, бо спознімся. Харошкі Маг. Мама, заўтра пойдзіма за грібамі? Сласцёны Чав.

**ПО́ЙКА** ж. Соска. Ні ўмееш дзіцёнка накарміць? Надзень пойку на бутылку з малаком. А ты дзяржы толькі. Вот і ўся музыка! Прыхабы Бых.

**ПО́КУЦЬ** ж. 1. Покуць. 2. Месца, дзе кладуць нябожчыка. Панас ляжаў на покуці цэлых два дні – зімою было і не тапілі спецыяльна. Хацкавічы Чав.

**ПО́ТКІДЗЕНЬ** м. Вілкі з доўгім дзяржаннем. Поткіднем падаюць сена на стох. Чырвоная Слабада Бых.

**ПРАВІ́ЛЫ** мн. Прыстасаванне, на якім распінаюць забітую жывёлу для здзірання скуры. Трэба зрабіць правілы для трусоў, бальшыя ўжо і жырныя. І шкуркі на шапку патрэбныя. Лубнішча Маг.

**ПРА́ТАЦЬ ЛЯ́ДА** спалуч. уст. Высякаць хмызняк, ачышчаць зараснік пад поле. Бывала, пойдзім прятаць ляда, а потым сеім проса. Н.Аляксандраўка Чав.

**ПРА́ХА** ж. уст. 1. Жанчына, якая прадзе. 2. Жанчына, якая мне лён. Ну й добрая ш ты праха, на ўсю вёску! Бабровічы Маг.

**ПРАЛЫ́СІЦЬ** зак. Зрабіць што-небудзь з большага. Вот лянцяйка! Загадала хату вымясьці, дак яна пралысіла на сярэдзіне і думае, што добра зрабіла. Чырвоная Слабада Бых.

**ПРАЛЬ** м. Красавік. Сёліта ў пралі было вельмі холадна. Асман-Касаева Бял.

**ПРАСІ́ЦЬМАМ** незак. Будзем прасіць. Прасіцьмам у маці грошай на праігрывацель. Падлужжа Глуск.

**ПРАШМУЛЯВА́ЦЬ** зак. Працерці, прадраць. Усю кухвайку так быстра прашмуляваў, купляй толькі табе. Шчамілаўка Бял. Ну, паглядзі ты на яе, ужо кохту прашмулявала. Угольшчына Бял.

**ПРАЦЯВІ́К** м. Унутраная частка коміна ў сялянскай хаце. Паложым сьцякло на комін, а як печку топяць, глядзяць у прыцявік, што неба аж відаць, а дым не ідзець уверх, а ў кварціру. Сухары Маг.

**ПРО́ЦЬМА** ж. 1. Процьма. 2. Перан. Непраходнае балота. У тую цёмную й страшную ноч мы вельмі баяліся, каб не папасьці ў процьму. Прысна Маг.

**ПРО́ЦЯ** прысл. Насупраць. Вот тут йіна, проця мяне, жывець, хлеб жуець і ваду п'ець. Сухары Маг.

**ПРУТ** м. 1. Прут. 2. Тупы край касы. Так касіў няёмка, што аж прут паламаў. Вот дык касец! Чырвоная Слабада Бых.

**ПРУ́ЦІНА** ж. Прут, кій, дубец. Як узяў пруціну, сразу прызнаўся. Немерка Дрыб.

**ПРУ́ЦІЧЫК** м. уст. Драўляная палачка, на якую насаджваецца цэўка. Дачушка, дапамагі на пруцічык цэўку насадзіць. Мхінічы Красн.

**ПРЫБЛУ́ДЗІЦЦА** зак. Знайсціся, выйсці з заблуджэння. Так я рада была, што дочачка мая прыблудзілася ўсё-такі к нам. Труханаўка Кругл.

**ПРЫБРЫ́ЦЬ СПЕЦЫЯ́ЛЬНАСЦЬ** словазл. Набыць спецыяльнасць. Мае дзеці хоць якую сьпіціяльнасьць прыбрылі: адзін трактарыстам, другі – слесарам, трэці – качагарам. Свяцілавічы Бял.

**ПРЫВО́ЖВАЦЬ** незак. Прывозіць. У наш магазін заўсёды рэгулярна прывожваюць хлеб. Асман-Касаева Бял.

**ПРЫДА́НЬ** ж. 1. Госці маладой. Частуюць прыдань ні так, як усіх. Гародня Маг. 2. Пасаг. Прыдань была ні багатыя – сундук які, цёлка і пырсёнак. Гародня Маг.

**ПРЫДА́ННЕ** н. Пасаг. Раньшы абізацельна дачке даюць бацькі пріданьне – карову, вечку, сундук. Лабанаўка Чэрык.

**ПРЫЗВА́ННЕ** н. Назва; прозвішча. Такею рыбу паймалі, што ніхто ні ведаў яе прізваньня. Лабковічы Крыч.

**ПРЫКАСНУ́ЦЦА** зак. Прычапіцца. Атстань! І чаго ты прікаснулася да мяне? Ялоўка Чэрык.

**ПРЫ́МКА** аг. Прыёмнае дзіця. Калі ў вайну прівазілі дзяцей з дзецкыга дому, дык мая сусетка прімку ўзіла сабе. Ай і харошая ж дзевачка вырасла! Сухары Маг.

**ПРЫМЛЯ́ЦЬ** незак. Прыняць. Падажджыце, я зараз са стала ўсё прымлю. Шчамілаўка Бял. Прымлю ўсё с караваці, тады і спаць ляжаце. Пільшыца Бял. Зараз я прымлю ета. Угольшчына Бял.

**ПРЫНЯ́ЦЬ ТРУДЫ́** словазл. Укласці вялікую працу для ч.-н. Да рівалюцыі штоб адзецца, нада было многа пріняць трудоў. Гарбатка Крыч.

**ПРЫПЛЕ́ТНІК** м. Месца за хатай, куды складваюць на зіму сухія дровы. Схадзі дачка ў прыплетнік, прынясі паленцаў сухіх. Падлужна Глуск.

**ПРЫПЯЧА́ТАЦЬ** зак. Ударыць, стукнуць. Добра пріпячатаў ён табе. Часта будзяш успамінаць ету гульню. Н.Аляксандраўка Чав.

**ПРЫСКА́ЦЦА** незак. Пырскацца. Цялега ня прыскалася, яна ехала роўна. Шчамілаўка Бял.

**ПРЫТЫ́РАК** м. абразл. Дзіўны чалавек. Ну й прытырак жа ты, Мікола, слова путнага ат цябе ні пачуіш. І як цябе зімля носіць? Смаліца Бых.

**ПРЫ́ХАПКАМ** прысл. Прыхваткам, у вольную часіну. Калі ўвечары, калі зранку – прыхапкам буракі ўсе ў пограп перанасіў. Чырвоная Слабада Бых.

**ПРЫХО́ДЖАЦЬ** незак. Прыходзіць. Вечарам прыходжа ды яе мамачка яе, а ён прыходжа да яе з ранку. Пільшыца Бял. Хазяін мой прыходжая дамой вельмі позна, будзіць вас будзя. Асман-Касаева Бял.

**ПРЫЧЫНДА́ЛЛЕ** н. Прылады. Сабраў цясьляр сваё прычандальля і пайшоў у заработкі, нікога ні спрошваючы. Чырвоная Слабада Бых.

**ПРЫ ЧАСА́Х** прысл. З гадзіннікам. Сёньні ўсе багатыя, дайжа ўчынікі прі часах. Родня Клім.

**ПУ́КАЛКА** ж. Яблык, які сам зваліўся з дрэва. Пасля дажджу столькі пукылык пыд нашымі яблынямі, што дзець некуды. Нада папробываць карові даваць. Касцінка Маг.

**ПУ́ПАЎКА** ж. Ручка ў кассі. Трэба папытацца ў Змітрака, ці зробя ён пупаўку ў маё касьсё. Чырвоная Слабада Бых.

**ПУСТЫ́НЯ** аг. перан. Пустабрэх. Пустыня ты, дык абы-што меліш, села п ціхінька ды пасядзела, як усе. Сасноўка Шкл.

**ПУЦАЛАВА́ТЫ(Й)** прым. Мардаты. Натта ш пуцалаватый твой кавалер: морды, як баханкі. Хамінічы Гор.

**ПУ́ЦІЦЦА** незак. Хадзіць ля жывёлы, упраўляцца з жывёлай. Увесь ранак мая Ганна пуціцца ля жывёлы – то с каровай, то с сьвінямі, то с курамі. Прысна Маг.

**ПУ́ЦНЯ** ж. Звязак лык. Няведама, кумка, нашто ета Васіль на плячах нёс вялікую ношу пуцняў. Прысна Маг.

**ПУШЧА́ЦЬ** незак. Пускаць. Мой дома, я яго нікуды ні пушчаю. Угольшчына Бял.

**ПУЧКІ́** мн. зб. Скруткі льну, лыка і інш. Каля хаты ляжалі нейкія пучкі. Угольшчына Бял. Я тады падрыхтавала пучкі і села. Шчамілаўка Бял.

**ПЫ́ЛІКІ** мн. зб. Вышыўка на рукавах сарочак. Даўней сарочкі з пылікамі насілі. Беленькія, акуратненькія такія. Сухары Маг.

**ПЫ́РУС** м. Садовая ягада. Дзяўчаткі, хадзіця ягад вазьміця ў мяне, а то во пырус стаў апсыпацца. Хоцімск.

**ПЫ́ШКІ** мн. 1. Пульхныя бліны. 2. Варэнікі з мясам ці грыбамі. Каб свабодней было, зьдзелалі п пышак. Сялец Бых.

**ПЭ́ЙСЫ** мн. Кудлатыя валасы. Ідзі адсюлека і не трасі сваімі пэйсамі. Ходзь бы прычасаў сваю кучму. Чырвоная Слабада Бых.

**ПЯ́КОЛКА** ж. Пячурка (у печы). Таня, ці заграбла ты жар с печы ў пяколку? Чырвоная Слабада Бых.

**ПЯНЬКО́ВІКІ** мн. Абутак, сплецены з вяровак. Зараз вось пяньковікі не носяць. Пільшчыцы Бял. Сын надзеў новыя пяньковікі і пайшоў нанычкі. Так і не вярнуўся… Угольшчына Бял.

**ПЯНЬКО́ЎКА** ж. Вялікая цёплая хустка. Зывяжы пянькоўку, а то ўжо халодна. Хоцімск.

**П'ЯНТО́С, П'ЯНДЫ́ГА** аг. П'яніца. Бацька ў нас быў п'яндыга, дык вылечылі. Сялец Бых. П'янтосам цяпер ні слатка. Высокае Касц.

**ПЯРЛО́ЎКА** ж. Ячменныя крупы. Канапель натаўчэм, бобу наварім с крупмы, с пярлоўкай етай – і ядзім. Заброддзе Шкл.

**ПЯРША́К** м. 1. Карова, якая ацялілася першы раз. Купіла сёлета карову. Пяршак яшчэ. Малака нямнога даець. Княжыцы Маг. 2. Гарэлка першага гатунку. Пяршак гразда моцны, аж горла смаліць ад яго. Чырвоная Слабада Бых.

**ПЯРЭ́КРУТНІ** мн. Закруткі на нітках. На станку было многа пярекрутней, таму і мацерія з вузелкамі. Мхінічы Красн.

**ПЯСЕ́ЛЬНІЦА** ж. Спявачка. Дзевачкі! Добрая с цябе пясельніца была п. Падлужжа Глуск.

**ПЯСЕ́ТНІЦА** ж. Аматарка і выканаўца песень. Вы схадзіце да той пясетніцы – яна вам шмат песень напяе. Ведае і старыя, і новыя. Благаўкі Шкл.

**ПЯ́ТКА** ж. 1. Пятка. 2. Перан. Тупы канец яйца. Давай пагуляем у біткі: пяткамі ўдарым, чыё яйцо паб'ецца, той прайграў і аддае пабітае яйцо. Лубнішча Маг.

**ПЯТЛЕЎКА** ж. Дробна размолатая і прасеяная аржаная мука. Усып пятлёўку ў мешанку! Не жалей: кабан добра пачаў есьць. Лубнішча Маг.

**ПЯЦЕЛЬКА** ж. Пятля. Крючок заплікнеш за пяцельку, а гузік у прареску. Вусце Чэрык.

**ПЯЧОНКА** н. 1. Пячонка. 2. Спечаная кроў. С кабана было многа пячонкі. Княжыцы Маг.

**ПЯЮННЯ** ж. Спявачка. Ну й добрыя ш пяюньня наша Зоська. Нада ей у арцісты паступіць. Мушына Мсц.

# Р

**РАБОЧЫ КОНЬ** спалуч. Двухгадовы конь. Брыгадзір сказаў, каб Васіль на рабочым кані ехаў за бручкай.

**РАБІРОЙ** м. Рубіроід. Мы вось дасталі тры катушкі рабіроя, а можа йета й будзя на ўсю крышу? Харошкі Маг.

**РАГАЧЫ** мн. зб. 1. Вілкі. 2. Качарэжнік. Усе рагачы ставім у куце, каля печы. Чырвоная Слабада Бых. Вазьмі рагачы й пастаў цугун у печ. Што вас етаму ня вучаць у інстытуці? Рыкі Маг.

**РАДЗІВА** н. Радыё. Зарас у кожнай хаце радзіва, дай ні адно. Заходы Шкл.

**РАДЗІНАЧКА** ж. Родны, свой чалавек (гавораць звычайна так пра дачку ці сына). Скора мая радзіначка прыедзіць. Во зажывём весела. Яна і пяець, і скачыць. І анекдоты расказвыець. Чарнаручча Шкл.

**РАЗБЛАТЫКАЦЦА** зак. Разбэсціцца; стаць нікчэмным, гультаяватым чалавекам. Саўсім ты, дзеўка, разблатыкалась, нічога ні хочаш рабіць. Брожа Бабр.

**РАЗДАБЫРАВАЦЬ** незак. Гаварыць шмат чаго непатрэбнага, лішняга. Як жа ж ёй ні надаесць цэлый дзень раздабыраваць – і язык ні баліць. Скураты Кругл.

**РАЗДАЎНЫМ ДАЎНО** прысл. Вельмі даўно. Раздаўным даўно толькі лахмоцьце насілі. Сялец Бых.

**РАЗДОБРЫ** прым. Вельмі добры. Ды ўжо ж занадта ты раздобры, мой дарагі! Чырвоная Слабада Бых.

**РАЗДУЦЦА** зак. Растаўсцець. А яна раздулася, як тая жаба. Шыі дайжа ні відаць. Рыкі Маг.

**РАЗЛЕЗЛІК** м. Плакса. Ні зачапі яго – ужо і разьлезяцца – плача і плача разьлезьлік гэты. Хамінічы Гор.

**РАЗЛУЧНІК** м. Мужчына, які развёўся з жонкай. У нас у сяле толькі адзін разлучнік, усе жывуць нармальна. Прыхабы Бял.

**РАЗЛУЧНІЦА** ж. Жанчына, якая развялася з мужам. Вот гэта разлучніца надаела ўсім: с сваім развялася, а да другіх чапляецца... Прыхабы Бял.

**РАЗ'ЯРАЯЦЦА** зак. Раз'ятрыцца, разгневацца, разбушавацца. Як раз'яраяцца фашысты, ні старога, ні малога ні жалелі – білі, рэзалі, палілі. Брыцалавічы Асіп.

**РА́ЙДУГА** ж. Вясёлка. Такей дождж быў, а цяпера, гляньце, райдуга красівая. Слабодка Маг.

**РА́КАВІЦА** ж. Прамежнасць між капытоў у парнакапытных. Парэзала мая карова ракавіцу, дык ня можа на нагу стаць. І віцінара клікалі, сіраўно ні памагаець. Лубнішча Маг.

**РАМО́ВІК** м. Вулей (домік для пчол). У нашай вёсцы ў нікаторых ёсць і шмат рамовікаў. Але пчолы слабыя. Мёду мала. Наверна, ні спіцыялісты. Клімавічы Шкл.

**РА́НЕТЫ(Й)** дзеепрым. Ранены. Я быў аж тры разы ранеты – у руку, нагу і плячо. Раны і шчас трывожаць, асобінна пры перамене пагоды. Гонча Кліч.

**РАСА́ДНІК** м. 1. Агарод для расады. 2. Залежы торфу. Які тут вялікі раснік! Во торфу! Вывозяць на поле каторый год і не вывязуць. Тударава Шкл.

**РАСТРАПА́ЦЬ** зак. Груб. Расказаць абы-дзе; рассакрэціць. Ну і трапло ета цётка: рыстріпала па ўсёй вуліцы наш сакрет. Сухары Маг.

**РАСТУДЫ́ ЯЕ́ ТУДЫ́** спалуч. Жарт Праклён тыпу "Каб табе пуста было!"

Чырнаруцкую дзярэўню
Растуды яе туды.
Каб не было ў ёй мілога,
Ні хадзіла б я сюды (Частушка)
Красная Горка Шкл.

**РА́СУМАК** аг. Непрычэсаны чалавек. Ты ходзіш, як расумак. Пайдзі зараз жа прычашыся. Лубнішча Маг.

**РАСЦІ́ ТАБУНО́М** словазл. Расці кучай. У нас грібы пы адном ні растуць, а растуць цэлымі табунамі. Трысціно Хоц.

**РАЎГАЧ** м. Пагардл. Плакса. Вот раўгач дурны – равець і равець. А чаго? Цябе ж ніхто ня біў, ня страшыў. Хамінічы Гор.

**РВА́ЦЬ ПЯЧЭ́ННЯ** словазл. Хваляваць. Ні рьві ты мне пячэньня! І так тошна. Крапіўня Касц.

**РДЗІ́ЦЦА** незак. Ганарыцца. Ня рдзіся, дружок, ня рдзіся,
Закупі мясьцечка й садзіся. (З песні)
Харошкі Маг.

**РЖЭ́ЎНІК** м. 1. Іржэўнік. 2. Перан. Месца рассцілання лёну. На ржэўніку ўсягды сьцелім лён. Мхінічы Красн.

**РЗАЦЬ** незак. 1. Іржаць. 2. Смяяцца. І коні рзуць і нікультурныя людзі рзуць. Лабанаўка Чэрык. 3. Дурэць, сваволнічаць. Рзаў, рзаў і дарзаўся, пасадзілі яго ў цюрьму на цэлый гот. Харошкі Маг.

**РО́ЖДЗЕНІЦА** ж. Карэнная жыхарка. Яна ў гэтай вёсцы рождзеніца. І ўсіх помніць. Больш за сто гадоў маець. Красная Горка Маг.

**РО́СКІДКА** ж. Посцілка, вытканая асобым узорам. У хаці чыста. На кравацях засланы роскідкі. Хораша ўсюды. Вот і зажылі, як людзі. Замасточча Глуск.

**РО́СЦВІНІК** м. Родзіч. Росьцьвінікі цяперіцька луччыя пыдаркі дарюць, усі быгатыя сталі, дзеніх многа маюць. Лабанаўка Чэрык.

**РУКАТЫ(Й)** прым. Які схільны да дробнага крадзяжу. Раньшы была вельмі рукатая, цяпера пабойваецца. Дрыбін.

**РУ́ШЫЦЬ** незак. Чапаць. Не руш дзетку: яна ш хворая. Ялоўка Чэрык.

**РЫГА́ЦЬ** незак. Няўмела іграць на гармоніку. Хто там зранку рыгаіць? Усе нервы папорціў ентай гармоняй. Сухары Маг.

**РЫДВАН** м. жарт. іран. Моцны, чырванашчокі, мажны мужчына. Халера зь ім, рыдваном етым, хай на яго сьцёгнах скулы пасядуць. Хамінічы Гор.

**РЫЗЗЯ́, РЫ́ЗЬЗЕ** н. зб. 1. Старое, падранае адзенне; рыззё. Насабірала нейкага рызьзя, а задаецца, што добра ў яе, ладна. Н.Аляксандраўка Чав. 2. Старыя рэчы. А там у нас рызьзе толькі вісіць. Малінаўка Бял. 3. Бруднае адзенне, якое трэба неадкладна мыць. Сягоньнячы ў мяне работы.. Яшчэ трэба рызьзя памыць. Брожа Бабр.

**РЫЗІ́НАВЫЯ БЛІНЫ́** спалуч. Бліны з мерзлай бульбы. У тыя далёкія цяшкія гады наша сям'я карміласся дайжа рызінавымі блінамі. Прысна Маг.

**РЫ́ПАЛКА** ж. Дрэнны гармонік. Купілі нейкую рыпалку. Рыпіць толькі, а пайграць німа на чым. Смаліца Бых.

**РЫЦЬ БУ́ЛЬБУ** словазл. Капаць, выбіраць бульбу. Усю восінь у нас чужыя бульбу калхозную рылі, а мы пра сваю ні забувалі. Трысціно Хоц.

**РЭ́ЗБІНЫ, РЭ́ЗВІНЫ** мн. Рэзгіны. Прынясі мне сюды рэзьбіны. Ігліца Бял. Бацька прынёс на сабе рэзьвіны саломы на патсціл. Ямнае Бых. Січас резьвіны больш ліжаць, чым у рабоці. Раманаў Краснап. Вазьмі резьвіны да пріняеі сена ношку. Глунікі Крыч.

**РЭ́ГЧЫ** незак. Жарт. Вельмі гучна смяяцца. Ім бы рэхчы. Так рыхчалі, ажно клаліся ад сьмеху зь мяне. Чырвоная Слабада Бых.

**РЭ́ЗАНАЧКА** ж. Касынка. Ёсьць прыгожая рэзаначка, але хаваю на сьмерць. Дзікае Глуск.

**РЭ́ЗКА** ж. Прылада рэзаць траву. Нажы ўжо ў рэсцы затупіліся. Нада натачыць. Харошкі Маг.

**РЭ́НЧЫКІ** мн. Карункі. Я зьдзелыла к просьціне ренчыкі, ніхай будзець па старінке. Чырвоная Паляна Чав.

**РЭСО́РКА** ж. Брычка на высокіх рысорах. Вунь брыгадзір на рэсорцы раскатуваецца. Заходы Шкл.

**РЭ́Я** ж. Дурная жанчына; пляткарка. Слухай рэсю ету, што яна кажа! Ніякага толку ў галаве няма, а пляце абы-што. Абы нічога ні рабіць! Хамінічы Гор.

# С

**САЛАПЯ́КА** м. пагард. Той, хто часта высоўвае язык. Схавай язык, салапяка! Як дам пад бараду, дык і адкусіш яго. Хамінічы Гор.

**САЛАТО́ПКА** ж. Месца, дзе закопваюць дохлую жывёлу. Што ш цяпера дзелаць, вязі на салатопку. Страхоўку палучыш, рас прапала карова. Сухары Маг.

**САЛАМЯНО́** н. Жэрдка ў калодзежным жураўлі. Саламяно зусім згніло – нада новае зрабіць, а то некага скалечыць. Чырвоная Слабада Бых.

**СА́ЛЬНІК** м. Месца, дзе ляжыць сала. Вазьмі сабе сала ў сальніку. Ды каторы кусок луччы. Харошкі Маг.

**СА́ЛЬНІЦА** ж. Скрынка для сала. Спачатку сальніцу нада выкіпяціць, пасьля высушыць, а толькі тады сала класьці. Чырвоная Слабада Бых. У кутку хат заўсёды стаяла збітая сальніца. Як толькі новага кабана колюць, дык і новую сальніцу робюць. Бабровічы Маг.

**САЛО́ДКІ** прым. 1. Салодкі. 2. Перан. Недапечаны (пра хлеб). Сённяка хлеб у Ганны нейкі салодкі, развучылася, мусіць, пякчы. Княжыцы Маг.

**САЛО́ХА** ж. Неахайная жанчына. Адна дачка ў цябе ўсяго, ды і тая салоха нейкая – ходзіць ніабмытая. Смаліца Бых.

**САМАКІ́ША** ж. Кіслае малако; прастакваша. Матка на стол кожны рас ставіла самакішу, калі я прыходзіў зь вячорак. Самакішу прыятна перад сном папіць. Асман-Касаева Бял.

**САМАСА́ДКІ** мн. Кураняты, якіх курыца вывела тайна. Пад восень у нас зноў з'явіліся самасаткі. Прысна Маг.

**САМАСО́ЛКА** ж. Салёная рыба. Ну й добры халадзец з самасолкі! Самі ловім яе, самі солім і самі халадзец робім. Таму і самасолкай завём. Лубнішча Маг.

**САМСО́Н** м. груб. Маўчун. Во ета самсон дык самсон. Ні слова ні ўчуяш. Н.Аляксандраўка Чав.

**САПА́ТКА** ж. груб. Нос. Глядзі пад ногі, а то сапатку разаб'еш. Н.Аляксандраўка Чав.

**САЧНІ́** мн. Бліны, падрыхтаваныя з бульбы. Цэлую раніцу дзерла бульбу, каб зрабіць дзецям сачні. Затое наеліся, што толькі воду п'юць. Скрыпліца Кір.

**САЛЬФІСО́Н** м. Сальцісон. Нутріннысьць зварім, дадзім прастыць, а патом пыд камінь – вот табе і сальфісон. Астраўцы Мсц.

**СВА́ДЗЬБУ ДЗЕ́ЛЫЦЬ** словазл. Рабіць (гуляць) вяселле. Раньшы свадзьбы дзелылі бедна, без воткі, но весела, ад душы. Лабанаўка Чэрык.

**СВА́ДЗЬБУ ЗАКЛА́ДЫВАЦЬ** словазл. Пачынаць вяселле. У нас у суботу ўсягды свадзьбы зыкладываюць. Лабковічы Крыч.

**СВА́ДЗЬБУ РАССТРО́ІЦЬ** словазл. Спыніць вяселле, адбіўшы маладую ў маладога. Вот ёсь сьмелыя: пріехаў, наабяшчаў многа чаго нявесьці і расстроіў усю свадзьбу. Праз месяц новую дзелылі. Лабковічы Крыч.

**СВА́ЦЦЕ** н. зб. Сваты. Свацьце многа гаворуць, пяюць, гарелку прімушаюць піць. Рабавічы Слаўг.

**СВА́ШКІ** мн. Родзічы маладога ці маладой; сваякі. Збіраюцца свашкі, паджанішнікі, пуднявесьніцы і гуляюць свадзьбу. Рабавічы Слаўг.

**СВА́ТАЧКА** ж. Свацця. Ужо ж, мае сватычкі, сяньні пірапеліся. Давайця луччы пагаворім пра вашу жысь. Сухары Маг.

**СВЕ́ТЫЧ, СВЕТЫ́Ш** мн. 1. Тое, што асвятляе. 2. Уст. Лучына. Прынясі-ка светыч. Ні магу ў цемнаце найсці качулку. Мхінічы Красн. 3. Уст. Прыстасаванне асвятляць хату пры дапамозе лучыны, смалякоў і інш. Сьветыш – ета зьдзелана, а ў калотку ўторкнута палка, а ў палку зьдзелана, як чапіла, туды ўжо лучыну ўтыркваюць. Татарка Кругл.

**СВЕ́ЧКА** ж. 1. Свечка. 2. Тлушч (звычайна ў рэдкай страве). Раз у супі свечкі плаваюць, значыць, суп смачны. Прыхабы Бял.

**СВІННЯ́** ж. 1. Свіння. 2. Скляпенне (у печы). Што ш ты за пячнік, раз ні знаіш, як сьвіньня выклыдаіцца. Н.Аляксандраўка Чав.

**СВІТЛІ́ЦЦА** незак. Напаўняцца святлом. Цяперя ўсюды сьвітліцца – і ў хатах, і ў клубі, і ў кароўніках. Гародня Маг.

**СЕ́ЙНІЦА** ж. Жанчына, якая прасейвае муку. Харошая яна была сейніца, калі ў мельніцу вазілі малоць свой уражай. Пільшыцы Бял.

**СЕЛЯДЦО́ЎКА** ж. Невялікая бочка. Трэба зрабіць нам селятцоўку. Будзем там самасолку саліць. А патом і халадзец рабіць. Лубнішча Маг.

**СЕМІСЯ́Т** ліч. Семдзесят. Семісят вёрст хадзіла пяшком, штоб дастаць нужныя сьведзенія. Макеевічы Клім.

**СЕРУПО́НЬКА** ж. Кіслае малако. Налей-ка серупонькі ў крушку: што-та мне ташніць с самай раніцы. Мокрае Бых.

**СЕ́ЧКА** ж. 1. Сечка. 2. Чалавек, што хутка гаворыць. Затрашчыць сечка, як трашчотка, толькі пасьпявай слухаць. Сялец Бых.

**СЕ́ЯНКА** ж. 1. Сеянка. 2. Пасеяная трава. У нас сеянка быльшая расьцець. Дасовічы Маг.

**СЁДНЯ** прысл. Сёння. Сёдня ўсім давольна, усяго маем, толькі б маладыя ні ўяжджалі ў горад – і ўвесь клопат. Прывараць Глуск.

**СІКСО́Т** м. Пляткар. А гэтага сіксота ніхто ні паважае ў вёсцы. Да яго ня йдзіця, ён вам добрага нічога ні скажа. Лубнішча Маг.

**СІЛІДО́Л** м. Салідол, змазка для калёс. Дзе й та наш сілідол, нада каткі пымазыць, нешта дужа скріпяць. Немерка Дрыб.

**СКА́ЛКІ** мн. зб. Кроплі тлушчу на паверхні вадкай стравы. Унь колькі скалак плавае ў капусьці, еж і ні крывіся. Чырвоная Слабада Бых.

**СКНА́РЫЦЦА** незак. Скупіцца, шкадаваць. Раньшы бедна жылі, таму скнарыліся, нідыстаткі былі пыстыянна. Гародня Маг.

**СКОКА** займ., прысл. Колькі. Скока мы піранеслі йетых песень, сразу ўсё і ні ўздумыіш, а знаім мы многа. Пріхоцьця, запісывайця. Сухары Маг.

**СКУРДНЯ́ЧЫЦЬ, СКУРДЫЯ́ЧЫЦЬ** зак. іран. Заспяваць. Бувала, пойдзіш на свадзьбу, дык і скурднячыш сякую-такую песьню, калі падап'еш. Бабровічы Маг. Праспяваць невыразна. Каб выпіла чарку, дык што-нібудзь бы скурдыячыла. А так ні цягнець на песьні. Чарнаруччa Шкл.

**СКЫВІРА́ЦЬ** незак. Пагардл. Спець як-небудзь. Можа што і скывіраў бы, каб маладзейшы быў. А так хрыплю ўжо, старый стаў. Чарнаручча Шкл.

**СПАЗРЫ́ЦЦА** зак. Спадабацца.

– Чагойта вы ні выпілі квасу?

– Дзетка, нешта ён мне ні спазрыўся. Н.Аляксандраўка Чав.

**СПАЙМА́ЦЬ ВО́ЧКІ** спалуч. Паправіць раскіданае ў чым-небудзь, яшчэ поўнасцю нязвязаным (кофце, світары і інш.). Як цяпера спаймаіш тыя вочкі, наш то іх спусьціў. Н.Аляксандраўка Чав.

**СПАНА́ТРЫЦЬ** зак. Зразумець. Ты ета спанатрыла ці не? Буднеў Кліч.

**СПА́РЫНА** ж. Буйнае чорнае зерне, якое часам вырастае ў коласе. Вельмі многа спарыны сёліта ў жыце, нейкі гот сёліта няўдалы. Княжыцы Маг.

**СПАРЫ́ЖКА** ж. Трава, якая расце каля хаты ці на я.-н. мяжы. Лі маёй хаты дужа многа спарышкі расьцець. Хоць касі, такая бальшая. Сухары Маг.

**СПАТВО́РЫЦЬ** зак. Зрабіць лайдакаватым. Спатворала пенсія ўсіх. Нада ж: усе едуць на базар, а сьцюдзенты бульбу капаюць! Клімавічы Шкл.

**СПРАХЦІКАВА́ЦЦА** зак. Набрацца вопыту, спрыту. Я ўжо спрахцікувалася – лyччы сьвіней дзяржаць, чымся карову. Дасовічы Маг.

**СПУ́ЛІЦЬ** зак. іран. Украсці. Пайшоў быў на базар накупляць усяго, а нехта кашалёк спуліў. Вот і купіў! Прыхабы Бял.

**СПУСЦІ́ЦЬ ВО́ЧКІ** спалуч. Раскідаць што-н. недавязанае. Нашто вочкі спусьціў? Н.Аляксандраўка Чав.

**СРАМО́ЦЦЯ** н. Ганьба, сорам. Пайшоў із йімі, дык толькі срамоцьця набраўся. Еслі б знаў тую долю, ніколі ні пайшоў бы. Смаліца Быx.

**СРО́ДЗІЧ** м. 1. Родзіч. 2. Сваяк маладога ці маладой. Сродзічы завуць на банкетах ўсіх посьле хросных бацькоў маладога і маладой. Лабковічы Крыч.

**СРО́ЦТВА** н. зб. Радня, сваякі. Я не знала, што гэта іх сроцтва. І пляту абышто. А сват йак падымецца, як закрычыць. Я й і ўмлела, дзетачкі. Клімавічы Шкл.

**СТА́ВЫ СТА́ВІЦЬ** словазл. Рабіць кросны. Ставы ставім, навіваем, укідываем у ніт і бёрда – і тады ткём. Заходы Шкл.

**СТАЖА́Р'Я** н. зб. Копы (сена, саломы). Бабы кругом ложаць сена ў стажар'я. А тут хмара. Вецер як ўсхадзіўся, усё паразварочваў. Асман-Касаева Бял.

**СТАЛО́ВАЯ** ж. 1. Сталоўка. 2. Перан. Месца, дзе летам ставяць жывёлу на абед. Кароў пагонім у сталовую, дужа сонца пячэць ужо. Лубнішча Маг.

**СТАН** м. 1. Ферма. 2. Стойла. Цяперка кароў на стан ні ганяюць. Ветрынка Быx.

**СТАРЫ́К** м. 1. Стары чалавек. 2. Перан. Сталы конь. На лузе пасвіцца шчэ адзін старык, пайдзі злаві. Нада бульбу падакучыць. Княжыцы Маг.

**СТАЎБЕ́НЬ** м. 1. Стоўб. 2. Груб. Маўчун. Чаго ты стаіш, стаўбень, і маўчыш? Н.Аляксандраўка Чав.

**СТАПІ́ЦЦА** зак. Скіснуць. Стопіцца пірагон – і камочкі з'ясі. Смачна, яй богу! Сафійск Маг.

**СТАЎКІ́** мн. Прылада, на якой рэжуць дровы; козлы. Лажы дровы на стаўкі. Нада парэзаць да вечара, бо заўтра не будзе часу. Угольшчына Бял.

**СТАЯ́ЦЬ** незак. 1. Стаяць. 2. Жыць, сяліцца. У вёскі нікога ні было, усе ў лесе стаялі. Труханаўка Кругл.

**СТАЯ́ЦЬ СТАЙМАКА́** спалуч. Стаяць стойма. Як стаў стаймыка – быццам прыкіпеў. Дрыбін.

**СТОЛ** н. 1. Стол. 2. Хаўтуры па нябожчыку. Яна не будзе пець, толькі стол адыйшоў па бацьку. І ня йдзіця, дзевачкі, ні нада трывожыць. Тударава Шкл.

**СТО́ПАК** м. зб. Зношаны абутак. Няўжо ета ў Ганны адзець няма чаго? Толька стопык носіць. Ці ніряха, ці жадныя, наверна. Мушына Мсц.

**СТО́ПІКІ** мн. Грошы. Жыў багата і стопікі цяклі ракою к яму. Перавальшня Клім.

**СТО́РАЖ** м. 1. Сторож. 2. Сабака, які пільнуе дом. У нашага гаспадара быў добры сторож. Шарыкам звалі. Як здох, дык плакалі мы ўсе. Княжыцы Маг.

**СТРАХАПУ́ДЗІЛА** аг. Вельмі неакуратны чалавек. Выскачыла, страхапудзіла! Схывайся, штоб людзі ні пляваліся. Н.Аляксандраўка Чав.

**СТРО́ІЦЬ** незак. Рыхтаваць. Сынок, я буду строіць ежу, а ты ідзі вады прынясі. Што? Няўжо цяшка? Прысна Маг.

**СТРО́КІ** мн. уст. Вушкі лапцей. Хутчэй ты прасаджвай абору ў строкі. Лапці ш новыя. Шчамілаўка Бял.

**СТРЫ́КНУЦЬ** зак. Сфатаграфаваць. Ну-ка, мілок, стрыкні мяне. І картачку не забудзь прыслаць, хай будзе на памяць. Чарнаручча Шкл.

**СТРЫ́НДЗІЦЬ** зак. груб. Украсці. Нехта на базарі стріндзіў у мяне ўчора адну карзіну. Ай, як жалка! Ялоўка Чэрык.

**СТРЭ́ДНІ** прым. Сярэдні. Майго стрэдняга брата ўбілі гады за зьвязь с парцізанамі. Прывараць Глуск.

**СТРЯ́ЦЦА** зак. Сустракацца. Сяньні мне дайжа прішлося стряцца зь етым сынам. Ой, горюшка, маё! Сухары Маг.

**СТУ́ДЗІНА** ж. Студзень; квашаніна. Студзіна ўдалася. Такая смачная першы рас. Чырвоная Слабада Бых.

**СТУКАНІ́ЦЬ** незак. Стукаць. Як бацька памёр, нехта стуканіў нам у вакно. Мы пагрядзім, а там нікога. Спачатку страшна было. Прысна Маг.

**СТУ́ЛІЦ** м. Невялікі стул; зэдлік. Нясі стуліц, пыстаў яго туда ды садзіся. Чаго йта стыяць ныпрасна? Сухары Маг.

**СУ́БАР** аг. зб. 1. Адходы ад зерня. 2. Сумесь мякіны з мукою для корму жывёле. Бацька, вазьмі субар, занясі карові, хай ні равець. Прыхабы Бял.

**СУДНО́** н. Посуд. Вымый судно перад дойкай. Малако ш там будзець. Княжыцы Маг.

**СУДЗЕ́РЖЫЦЦА** зак. Затрымацца. Можыць і судзержыцца дзень-два: харошая ш пагода стала. Сухары Маг.

**СУКО́ЛЕНЦА** н. Патаўшчэнне ў сцябле (каленца). А ўжо мой буйный колыс аблымаў суколенца. (З песні). Рыкі Маг.

**СУКА́ЦЬ ЦЭ́ЛКІ НА СУКА́ЛА** словазл. Падрыхтоўка пражы да ткання (утоку). Цэлкі сучам на сукале, штоб іх пакласці ў чоўнік, а чоўнік уводзіць нітку ў зеў і прібіваюць яе бёрдам. Гарбатка Крыч.

**СУМЕ́СНІЦА** ж. Участак лесу, якім раней сумесна карысталіся жыхары некалькіх вёсак. Сумесьніца – гэта таму, што мы сумесна пользаваліся гэтым участкам лесу. Асман-Касаева Бял.

**СУ́НДЗІЛА** н. Груб. Непаваротлівы чалавек. Уй, сундзіла нейкае, ні чалавек. Брожа Бабр.

**СУХАПА́РАМ** прысл. Вельмі хутка. З'елі бульбу сухапарам, ні ўглянулі калі. Ізьдзелаў дзьверы сухапарам, вот і ні закрываюцца. Н.Аляксандраўка Чав.

**СУХАПА́РЫ(Й)** прым. Худы. Гэты хлопец хоць і сухапары, а сілу імея бальшэзную. Каб запрог у калёсы, як конь, працаваў бы. Тартак Бых.

**СУХАРЭ́БРЫК** м. Худы чалавек. Вот сухарэбрык еты, адны косьці, а біцца лезя. Хамінічы Гор.

**СЦАЛЕ́ЦЦА** зак. Уцалець. У вайну ўсе хаты палілі немцы, а мая хата чудам сцалелася. Сафійск Маг.

**СЦЕ́ЖАР** м. Кол, вакол якога складваецца сена ці салома ў стог. Прывяжы апоўдзіну да сцежара. Замасточча Глуск.

**СЦІПНЕ́Й** прысл. Бліжэй, дружней, весялей. Садзіцеся, дзеткі, сціпней. Толька ні сьмейцяся. Бо ахвота пяяць вам прападзець. Чарнаручча Шкл.

**СЦЮДЗЁНКА** ж. Халодная вада. Не пі сьцюдзёнкі, захварэеш на горла. Благаўка Шкл.

**СЦЯКА́ЦЬ** зак. 1. Сцякаць. 2. Праходзіць, працякаць, канчацца (пра жыццё). Сама ўжо многа гадоў імею, жысь саўсім сьцікаіць. Свяцілавічы Бял.

**СЦЯКЕ́ЛЛЯ** н. зб. Шкло. Калі ён ударыў нагой у бухвет, то многа пабітага сьцякельля было. Шчамілаўка Бял.

**СЦЯКЛІ́НА** ж. 1. Шкло. 2. Шыба ў акне. Глянула, а ў хаці – ні сьцякліны. Адны рамы засталіся – так бухнула бомба. Добра што ні ў хату, а то я з вамі ні гаварыла п січас. Машкова Гор.

**СЦЯЛЬНІ́К** м. Матрац. Прасушы на сонцы сьцяльнік, доча, і ні забудзь выбіць пыл. Загацце Кліч.

**СЫКАТУ́ХА** ж. Жанчына ці дзяўчына, што многа смяецца. Такой сыкатухі я йшчэ ні бачыў, хаця многа йдзе быў. Й малая была сыкытала, й цяперя сакочыць. Сухары Маг.

**СЫ́ПКА** ж. Насыпа (у падушцы). Сыпкі падраліся, нада шыць новыя, нада перасыпаць пер'е, а часу нямашака. Прыхабы Бял.

**СЫ́РА** ж. Прастуда. Каб цябе сыра ламанула! Каб цяцюха забіла! Каменка Дрыб.

**СЫРЦО́М** прысл. У сырым выглядзе. Елі мы ў вайну многа чаго сырцом, каб з голаду ня пухнуць. Рыкі Маг.

**СЫ́ПІСТЫ** прым. Сопкі, разварысты (пра бульбу). Гэты гот што бульба сыпістая, адно ад'ядзеньня. Семукачы Маг.

**СЯКА́ЧКА** ж. Прылада, якою сякуць траву, бульбу. Вазьмі сякачку і пасячы сьвінням лебяду. Княжыцы Маг.

**СЯРЭ́ДКІ** мн. Мяккія адходы пры апрацоўцы ільну. Так машына харашо абрабатываець лён: на зямлі застаюцца толькі сярэдкі. Мхінічы Красн.

**СЯСТРУ́ХА** ж. Дваюродная сястра. Сяньні мая сяструха прыехала, дзецям падаркаў навязла. Машчаніца Бял.

# Т

**ТАВА́Р** м. 1. Тавар. 2. Буйная рагатая жывёла. Летам тавар выганяем да ўсходу сонца. Цялуша Бабр. Гані тавар атсюль у поле. Чырвоная Паляна Чав.

**ТАГДЫ́, ТАДЫ́Х** прысл. Тады. Пастралялі, пастралялі і тагды давай паліць. Во гады дык гады! Брыцалавічы Асіп. Пойдзе цёплы дожджык, тадых зазелянее траўка. Дзікае Глуск.

**ТАКСО́** н., **ТАКСЯ́** ж. Таксі. Няўжо таксо шчэ ні пріехала? Магілёў. Ходзь бы такся якая падышла ці што? Магілёў.

**ТАЛМУ́ДНЫ(Й)** прым. Цяжкі. Гэта работа вельмі талмудная. Але ж і платная, мусіць? Ні плацяць?! Ой, дзетачкі, нашто ўсё гэта вам?! Чарнаручча Шкл.

**ТАПКАТА́** ж. Там лес такі непраходны: і тапката, і балота, і карчэўе... Тударава Шкл.

**ТАПІ́ЛА** н. Невялікае вадзяное месца на лузе. Траву скасілі п касілкай, ды мяшае тапіла. Скрыпліца Кір.

**ТАРАДЭ́ЙКА** аг. Чалавек, які многа гаворыць; пустабрэх. Ну й тырадэйка, хоць бы дыла каму слова скызаць, і язык ні забаліць твой. Падбудкі Чэрык.

**ТАТА́РУШКА** ж. Прыстасаванне вешаць калыску. Падзяржы дзяцёнка, січас прынясу татарушку, пасьцілку накіну і калыску павешу.. Рыкі Маг.

**ТАЎСТЫ́, ТАЎСЦЕ́ННЫ, ТАЎСЦЮ́ШЧЫ(Й)** прым. Вельмі тоўсты. Ай, і таўсьцюшчая баба – пальто 52 размер ня сходзіцца. Давыдавічы Бых.

**ТАЎКА́ЦЦА** незак. 1. Таўчыся. 2. Танцаваць. Таўкецца на адным месьці – вот і танцуя. Саматэвічы Касц.

**ТАЎКУ́ЧКА** ж. 1. Таўкач. 2. Кірмаш. Калі няма таўкучкі, лошкай таўчом. Галоўчын Бял.

**ТАЎХЕ́ЛЬ, ШТУРХАНЕ́Ц** м. 1. Чалавек, які штурхаецца. Ён ня можа пастаяць ціха, штурханец еты. Вот таўхель дык таўхель! Хамінічы Гор. 2. Бац, штурх. А козлік таўхель яго рошкамі. (З казкі). Бароўка Маг.

**ТО́РА** ж. Мякіна. Вазьмі кіпяток, дарагей, ды запарь торю карові. Бярозкі Хоц.

**ТО́ЎСТАЯ** прым. Цяжарная (пра жанчын). Сусетка летась нарадзіла хлопца і сёлета тоўстая. Замасточча Глуск.

**ТРАМКА́Ч** м. Сплеценыя канцы нітак, адрэзаныя з палоскай палатна. Раньшы трамкачы былі замест палаценца. Лубнішча Маг.

**ТРА́НТЫ** мн. жарт. 1. Розныя рэчы (звычайна адзенне). Што ты, кумка, тут пыраскідывала свае транты, німа дзе й стаць, й сесьці, й пывярнуцца.

Чарнаручча Шкл. 2. Састаўны кампанент фразеалагізма даць у транты. Ну й далі ў транты фулюгану – аш пяць гадоў прыпаялі. Магілёў.

**ТРАПУ́ШКА, ТРАПЫ́ШКА** аг. 1. Трапло, трапалка. 2. Чалавек, які многа і без толку гаворыць. Трапушка яна, а ні жанчына. Каждый белый дзень ходзіць да трэпліць абы-што. Хамінічы Гор. Найшла ты за каго замуж ійціць, за ету тряпышку. Н.Аляксандраўка Чав.

**ТРАСУ́ХА** ж. Дрыгва. Раней баяліся хадзіць на трасуху па адным, баяліся, што зацягня. Прыхабы Бял.

**ТРА́ХНУЦЬ, ТРЭ́СНУЦЬ** зак. Стукнуць (пра гром). Пярун як трэ́сьніць, ды я ат страху аш прысела. Заполле Шкл. Пярун як трахнуў, ажно вокны закаламціліс Рудня Слаўг.

**ТРО́Х, ЧАТЫРО́Х** прысл. Утраіх, учатырох. Малаціць хадзілі і трох, і чатырох. Гарадзец Бых.

**ТРАШЧО́ТКА** аг. Той, хто многа гаворыць. Ох, і трашчотка ж гэта жанчына. Асман-Касаева Бял.

**ТРУСІ́ЦЬ** незак. Трасці,ківаць манатонна. Штоб масла зьбіць, нада доўга трусіць рукамі. Клясін Красн.

**ТРУ́СТЫ НА КАЛЁСАХ** словазл. Выдумкі. Ён табе нагаворыць трустаў на калёсах. Шклоў.

**ТРЫМА́ЦЬМЕЦЦА** незак. Будзе трымацца. Ці доўга трымацьмецца лісце на дрэвах? Дзікае Глуск.

**ТРЫСКА́** ж. Лён, падняты і звязаны пасля вылежвання. Кругом на полі стаяла толькі трыска. Усё ўбралі. Княжыцы Маг.

**ТРЫТАТУ́ШКА** ж. Тое, што і **ТАРАДЭ́ЙКА**. І слова ні дасьць скызаць нікому ета трытату́шка. Сухары Маг.

**ТРЭ́** прысл. Трэба. Трэ йціць на работу. Маціевічы Маг.

**ТУ́ЕБЕНЬ** м. Дурань; тунеядзец. Етый туебень што-небудзь зьдзелаець? Толька жджы. Касцюковічы.

**ТЫ́НДРА** ж. Хітрая жанчына. Ай, тындра так тындра – калі гаварыла, што сена няма. Дрыбін.

**ТЫ́РГЕНЬ** гукаперайм. Торк. Гл.Таўхель. Сусед мяне тырген за палу: – Паглядзікка, гаворыць, якая твая жоначка. Прыхабы Бял.

**ТЫРЧА́НКА** ж. жарт. Чарга. За чым тут тырчанка? За гарэлкай?! О госпадзі! Магілёў.

# У

**УБІРА́ЦЬ** незак. 1. Убіраць. 2. Даглядаць (пра жывёлу). Нада ўжо скот убіраць, ня трымайце мяне. Хваця ўжо на сёдні. Тударава Шкл.

**УВАРЫ́ЦЬ** зак. 1. Уварыць (страву). 2. Вельмі моцна ўдарыць. Ледзь уварыла мяса. Як увару дубцом, дак будзіш ведаць, як урокаў ні рабіць. Чырвоная Слабада Бых.

**УВЕ́К** прысл. Увесь век; вечна. Я б за такога дурня замуж увек ні пайшла, але ж у яго зямля была. Дый бацька пагнаў. Брыжа Бабр.

**УВІШНЯ́** ж. Непаседа. А яна такая ўвішня, хоць і старая. Асман-Касаева Бял.

**УВО́ПШЧА** прысл. Агулам. Як стаў калхоз, усё пачалі адразу ўвопшча рабіць, бо ўсё ш стала абагуленае, вопшчае. Слабодка Бабр.

**УДО́Т** м. 1. Удот. 2. Абразл. Дурань. Халера з етым удотам. Або што ён люцкае зробіць. Дзе ні паверніцца, адна ярунда палучаіцца. Хамінічы Гор.

**УЖАДО́БКУ** прысл. Зрэдку. Паесьці б усіх прісмакаў ні ўжадопку. Н.Аляксандраўка Чав.

**УЗБАРАХЛІ́ЦЬ** зак. 1. Прыбраць. 2. Перан. Прыпомніць. У гульні дык якую ўзбарахліш песню, дык яе й засьпіваіш. Сухары Маг.

**УКІДА́ЦЬ У НІТ І БЕ́РДА** спалуч. Прапускаць аснову праз ніты і бёрда. Кросны прасушваюць і навіваюць на навой, на ставы. Патом укідаюць у ніт і бёрда. Тубушкі Бял.

**УКІ́НУЦЬ У НІ́Т** словазл. Падрыхтаваць аснову да ткання ў кроснах Толькі ў ніт ня кожны добра ўкініць, а так быстра ткуць. Татарка Кругл.

**УКО́СНІКІ** мн. 1. Істужкі. 2. Тое, што ўплятаецца ў косы. Запляту ў косы новыя ўкоснікі і іду на танцы. Чырвоная Слабада Бых.

**УЛА́ЗІЦЬ** зак. Дагадзіць. Йна ніколі ня можэць свайму ўладзіць. Ялоўка Чэрык.

**У ЛЮ́ДЗЯХ** прысл. У людзей. У етым годзі ў людзях ня будзя бульбы. Пільшыцы Бял.

**УЛЯПІ́ЦЬ** зак. перан. Шпарка патанцаваць. За вечар як улепіш штук дзесіць полек, дык бацінак німа. Татарка Кругл.

**УМЕ́КА** аг. Чалавек, які ўсё ўмее. Такі ўмека, а лянуецца па-люцку зрабіць – усё абы-як ды абы-як. Чырвоная Слабада Бых.

**УПО́РАСТЫ(Й)** прым. Упарты. Меньшый дык упорастый, як бык. Скураты Кругл.

**УПЯРО́ЧКІ** прысл. Сеяць нада і ўпярёчкі, штоб зусім ні пустувала. Вусце Чэрык.

**УРА́НЦЫ** прысл. Раніцай Нычувала цыганычка. Уранцый Іна й забыла дзяціну на лаўцы. (З песні). Рыкі Маг.

**УРІМЯ́НКА** ж. Хаціна, пабудаваная для часовага жыцця. Хата іх згарэла, і яны зрабілі ўрімянку. Харпаўка Гор.

**УСПА́СЦІ** зак. Напасці, беспадстаўна абвінаваціць. Бач ты яго, успаў на чалавека за няма што. Чырвоная Слабада Бых.

**УСТАЯ́ЦЬ** зак. Вытрымаць спаборніцтва. Здаецца, цяпера ні адна шэрсць ні ўстаяла п пірат тым плаццем, як крымплін. Татарка Кругл.

**УСТРАЧА́ЦЬ** незак. Сустракаць Устрачаць буду нявестку ў Сімукачах. В.Бялевічы Маг.

**УСЯ́КЕНЬКІ(Й)** займ. Усялякі. Лапці былі ўсякенькія – і пляцёныя, і шытыя, і крючком вязаныя. Белая Дуброва Касц.

**УСЦЯРПЕ́ЦЬ** зак. Вытрымаць. Пражыла я год, пражыла другі, на трэці ні ўсьцярпела – узяла ды й зьбегла да свайго першага. Клімавічы Шкл.

**УСЯРО́ДКУ** прысл. Унутры, усярэдзіне. Ёй апірацыю дзелалі нейдзе ўсяротку, йшчэ ня ходзіць, але ш луччы стала. Сухары Маг.

**УТРЫМСЦЕ́ЦЬ** зак. Дачакацца. Ніяк ты яго ні ўтрымсьціш.. Дрыбін.

**УХО́ДАЦЦА** зак. Стаміцца, знемагчыся. Чуць іду дадаму – так уходаўся на етым кароўніку, замяняя жонку. Чырвоная Слабада Бых.

**УЦАЛІ́К** прысл. 1. Без дарогі. 2. Напрасткі. Пойдзяш ўцалік, дык невядома, калі прыйдзеш. Заполле Шкл.

**УЦІ́Х, ЦІФ** м. уст. Тыф. Мая Машка хварэла ўціхам, як маладою была. Прысна Маг. Ціфам січас ні балеюць Магілёў.

**УЦЭ́Й** займ. Той. Уцэй хлопец ваш вельмі прыгожый. Наверна дзеўкі за ім бегаюць? Не! Чаму? Прысна Маг.

**УЧАРНЕ́ЦЬ** зак. 1. Счарнець. 2. Схуднець. За етый год мой старый зусім учарнеў, асунуўся. Няўжо надумаўся паміраць? Качурына Маг.

**УЧЫНІ́ЦЬ** зак. Расчыніць. Давай, дочка, учынім аладкі к раньню. Чырвоная Слабада Бых.

**УША́К, ВУША́Т** м. Цэбар. Занясі еты ушак на двор. Смаліца Бых. Кладзі вун туды, ідзе вушат стаіць. Сасноўка Шкл.

## Ф

**ФАМІЛЬЯ́НТ** м. Чалавек, які мае ўжо вядомае прозвішча. Хай мой фамільянт скажа, ці праўда ета, што мы з аднаго роду. Хамінічы Гор.

**ФЕ́РМЕР** м. 1. Фермер. 2. Загадчык фермы. Фермерам у нашай вёсцы працуе дужа малады хлопец. І спраўляецца, хоць толькі з цехнікума. Тударава Шкл.

## Х

**ХАДО́К** м. 1. Чалавек, які ўмее хутка і доўга хадзіць. 2. Малады конь. Хадакі каждую ноч пасьвіліся на полі. Будней Кліч.

**ХАДЗЯ́КА** аг. Валацуга. Ходзяць хадзякі на вуліцы ўсякія. Прыехалі з горада дурняў іскаць. Цяпер ні даўней – нікога ні абдурыш. Тударава Шкл.

**ХАЛАЛЭ́Я** ж. абразл. Нязгрэба. Куды ж ты адзелася, як халалэя? І ніхто ні глянець на такую. Шклоў.

**ХАМУТА́Р** м. Конюх. Мужык той хамутарь быў, дык усё ўремя бегыў лі каней Сухары Маг.

**ХАМУТА́РКА, ХАМУТА́РНЯ** ж. Памяшканне для хамутоў. Йэтыя вілы мы бралі ў хамутарні. Тударава Шкл.

**ХВАРА́ЙСЯ ЯНО́!** Словазл. Ліха на яго! А хвырайся яно, усяго ні пірядзеліш. Рымінка Чав.

**ХВІ́ЛЯ ЯГО́ ВЕ́ДАЕ** спалуч. Невядома. Хвіля яго ведае, дзе ён ходзіць Асман-Касаева Бял.

**ХВІНДЗІКЛЮ́ШКА** ж. 1. Фінціклюшка. 2. Модніца. У Прапойску відзеў: йікая-то хвіньдзіклюшка йдзець і хлеп ны пальчыках нясець. Шаламы Слаўг.

**ХВЫТА́ЦЬ** незак. Хапаць. У нас цяпера ўсяго хвытаіць: і хлеба, і бульбы. Дубейка Мсц.

**ХЛЕ́БНІЧАК** м. Першы зуб у дзіцяці. У майго Васілька хлебнічак прарезаўся. Як у зайчыка, такей шырокенькій, такей беленькій. Хацкевічы Чав.

**ХЛО́П'Е** н. зб. 1. Камякі. 2. Кудзеля. Паназьбірала хлоп'я, куды ета цяпер яго дзець? Н.Аляксандраўка Чав.

**ХЛЯПО́ЦЦЕ** н. Макрэча. Во ўжо пачалося хляпоцця, пакуль той сьнег ды мароз, дак прастуды будзець. Чырвоная Слабада Бых.

**ХОЦЬ** часц. Ці. Хоць купіла мне ляльку ў магазіне? Брожа Бабр.

**ХРАК** м. Кныр. Храка ў хлеў зачыніла. Клімавічы Шкл.

**ХРА́КЦІР** м. Характар. Залаты хракцір у майго зяця. Падбудкі Чэрык.

**ХРАПЦІ́НА** ж. Цвёрдая частка гусінага пяра. Ну й цвёрдая ш храпціна ў нашых гусей. Лубнішча Маг.

**ХРАСТКІ́** мн. уст. Снапы жыта, пакладзеныя ў выглядзе крыжа. Спачатку жалі жыта, звязвалі ў снапы і клалі ў храсткі. Княжыцы Маг.

**ХРУСТЫ́** мн. Самаробнае печыва з мукі (накшталт пячэння). Напякі ка мне сяньні хрустоў – ты ўсё можаш зрабіць луччы фабрыкі. М.Крапіўня Касц.

# Ц

**ЦАЛКАВА́Я ЯЕ́ШНЯ** спалуч. Яечня без мукі і іншых дадаткаў. Аб вячэры, вячэры ні спадзявайся на цешчу й цалкавую яешню. (З песні). Тударава Шкл.

**ЦАЛКАВУ́ХА** ж. Яечня. Нажарьця мне сяньні цалкавухі. Смаліца Бых.

**ЦАЛКАВУ́ШКА** ж. Яечня з цэлымі жаўткамі. Нам маці ўсягда робіць цалкавушку с пяці яец. Прыхабы Бял.

**ЦАПАВЫ(Й)** прым. Галоўны (пра дарогу). Тут ішла цапавая дарога. Немцы па ёй, а парцізаны напірярес. Чарнаручча Шкл.

**ЦАПКІ́** мн. Жэрдачкі, на якіх сушаць снапы, сена і інш. Даўней ўсё на цапках сушылі – і снапы, і салому, і бульбоўнік. Гарадзец Бых.

**ЦАПО́ЧКА** ж. Ланцужок. Цапочка с часоў пырвалась. Еўдакімавічы Шкл.

**ЦАЦЭ́РКА** ж. зневаж. Цацка, лялька. А вас пасадзілі, як цацэрак, дык пейця ш хоць, увашче нарот. Рыкі Маг.

**ЦВЁРДАЕ** н. уст. Вялікі падатак. Раней на ўсіх накладвалі цвёрдае. Ой, цяжка было плаціць! Тударава Шкл.

**ЦЕ́ЖАНЬКІ, ЦЕ́ШКІ** мн. ласк. Гусі. Цежанькі мае! Цеш-цеш-цеш, цешкі мае! Вусце Чэрык.

**ЦІЛІХВО́Н** м. Тэлефон. Ціліхвон у нас толькі ў праўленьні ёсьць. Заходы Шкл.

**ЦЫ́БА** ж., **ЦЫ́БЫ** мн. жарт. Доўгія ногі. Такія цыбы, а яна юпку ўверх дзярэць. Прыхабы Бял.

**ЦЫЛІ́НДРА** ж. Шкло ў лямпе. І трэба ж было цыліндру пабіць, і дзе ш мы цяпер такую купім. Чырвоная Слабада Бых.

**ЦЫПЛЯНЯ́ТЫ** мн. Кураняты. Цыпляняты мае сёлета харошанькія. Дзедава Бых.

**ЦЫ́ТРА** абразл. 1. Нядобразычлівая жанчына. Глядзі ты, зноў етая цытра пайшла, каб абгаварыць пасьля. Чырвоная Слабада Бых. 2. Праныра. Ого, каб такая цытра ды ні трапіла ў маліны. Усюды без яе нічога ні абыдзецца. Шышава Гор.

**ЦЮХЛЯ́К** м. Матрац. Цюхляк у мяне ўжо стары, трэба выкідваць. Благаўка Шкл.

**ЦЯЖО́К** м. Вяроўка, повад. Вазьмі цяжок, ды схадзі пы карову. Тама йіна адна зыстылася. Сухары Маг.

**ЦЯ́МСЯ** прысл. А цямся яно, дзетачкі, ніхай ужо так будзіць. Сасноўка Шкл.

**ЦЯЛЕ́ЖКІ** мн. 1. Ручная павозка. 2. Перадок (у калёсах). Бярвеньня і кольля на цялешках цягалі, на сабе і плугі і бароны цягалі – усё было. Машкова Гор.

**ЦЯМНІ́ЛА** аг. Падманшчык. Ну, й цямніла ш ты, таварыш сцюдзент. Думаіш, калі мы ў сяле жывём, дык нічога й ня ведаем. Лубнішча Маг.

**ЦЯПЕ́РА** ж. 1. Зараз. 2. Страва (сыракваша з цыбуляй). Зрабіць табе цяперу? Шараеўшчына Бабр.

**ЦЯПЕ́РАСЬКА** прысл. Цяпер. Цяпераська вунь як жывуць маладыя, не то што мы раньшы. Мы й аралі, й баранавалі, й капалі, й жалі, а цяпераська машыны ўсё робюць. Клімавічы Шкл.

**ЦЯПЕ́РСІ** прысл. Даўно. Цяперсі ўжо быў такі случай, а яшчэ ўсюды гаворуць людзі пра яго. Добрае далёка й доўга чуваць, а кепскае яшчэ дальшы і большы. Бабровічы Маг.

**ЦЯПЛО́** н. 1. Касцёр. 2. Электрычнае святло. Ні палі ў лесі летам цяпла. Крапіўня Касц. На вуліцы цёмна ўжо стала, запалі цяпло. Благаўка Шкл.

**ЦЯПЛЯ́ТНІЦА** ж. Курыца, якая сядзіць на яйках. Во мая суседка пасадзіла цяплятніцу, дак вас ня пусьціць, каб ні спалохалі, ні сагналі. Прысна Маг.

**ЦЯРМІ́ТКА** ж. Бомба малых памераў; граната. Ля лесу ўзырвалася цярмітка, дык мы ўжо хто куды. Ленінская Бял.

**ЦЯРЭ́ЦЦА** незак. 1. Церціся. 2. Нераставаць. Цяперя рыба цярэцца, нільзя лавіць. Еўдакімавічы Шкл.

**ЦЯЦЮ́ХА** ж. Малярыя. Цяцюху даўно вывелі, ні балеюць на яе людзі больш. А была страшная балесьць. Каменка Дрыб.

# Ч

**ЧАБАТКІ́** мн. Боцікі; чаравічкі. Чабаткоў мы ня мелі, пра іх толькі сьнілі ілі мічталі. Белая Дуброва Касц.

**ЧАБО́ЦІКІ** мн. 1. Боцікі. 2. Кветкі. Чабоцікыў дужа многа вунь на тым лузе. Пашла п ды нырвала п ходзь букецік, ні сядзі бязь дзела. Сухары Маг.

**ЧА́ГА** ж. Грыб, які расце на ствале дрэва. На адным дзеріві чагаў нямашацькі, а на другім мнажэнна. Чаму йта так? Мілаславічы Клім.

**ЧАМАЙДА́Н, ЧУМАЙДА́Н** м. Чамадан. Дзе ж гэта мой чамайдан? Чуяш! Ці ні бачыла, дзе гэта мой чумайдан? Чырвоная Слабада Бых.

**ЧАПЛЕ́ЙКА** ж. Невялікая чапяла. Каля печы стаяла новая чаплейка, дак я за яе. Лобча Чэрык.

**ЧАПО́К** м. 1. Прабой у клямцы. Стары, ты ходзь бы чапок новы ўбіў, а то скора с хаты ўсё павыносяць. Ну й чаму ш такей лянівый стаў? Сласцёны Чав. 2. Крук, зашчапка. Закрый дзьверы на чапок. Клімавічы Шкл. Закрыла дзверы на чапок, а ён жа сіраўно ўлез. Вот злодзей дык злодзей! Чырвоная Слабада Бых.

**ЧАРАНО́** н. Гарызантальнае месца на печы, якое выкарыстоўваецца як ляжанка. Нельга ўлежыць ны чыряне – такоя гырячыя стала. Сласцёны Чав.

**ЧАРАПО́К** м. 1. Частка гаршка, збанка. 2.Чарпак. Пыдай чыряпок, есьць нада. Выдранка Красн.

**ЧАРЭ́ПАЦЬ** незак. 1. Чэрпаць. 2. Ісці памалу. Ганна, чарепаем ўжо дамоў. Хваця гуляць, заўтрі нада мне рана ўставаць. Смаліца Маг.

**ЧАРЭ́НА** н. Верхняя частка печы. Так напалілі печ, што чарэна аж кіпіць. Ня лезь, а то зварысься. Косцінка Маг.

**ЧАХМЕ́НЬ** м. Паліто з саматканага сукна. Адзявай чахмень, што б ні застыў на пасьці. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЧАХО́Л** м. Верхняя частка жаночай сарочкі з тонкага палатна. Чахол на плячах парваўся, а пастаўка цэлая. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЧАЦВЯРЫ́К** м. уст. 1. Мерка. 2. Посуд. Чацьвярік – ета дзірівянная дзешка ці лупка ў адзін пут. Вусце Чэрык.

**ЧАШЧАВІ́К** м. Грыб-падбярозавік. Поўную кашоўку сабрала чашчавікоў за раньне, а вы тут яшчэ сьпіце. Мокрае Бых.

**ЧМАР** м. Чад. Вой, колькі чмару нарабіла! Адкрывай скарэй комін, а то паўміраем. Прыхабы Бял.

**ЧО́ЛНЫ** мн. Чаўны. Чолны доўга штурхаліся на адным месьці. Асман-Касаева Бял.

**ЧУБА́Н** м. Пастух, які пасе авечак. Спяшайся, бо чубан пагнаў стада ў поле. Лубнішча Маг.

**ЧУЖАСТРА́ННЫ(Й)** прым. Замежны. Ён вывучаець чужастранныя языкі, будзець піравоччыкам, за граніцу паедзець. Чарнаруччa Шкл.

**ЧУ́РКА** ж. груб. Галава. Ты б луччы чурку сваю падлячыў, а то пляцеш абы-што. Магілёў.

**ЧУ́ХНА** ж. 1. Футра. 2. Неахайная жанчына. Во ўжо чухна, дык чухна. Глядзець ні хочыцца, праціўная. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЧУЧО́К** м. Верх чаго-н. (капы, стога, страхі і інш.). Кладзі сена на самый чучо́к. Чаго ты залез на чучо́к, глядзі яшчэ ськінесься. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЧУ-ЧУ-ЧУ!** Выкл. Воклік, якім падзываюць авечак. Чу-чу-чу! Куда пайшлі! Ідзіця сюды! Чу-чу-чу! Глупікі Крыч.

**ЧЫ́М ГЭ́ТА ЗВА́ЦЬ**? Як зваць (называць)? Чым ета завуць етага хлопца? Асман-Касаева Бял.

**ЧЭ́МРАДЗЬ** ж. Гушчар. У чэмрадзі няма грыбоў, толькі адзін мох расьцець. Сялец Бых.

**ЧЭМЕРГЕ́С** м. Самагон. Раней чэмергес, січас у магазіне водка луччыя. Чырвоная Слабада Бых.

**ЧЭРАСЯКО́М** прысл. Напрасткі. Мы пайшлі чырысяком і нагналі антобус. Цяцерка Кругл.

**ЧЭРЧА́С** м. Вайсковыя зборы. Мужыка забралі адбываць чэрчас, а мне ходзь бы што. Прысна Маг.

**ЧЭ́ХЛІК** м. Жаночая кашуля (з доўгімі і шырокімі рукавамі). Надзела чэхлік, дык так добра было спаць. Звянчатка Клім.

**ЧЫНЫ́ КЛА́СЦІ** словазлуч. Рыхтаваць аснову да ткання. Спярва снуём, а патом чыны кладзём. Тады ставы ставім. Заходы Шкл.

**ЧЫ́СТЫЙ ЛЁН** спалуч. Ільновалакно. Сёліта чыстый лён даў добрую прыбыль. Еўдакімавічы Шкл.

**ЧЫСА́ЛКІ** мн. Плямы; агрэхі. Шкап пакрашан, што й чысалкі відны Шаламы Слаўг.

**ЧЫСЛЕ́ННІК**. Каляндар. Кожын гот купляем чысьленьнікі й вешаем на сьцяну. Добра зь йімі. Паташня Дрыб.

**ЧЫШЧАНУ́ЦЬ** зак. 1. Пачысціць. 2. Перан. Стралянуць, пастраляць. Як чышчануць немцы з пулямётаў, так мы ўсе пат сталы і лавы пахаваліся. Бахань Слаўг.

## Ш

**ШАГЕ́НЬ** м. Крок. Атмераў дваццаць шагнёў на бульбу – і сей. Ета града на цыбулю шагнёў пяць будзя. Н.Аляксандраўка Чав.

**ШАЛУ́ПКА** ж. Лупіна. Склююць агурок, шалупкі пакінуць толька – што за птушкі? Цяцерка Кругл.

**ШАМАШЫ́НА** ж. Перхаць. Вот у галаве багата завялося шамашыны, аж косы белыя сталі. Кіраўск.

**ША́НКА** ж. Ношка (посцілка з травой). Шанка была цяшкая, прыходзілася часта атпачываць. Замасточча Глуск.

**ША́ПЛІК** м. уст. Скрыня для сала. Шаплік заўсёды стаяў у кладоўцы. Заполле Бял.

**ШАПЯЧЭ́НЬ** аг. Чалавек з дэфектамі вымаўлення. Ты што, шапячэнь, тут робіш? Ідзі адсюль! Што ні бачыш, што сь цябе сьмяюцца. Лубнішча Маг.

**ШАРХА́Т** м. уст. Шарф. Я шархат атвяжу, Ношкі абвярчу. (З песні). Клімавічы Шкл.

**ШАРЭ́ЦЦА** незак. 1. Світаць. 2. Цямнець. Вой! Ужо шарэецца на дварэ, а мы ўсё сядзім і языкамі плешчам. Прыхабы Бял.

**ШАРЭ́ЦЦА** незак. Асцерагацца. Пабіваў хлапца, шарэйся, і табе ета будзя. Што ш ета ты нарабіў? Ну, цяпер шарэйсь! Н.Аляксандраўка Чав.

**ШАСТКІ́** мн. Палок у лазні. Яўхім, ці зрабіў ты ў лазні шасткі? Ідзі зрабі, а то надаела стоячы мыцца. Княжыцы Маг.

**ША́ШКІ(Й)** прым. перан. Няўстойлівы. Твой брат – шашкій хлопчык. Чаго хочаш ажыдай. Н.Аляксандраўка Чав.

**ШАСНАВА́ЦЦА** незак.Панаваць, валодаць. Глянула на дзярэўню, а там шаснуіцца пламя адно. Ой, божачка ж мой! Што дзелылась! Машкова Гор.

**ШАСЦІНА́** ж. Шост печы ў сялянскай хаце. На шасціне сушым і бяльлё, і цыбулю, і ўсё ўсялякае. Чырвоная Слабада Бых.

**ШВЭ́НДАЛА** аг. Абібок, бадзяга. Ну што таму швэндалу трэба тутака? Што яму сваёй работы нямаш, што тут швэндаецца. Чырвоная Слабада Бых.

**ШЛЁПКІ** мн. Летні жаночы абутак. Абуй шлёпкі, а то жарка на вуліцы. А то й босай можна хадзіць – здаравей будзець. Крапіўня Касц.

**ШЛЁПКІ, ШЛЁПАНЦЫ** мн. Хатнія тапачкі (звычайна без заднікаў). Мальцы! Убірайце свае шлёпкі, а то павымятаю. Музей зрабілі добры, а на шлёпанцы грошай ні хапіла – вот табе і культура! Магілёў.

**ШЛЮ́ЦЦЕ** н. Рыззё. Чаго й та разнага шлюцьця развялося ў нас? Пашкава Маг.

**ШМУ́ЛЯР** м. асудж. Пра таго, хто ходзіць у падраным адзенні. Ніяк рубашкі ні пірамяніць. Так і ходзіць у зашмулянуй шмулюр гэты. Хамінічы Гор.

**ШО́ХАТАМ** прысл. У беспарадку. Чаго ты ходзіш па вуліцы ніпрычэсанай, космы шохатам стаяць. Капу ні апшкраблі, стаіць шохатам. Н.Аляксандраўка Чав.

**ШУГАВЕ́Й** м. Несур'ёзны чалавек. Шугавей еты нічога па-люцку ні скажа й ня зробіць. Трылесіна Дрыб.

**ШУ́МА** ж. Накіп, шум. Такая заварка ніўдалая: толькі шума белая становіцца ад яе. Прыхабы Бял.

**ШЧАПО́ТКА** ж. Невялікая колькасць чаго-небудзь сыпкага. Сыпні, дачушка, шчапотку солі ў варыва… Прыхабы Бял.

**ШЧАРБА́ЦЬКА** м. Смаляк, аскабалак з смаловага дрэва. Патпалі, Танька, спачатку шчарбацьку, дак хутчэй дровы загарацца. Чырвоная Слабада Бых.

**ШЧА́С** прысл. Зараз. Шчас пайду ў магазін. Пасядзіце трохі адны. Я раз – два. Лудчыцы Бых.

**ШЧО́ГЛА** ж. Жэрдка ў калодзежным жураўлі. Якая вялікая шчогла ў гэтым калодзежы? Нада ш, такая глыбіня, а ні горы ў нас. Клімавічы Шкл.

**ШЧО́ЛАК** м. Мылкая вада. Шчолак робім так: гарачую ваду прапускаем праз вугольле ці попел – вот і шчолак. Чырвоная Слабада Бых.

**ШЧУБО́КНУЦЦА** незак. Кінуцца (ў ваду). Сын шчубокнуўся з берага ў ваду і быстра паплыў, а сабака за йім. І дагнаў! Лубнішча Маг.

**ШЧЫБЛЕ́ТЫ** мн. Туфлі. Купіла вот табе новыя шчыблеты, насі на здароўе! Дзікае Глуск.

**ШЧЫГО́Л** м. 1. Шчыгол. 2. Тонкі, худы чалавек. Які шчыгол вунь пайшоў! Наверна з Мінска ці Магілёва прыехаў. Прысна Маг.

**ШЧЫТ** м. 1. Франтон. 2. Частка печы. Паглядзі на печы, ці цёплы там шчыт ці не? Мокрае Бых.

**ШЫ́ЙНІК** м. Шалік. На вечарынку я завязала новы шыйнік, прыадзелася, што ўсе глядзелі на мяне. Тады і ён мяне прымеціў. Кледнявічы Дрыб.

**ШЫМАШЭ́ЧЧЫ(Й)** прым. Які з'ехаў з глузду. Шымашэччыя, чаго пыд машыну бягіш? Шаламы Слаўг.

**ШЫРАМЫ́** м. Кругі на рагах у каровы, па якіх вызначаюць узрост. Па шырамах на рагах можна вызначыць, колькі год карове і колькі мела целяў яна. Княжыцы Маг.

**ШЫ́РМА** ж.1. Шырма. 2. Карцінка; вышыты ніткамі малюнак. Нашу хату вельмі ўпрагожвалі ўсе тыя шырмы, усё тое, што цяперя модна. Мхінічы Красн.

**ШЫ́ШКА** ж. 1. Шышка. 2. Нарасць на галаве ў курэй. 3. Грэбень (у курэй). Ніна, на галаве ў курыцы невялікая шышка. Наверна, ат етыга йна пірістала несьціся. Мхінічы Красн. Шчэ куріца ні квохча, а ўжэ шышка красная. Кіраўск.

**ШЫП** м. Праём у дошках для шпонгі. Чым-та мне прапілаваць шыпы? Ці няма чаго-небудзь у цябе, сусед? Сялец Бых.

**ШЫШЫ́ЛЛЕ** н. Ігліца. На шышыльля ў лясу ня высьпісься. Тратны Вугал Клім.

**ШЭ́ІСЯТ** ліч. Шэсцьдзесят. Шэісят лет маю, а ўсё шчэ дзелыю і дома, і ў калхозі. Лабковічы Крыч.

## Ю

**Ю́ПКА** ж. Спадніца. Для юпык раньшы ткалі толькі спецыяльнае пылатно Шавароўка Гор.

## Я

**Я́ГАДКІ** мн. зб. Ружовыя мясціны на твары; румянец. Хоць і старая, а прыгожая: шчэ й ягаткі гараць на твары. Прыхабы Бял.

**Я́ГАДНІЦА** ж. Жанчына, якая збірае ягады. Ягадніц учора было поўны лес. Чырвоная Слабада Бых.

**ЯДО́М** незак. Ядзім, ямо. Наварым бульбы ў мундзірах і ядом яе. Так і жылі. Лудчыцы Бых.

**Я́СЯК** м. Маленькая падушачка. Прыгожый дыван, дык і прыгожыя ясякі да яго трэба. Чырвоная Слабада Бых.

**ЯМ** м. Пярэдняе месца ў жаночым адзенні. На самым яму падралася плаць-ця, не палапіш. Н.Аляксандраўка Чав.

**ЯРУС** м. 1. Ярус. 2. Куча, капец, конус (бульбы, зерня і інш.). Які вялікі ярус зярня? Хоць бы дажджу ні было, а то ўсё прападзець. Тударава Шкл.

# Выслоўі

Абагнаў свой цень.
Абманам далёка не ўедзеш.
Абманам (падманам) век не пражывеш.
Абманам сыт не будзеш,
Абмануў раз, другі, а на трэцім папаўся.
Абы з рук (збыць).
Аднаму і дыхаць цяжка.
Аты-баты! Вон із хаты!
Адзін, як месяц на небе.
Адзін, як вецер у полі.
Адзін, як вока ў лобе.

Была б шыя, а ярмо знойдзецца.
Былі б грошы – сябры будуць.
Бог не усім даець.
Будзем жывы – будзем рады.

Восень – пагод восем.
Вышэй пупа не падскочыш.
Вышэй сябе не пераскочыш.

Год ваднейшы – грыбоў больш.
Гультаю луччы на печы клапам ногі лічыць,
чымся на полі цяжкую работу рабіць.

Дурань даець, а разумны бярэць.
Дурню хоць ражон у вочы.
Дурным нарадзіўся, дурным і памёр.
Дурнем быў, дурнем і застаўся.
Дурню хоць ступа, абы (на плячах) насіць.

Жыву: хлеб жую ды ваду п'ю.
Жонка мужу – дальні сусед.
Жывём – у суседзяў у воку, у родных у боку.
Жыць – як набяжыць.

Есьлі мучыца цячэць, то й няўмека спячэць.
Еж, покі рот свеж.
Еж борш з грыбамі, а язык дзяржы за зубамі.

За такія прыказкі, каб табе чорт шкуру падраў на прывязкі.
За такія рэчы гром табе ў плечы.
Знаець партыя, чаго мы вартыя.

Івану галоўку падстрыглі пад нулёўку.
І на гнілы тавар пакупнік ёсць.

Каго вельмі любіць, таго саўсім не чубіць.
Казаў бог, каб і ты памог, а казала божа маці, што не трэба памагаці.
Калі тое было.
Клапаціся сам аб сабе.
Каму кап, а каму хап.
Круці не круці, а ўсё роўна памярці.
Куды вецер вее, туды я хілюся.
Купіў бы, ды купіла прытупілася.

Ласкі ні каляскі: на іх ні катаюцца.
Луччы адзін бітый, чым два нябітыя.
Луччы грошай ні маць, абы спакойна спаць.
Любіш лынды калаціць, любі і без грошай быць.

Малады сказаў, стары засмяяўся (усміхнуўся).
Многа чаго вартыя, бо за намі партыя.
Многа даеш, ды мала бярэш.
Многа бярэш, ды мала даеш.

Навука – мука.
Навука есці не просіць.
Навуку за спіною (плячыма) не носяць.
На чыім возі едзеш, таму і песенькі спявай.
Не абманеш – не пражывеш.
Не ўсе абману вераць.
Не каса косіць, а касец.
Не касец косіць, а каса.
Не касец косіць, а розум (вум) яго.
Не паскудзь па ветру.
Не плюй супроць ветру.

Не спёк – не бухатка, нарадзіў – не дзіцятка.
Нешта ты зьдзюндзіўся, як той вожык.
Не шукай дурней сябе.
Няма дырных: усе ў Польшы.
Ні богу свечка, ні чорту качарга.
Ні так ні сяк.
Ні туды ні сюды.
Ні тут тое было.
Ні ўправа ні ўлева.
Ні ў рай ні ў пекла.

Ой ты, цешча мая, айдзе дочка твая.

Пабудзь, пакуль не пойдзеш.
Падманам (абманам) не пражывеш.
Пакуля сонейка было, усё, як вішанька, цвіло.
Палі ў печы ды грэй плечы – усё роўна зіма!
Папаўся, што ленаваўся.
Пасуліў ты мне, дзедка, белку паймаць.
Паміж шчэлі пальцы ні шчамі.
Пасуліць то пасуліла, а зрабіць то не зрабіла.
Папаў у неба пальцам.
Пашло дурное, а за ім другое.
Першая жонка – ад бога, другая – ад людзей, трэцяя – ад чорта.
Піў, піў, а пра дружбу забыў.
Прапаў (прападаеш), як сліна (слюна).
Пятроўка – галадоўка, спасаўка – ласаўка.

Ранняя птушка носік цярэбіць, а позняя вочкі праціраець.
Расхадзіўся, як нязмазаная цялега.
Расхадзіўся (разгуляўся, разбегаўся), як свіння на дождж.

Свае б'юцца – чужы не лезь (не мяшайся).
Савецкая ўласць усім дабра дасць.
Сказаў бы па-польскі, ды язык конскі.
Стараецца, аж з адзёжы вылазіць.
Стараецца, як мокрае гарыць.
Сумеў – з'еў.

Так гарачо, а так балячо.
Там гарачо, а там балячо.

Уелася злыдня, як кляшчы ў цела.
У аднаго паснедаў, у другога паабедаў, у трэцяга павячэраў.
У няўмекі – рукі калекі.
У суседзяў – у ваку, у родных – у баку.
У Польшы – яшчэ горшы.

Харошая мысля прыходзіць апасля.
Хоць ногі ў дзярме, а жаніх на ўме.
Хто ўправа, хто ўлева.
Хто б ні быў, абы дабро мне рабіў.
Хто за мяне, ідзі да мяне.
Хто пад'еўшы не аддыша, таго бог у работнікі не запіша.

Чаго б та плакаў слеп, калі б відзіў след.
Чарачка-каток, кацiся ў раток.
Чорны, як цыган.

Шал падскачыў і з панталыку збіў.
Што б ні рабіць, абы нічога не рабіць.
Што ні гавары, а ён дагары.

Якая мысль, такая й жызнь (жысць).
Як справа, так і злева.
Як  мажаш, так і едзеш.
Як памрэш, з сабой дабра не забярэш.
Якую (жонку) ўзяў, такую і любі.
Якую песню знаеш, такую і спявай.

# Тэксты

## "ЦІ Ж ЕТА ТАНЦЫ?.."

Вунацька якія цяперь танцы маладзёш танцуя. Ці ж ета танцы? Рукамы махая ва ўсе бакі, нагамы дрыгая – і ўсё танцы.

Раншы і клубаў такіх ні было. Мы, бывала, сабярёмся ў чыёй-небуць хаце, ды і то нада й хадзяйцы с хадзяінам заплаціць, і гарманісту. Раншы й надзіваліся нітак, як цяперь, адзёжы такой ні было. Кухваічку якую адзеніш, ды і то калі йна ёсць. Ета хто езьдзіў на заработкі с хлопцаў гады на трі ці на чатырі, дык тыя троху прыбірэліся. Бывала, як прыдуць, штаны дзігналівы, чорнінічкія-чорнінічкія, і рубашка красівая. А як пойдуць скакаць! Раншы такіх танцаў ні было. Раншы ж скакалі польку, кадру. Ды ні па аднаму, а гуртам. Як выйдуць, бывала, па парах разбяруцца, ды як пайдуць скакаць у шэсь кален, а то і ў дзьвінаццаць. Глядзіш, аж душа заходзіцца. А ўто цяперь, каждый сам сібе, а то саб'юцца ў кучу і таўкуцца на адным месьці. Ці ж ета танцы?..

*Запісана ў в. Вільчыцы Магілёўскага раёна*
*ад Ермаковай Ганны Нічыпараўны, 1901 г.н.*

## КАЗКА

Жылі-былі дзед і баба. У іх была дачка. Але баба памёрла і дзед жаніўся яшчэ раз. У другой яго жонкі тожа была дачка. Мачыха не любіла дужа сваю патчарыцу. Яна рашыла жжыць сваю патчарыцу. Аднажды яна гаворыць свайму мужыку: "Дзед, вязі сваю дачку ў лес. Каб я яе тут не бачыла".

Бацька доўга не саглашаўся. Але мачыха так на яго на села, што яму прыйшлося везці сваю любімую дачку ў лес.

Ехалі яны доўга. Вось і прыехалі. Бацька папрэшчаўся з дачкой і паехаў да хаты.

У дачкі быў невялічкі шалашык. Там яна і жыла. Але ёй надаела там сядзець, і яна рашыла пайсці паглядзець, што дзелаецца на свеце.

Вось яна ішла доўга. Вось бачыць: лес расступіўся. Яна выйшла на паляну. Тут расла ябланька. На ей яблачкі ўсе ўжо пасьпелі. Ябланька ўдруг загаварыла:

– Дзяўчына, дзяўчына абтрасі мяне!

Дзяўчына была працавітай і паслухмянай. Яна абтрасла ябланьку. Тая паківала ёй з удзячнасцю веткамі. Дзяўчына пад'ела яблак і пайшла далей.

Вось ішла яна, ішла і выйшла апяць на паляну. Тут стаяла карова. Карова папрасіла дзяўчыну:

– Дзяўчына, дзяўчына, падаі мяне!

Дзяўчына падаіла карову, зрабіла сыру, масла, пад'ела і пайшла далей.

Вось ішла яна. Прыходзіць апяць на паляну. Тут ужо стаіць палка-стукалка чароўна. На ёй вісяць ленты прыгожыя, але ленты скруціліся абвіслі. Палка-стукалка папрасіла дзяўчыну:

– Дзяўчына, дзяўчына, прыбяры мяне!

Дзяўчына прыбрала палку-стукалку, падзівілася на яе пайшла далей.

Вось ішла яна і падыйшла к масту. Ля гэтага маста жыў Дзед-Мароз. Дзяўчына паздаровалася зь ім. Той адказаў ёй. Дзед Мароз сказаў дзяўчыне, што ён за ёй увесь гэты час наблюдаў. Ён і кажа:

– Ты вельмі працавітая, і за гэта я цябе адару. Ідзі пад мост.

Дзяўчына пайшла пад мост. Там стаялі падаркі для яе. Якога толькі там дабра ні было!

У гэта ўрэмя ехаў бацька па сваю дачку. Ён з ёй пацалаваўся і заплакаў.

А ў гэта ўрэмя мачыха пякла бліны. На плоце сядзеў певень і закрычаў на ўсю вёску:

– Ку-к-а-рэку! Бацькава дачка з падаркамі едзець, а матчынай дачкі толькі костачкі прывязуць!

Мачыха прагнала пеўня. Бачыць: і праўда – адзін бацька з дачкой. Дзяўчына ўсё расказала дома, што зь ёй здарылася.

Вот рашыла і мачыха завесьці сваю дачку ў лес. Завезьлі яе вот у лес.

Дачка мачыхіна была вельмі лянівай і нецярплівай. Яна сразу пайшла па сцяжынцы. Спачатку падайшла яна да ябланькі. Тая яе і посіць:

– Дзяўчына, дзяўчына, абтрасі зь мяне яблакі.

Але дзяўчына адмахнулася і пайшла далей. Падыходзіць яна да каровы, а тая яе просіць:

– Дзяўчына, дзяўчына, падаі мяне.

Але яна зноў адмахнулася і пайшла далей.

Падыходзіць дзяўчына да палкі-стукалкі. Палка-стукалка просіць:

– Дзяўчына, дзяўчына, прыбяры мяне. Але тая зноў адмахнулася і пайшла да Дзеда Мароза. Яна дажа і не паздаровалася з Дзедам Марозам. Вот яна гаворыць дзеду:

– Дзед, адары мяне!

"Добра" – кажа дзед. – Ідзі пад мост"

Яна і пайшла. З маста зваліўся ёй на галаву камень. Яна і памерла. Бацька прыехаў па яе, а яна ўжо і мёртвая. Усклаў ён ян на воз і павёз дамоў.

У гэта ўрэмя мачыха пякла бліны. Певень, што сядзеў на плоце, закрычаў:
– Ку-ка-рэ-ку! Бацькава дачка з падарункамі прыехала, а матчынай дачкі вязуць толькі костычкі!

Мачыха прагнала пеўня. Бачыць: праўда – вязець бацька яе дачку мёртвую. Загаласіла яна.

З таго часу мачыха пачала любіць бацькаву дачку. Зажылі яны мірна і дружна.

Вось на гэтым і казцы канец.

*Запісана ад Нямыцька Еўдакіі Міхайлаўны,*
*1913 г.н., у в.Гатоўшчына Круглянскага раёна*

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ВОЗЕРА

У двух кіламетрах ад вёскі раскінулася вялікае возера.. Пра яго ўзнікненне ходзіць шмат легенд. Адну і іх расказала мне Марыя Ігнатаўна Барсукова.

Даўно ета было. І я ні помню, і дзед мой ні помня. Жыла-была адна багатая царэўна. І прыйшло ўрэмя выходзіць ёй замуж. Ды цяжка для яе было найці мужа. Усім йіна атказавала. Вот раз прыехалі два хлопцы і пачалі паказаваць, якія яны лоўкія. Атказала йна ім. Прыехалі тады ішчэ жаніхі. Здаровыя такія і пачалі паказаваць, хто з іх сільней. З аднаго размаху ссікалі дрэвы ў метар таўшчынай. Атказала іна ім. Паехалі яны дамой. Зноў ета царыца асталася біз мужыка. Ніхто ні хацеў прасіць рукі у етай царэўны. І вот аднажды лі варот дварца той царэўны паявіўся на кані хлопіц. Быў ён дужа красівы. Конь пад йім вараны. Дужа панаравіўся ён царэўні, но йіна не падала віду.

– Што табе зьдзелаць, каб ты стала маёй? – сказаў той хлопец.

А йікраз быў вечар і сонца ўжо садзілася.

– Ідзі прынясі мне сонца, і я стану тваёй жаной.

– Я прынясу табе сонца. – сказаў еты хлопіц. Сеў ён на каня і паехаў.

Доўга ехаў ён. Каня паціряў, а ні вазврашчаўся. Пашоў ён тады пяшком. Жарка стала, а ён сіраўно ішоў. І чым бліжы ён патходзіў да сонца, тым жарчэй было. А ён усіраўно ішоў. Ішоў ён ішоў, і сонца спаліла яго. А тая царыца, як ён паехаў, стала яго ждаць. Ждала-ждала, ждала-ждала – німа хлопца. Год прайшоў, другі, а любімага німа. Ну вот так йіна ждала яго і ні замеціла, як пакаціліся з яе вачэй слёзы.

Ні было хлопца, царэўна ўсё плакала, і ат слёз яе стала ета возіра. Вот пачаму і вада ў йім салёная.

*Запісана ў в. Барсукоўка Слаўгарадскага раёна*
*ад Барсуковай Марыі Ігнатаўны, 1890 г.н.*

## НАРОДНАЕ ПАДАННЕ

Пайшла дзяўчына на раку мыць бялізну і там яе паймаў вуж. І павёў з сабою ў сваё царства. І сталі яны жыць разам. Пражылі два гады. Нарадзіліся ў іх дзеці: двое сыноў.

І аднажды жонка папрасіла вужа, каб ён адпусціў яе зь дзецьмі схадзіць да маткі. Ён пусьціў яе зь дзецьмі. Разрашыў пабыць дзень у маткі. Вывеў яе на бераг і сказаў, як будзе назад іці, штоб пазвала яго так:

– Вуж, мой муж, прыйдзі мяне сустракаць. Я выплыву і забяру цябе з дзецьмі.

Даў ёй наказ і паплыў. А яна з сынамі пайшла да маткі. Прыйшла, расказала, што жыве пад вадою. Мужыком – вуж. Сказала, што пабудзе адзін дзень у іх. Тады пойдзе дамоў пазаве мужа і ён забярэ яе з сынамі.

Маці спрасіла, як жа яна яго будзе зваць. Дачка сказала:

– Вуж, мой муж, прыйдзі забяры мяне з дзецьмі. Ён прыйдзе і забярэ.

Матка з братам паслухалі яе расказ. Вечарам брат узяў тапор і пайшоў да ракі. Пазваў вужа і адсек яму галаву. Брат думаў, што сястра з сынам будзе дома жыць, бо ён забіў яе мужыка.

Уранні сястра пайшла да ракі, паклікала мужа, але ён не выплыў, а паказалася яго галава. І дачка рашыла больш да маткі з братам не вяртацца раз яны так зрабілі. Ператварылася ў шэрую зязюлю і паляцела кукаваць ў зялёны сад. І да сённяшняга дня адна кукуе. А сыноў у салаўёў ператварыла.

*Запісана ў в. Перагон Слаўгарадскага раёна*
*ад Зарэцкай Вулляны Сцяпанаўны*

## КРАПІЎНІЦА
### (казка)

Жылі-былі дзед і баба. І была ў іх дачка. Звалі яе Алёнка. Суседкі ўвесь час называлі Алёнку крапіўніцай:

– Вунь крапіўніца пашла.

І вырашыла Алёнка спытаць у маці, чаго яе так называюць. А маці ёй і кажыць:

– А завуць цябе, дачушка, так, бо ты ў нас адна і жывеш ты, як крапіва пры плоці. Няма ў цябе ні брата, ні сястры.

Тады маці яшчэ гаворыць:

– Ды было ў цябе трі браты. Але як пашлі з злым цудам-юдам змагацца, так і не вярнуліся.

І вось тады Алёнка рашае ехаць іскаць сваіх братоў. Бацька запрёг ёй каня, маці адвізала сабаку Лысуна, каб Алёнцы было весялей ехаць. Маці сказала дачцэ, каб тая нанач нікуды не західзіла, а каб ехала датуль, пакуда не знойдзець сваіх братоў.

І Алёнка адправілася ў поіскі сваіх братоў. Ехала яна, ехала і прыехала на скрыжаванне дарог. І пытаецца ў Сівухі:

– Скажы, скажы, кабыліца,
Скажы, скажы мне, Сівіца,
Якой мне дарогай ехаці,
Дзе родных братоў шукаці.

Сівуха павярнула ўправа.Пачало ўжо цямнець. Алёнцы стала жудасна. І вось бачыць дзяўчына, што на абочыні дарогі стаіць маленькая хатка. Алёнка вырашыла ўсё ж такі туды зайсці. А сабачка Лысун заціяўкаў. І па-чалавечаму пачаў гаварыць:

– Не нарушай, Алёнка, матчынага слова.

Але зайшла дзяўчынка ў гэтую хатку. Тут жыла старая жанчына. Алёнка расказала ёй аб усім, расказала, што едзіць шукаць сваіх братоў. А таго дзяўчынка не ведала, што гэта злая ведзьма Барабаха. Жанчына разаслала пасцель

і палажыла Алёнку спаць. А сама схавала ўсю Аленчыну адзежку. Устала дзяўчынка раніцой, а адзяваць няма чаго. Жанчына адзела Алёнку ў лахманы, а сама вынарідзілася ў Аленчына адзенне.

І вось яны едуць. А сабака Лысун бяжыць услед і гаворыць:

– Ведзьма Барабаха
На вазу сядзіць
На цябе Алёнка
Гадзінай глядзіць.

Старая ведзьма рассярдзілася на сабаку і кінула ў яго палкай.

Наканец пад'ехалі к аялізнаму палацу. Ведзьма кінула Алёнку на лугу пасвіць кабылу, а сама пайшла ў палац.

Тут насустрач ёй выйшлі тры малойцы. Ведзьма сказала, што яна іх малодшая сястра. Яны, радасныя, завялі яе ў хату і пачалі частаваць.

Праз які час адзін з братоў выйшаў на двор і пачуў жаласлівую песеньку. Яна даносілася з лугу. Спявала яе дзяўчынка. Ён прышоў і сказаў сярэдняму брату, каб той выйшаў і паслухаў песеньку Толькі ён выйшаў, як падбег да яго сабака і залямантаваў па-чалавечаму.

– Ведзьма Барабаха ў шатры сядзіць,
Мёд, віно п'ець
Родная ж сястрыца
Горкі слёзы л'ець.

Усхапіў тады брат дзяўчынку на рукі і панёс у палац і сказаў братам:

– Вось гэта сапраўдная наша сястрыца. А гэта – ведзьма Барабаха. Узрадаваліся браты, пачалі цалаваць Алёнку. А ведзьму спалілі на кастры. Самі ж шчаслівыя паехалі дадому.

*Запісана ад Трафіменка Клаўдзіі, 1914 г.н.,*
*у в. Копцеўка Горацкага раёна*

Вецер з поля, хвіля з моря,
Ой-да, давяла любоў да горя.
Ах, ня сьпіцца, ні ляжыцца,
Ай-да, на плячах арёл садзіцца.
– Ай ты, арёл, мой сізакрылый,
А скажы ш мне праўдучку, дзе мой мілый.
– А твой мілы на рабоце,
Ой-да, на ліцэйным на заводзе.
– Што ж, ён там робіць, робіць-вырабляіць?
– Ой-да, медны трубачкі выліваіць.
Адкуль узяліся злыя людзі,
Ай-да, пылымалі медныя трубы.
Пыйшла парачка па заводу,

Ай-да, пышла славачка па народу
Пра тую дзевачку, што без роду.
А я тыя славушкі не баюся –
На етай дзевушкі ажанюся.

*Запісана ад Маскалёвай Марыі Паўлаўны,*
*1928 г.н., у в.Кіпячы Быхаўскага раёна*

## ПЕСНЯ

"Марусенька, не любі, благародна".
Марусенька, не любі, благародна,
Не любі ж ты двыряніна – будзя добра.
А двырянін позна ходзіць,
А ён цябе, Марусенька, з ума зводзіць.
Звёўшы з ума, сеў на каня...
Асталася цяперь Марусенька адна
А ў садочку, на дубочку,
Калыхала Марусенька сына й дочку.
Калыхала дай плакала,
К сабе родну сястрыцу гукала.
"Ты, сястрыца рыдная,
Калышыш ты дробных дзетак".
– Я быльная.
– А быгдай ты, мая сястрыцы, даждала,
Штоб я тваіх дзетак калыхала.
– Як сумела, сястрыца, дабываці.
Так сумей, мая сястрыца, узгудуваці.

*Запісана ад Балобінай Арыны Ягораўны,*
*1909 г.н., у в. Цімохаўка*

## ПАДАННЕ

Даўно ета было. Ішоў адзін чалавек позна ноччу, зымарыўся, а да дому было йшчэ далёка. Зайшоў ён у адну хату, пастучаў у акно. Выйшаў хазяін. Папрасіўся етый чылавек пірінычываць. А хызяін скызаў, што места ў хаці німа, ды й жонка цяжарная, скора дылжна радзіць. Пыжалеў усё ж хызяін чалавека і скызаў: "Калі хочыш, чылавеча, дык лажысь у сырай на сена". А таму ета й нада было. Узрадываўся чылавек, што ні адкызалі яму. Правадзіў хызяін яго у хлеў. Доўга ні мог заснуць ён на новым месьці. У поўныч нехта пычаў разгываріваць. Пріслухыўся. Чуіць, што два чылавекі: жэншчына і мушчына.

Вот жэншчына і пытаіць у мушчыны: "Якую судзьбу дадзім етыму хлопчыку?"

"У дзень свадзьбы ныд вадой," – атвеціў мужчына.

Ніяк не мог етый чылавек заснуць ноччу, а наутра пайшоў у хату. Хызяін сустрэў яго з радысьцю і сказаў, што сын у яго радзіўся. Етый чылавек папрасіўся ў яго за кума быць. Ну, і згадзіўся хызяін.

Праходзюць гада, расцець хлопіц. Прішло ўремя жаніцца.

Гуляюць свадзьбу, усё хырашо было. І ўдруг жаніх нейкій нівясёлый стаў, як яго нехта пірімяніў. Скызаў нявесьці, што нешта плоха стала. Пашлі яны на вуліцу, а кум за імі. Тут ён кажыць, што піць зыхацеў. Ны дваре стыяў у іх калодзеж. Выцінуў ён вядро вады, стаў піць. А кум кыла яго з нявестай стаіць, баіцца, каб у калодзеж не ўляцеў. А жаніх толькі напіўся, пычаў ставіць вядро, пыляцеў і памёр. Тут суматоха пыднілася. Кум усім рысказаў, што чуў у дзень нырадження жаніха.

Людзі кызалі, што яны ні раз відзілі мушчыну і жэншчыну пад вокнамі тых, у каго нырыджаліся дзіцяці.

*Запісана ад Казаковай Агрыпіны Рыгораўны,*
*1900 г.н., у в.Язычкова Дрыбінскана раёна*

## ЗАМОВА

Першый стол – сам гасподзь, другій стол – Ісус Хрістос, трецій – маці божая стаяла, сваго сына на руках дзяржала, залатою пяліною прікрівала. Прікрій жа, госпадзі, душу ад хваробы, ад спуду, ад злой долі.

*Запісана ад Бугаёвай Марыі Рыгораўны,*
*1923 г.н., у г. Магілёве*

## ПЕСНЯ

Ніхто таго не ведаець,
Што на маём серцы дзеецца:
Не агонь гаріць, смала кіпіць,
Гаріць, гаріць кроў гарючая,
Кроў гарючая, балючая
Сушыць, крушыць маладзёшаньку.
У міня, малады, трі заботачкі:
Мне первая заботачка,
Што я горькая сіротачка.
А другая мне заботачка –
Дзеткі дробныя мне ў пуць не йдуць.
А мне трецціяя заботачка,
Што мой мілый – горька п'яніца,
Горька п'яніца, нядбаліца,
Узяў мяне, як маліначку,
А ссушыў, скрушыў на быліначку...

*Запісана ад Гарбачовай М.М., 1903 г.н.,*
*у в. Барэйкі Касцюковіцкага раёна*

## ЗІМАЧКА МАЯ ...

Зімачка мая, зімачка мая,
Халодненькая,
Баюсь я цябе, баюсь я цябе:
Змарозіш мяне ўдальца-малайца
З паходу йдучы, з паходу йдучы,
Каня ведучы, каня ведучы,
Сбрую несучы.
Сбруечка мая, сярэбраная,
Долечка мая, нешчаслівая.
Жана мужа не злюбіла,
Павяла ў зелен сад – і загубіла.
Йна прішла дамоў, села за сталом,
Села за сталом, пісала пяром.
Пяром пісала, рукой махала:
“Плоха таму жыць, у каго муж такей,
А худжай таму, што і такога нет”.

*Запісана ад Гарбачовай М.М., 1908 г.н.,*
*у в. Барэйкі Касцюковіцкага раёна*

## ІШОЎ КАЗАК З ДОНУ...

Ішоў казак з Дону, і з Дону да Дону,
І сеў над ракою, падпёрся рукою,
Абліўся слязою, памянуў сваю долю:
“А йдзе, мая доля, ці на агні пагарэла,
Ці ў вадзе патанула?”
Адгукнулась доля на тэй жа бок моря:
– Дурнэй ты, казача, дурнэй, неразумный.
За што долю лаеш, за што праклінаеш:
А твая ж доля такая, як людская.
А йдзе ж ты працуеш-прап’еш, пратанцуеш!
А йдзе работаеш-прап’еш, прагуляеш,
А ўсё долю лаеш…

*Запісана ад Гарбачовай М.М., 1908 г.н.,*
*у в. Барэйкі Касцюковіцкага раёна*

## ЗАМОВА

Первым разам, добрым часам
Не сама сабою, госпада бога
Прашу на помач і мацер божую

Прашу на помач
Выгаваріваць, выгаманіваць з етай дзяўчынкі
Звіх балючый, калючый, гарючый…

Па касцях табе не хадзіць, Свеціных касцей не ламіць, цела не сушыць, крыві не гарачыць!.. Ідзі на махі, на балоты, на халодныя воды!.. Там табе гулянне і крусуванне.

Ехаў Ісус Хрістос па чыстым полю, па сінім морю, па калінавым масту… Мост абламіўся, конь спатыкнуўся, Ісус Хрыстос назад аглянуўся, штоб у етай дзяўчынкі Светы звіх мінуўся…

*Запісана ад Гарбачовай М.М., 1908 г.н.,*
*у в. Барэйкі Касцюковіцкага раёна*

## ЗАМОВЫ

Тфу, тфу на цябе,
Рыжы пёс!
Не вадзіў цябе ніхто
Пад хрёст.
Ты хріста ні відаў,
Штоб мяне ні кусаў

Ад зубнога болю
Маладзік маладой,
У цябе рог залатой.
– Ці быў ты на том свеце?
– Не быў.
– Ці бачыў ты Цімоха?
– Не, не бачыў.
– А ці балелі ў Цімоха зубы?
– Не, не балелі.
Ну, штоб і ў мяне (цябе) не балелі.

## МАЛІТВА

Хрістом хрышчусь,
Хрістом малюсь
Хрістом ангела к сабе прізываю:
"Ангел-спасіцель, спасі (імя) душу
З вечара да поўначы,
З поўначы да белага свету,
З белага свету да канца веку!"

*Запісана ад Вінцікавай М.Ф., 1910 г.н.,*
*у в. Паўлавічы Кіраўскага раёна*

## ЗАМОВА АД РОЖЫ

Ішоў гасподзь дарогаю,
Нёс тры квяты.
Адна засохла,
Другая завяла,
Трэцяя закамянела.
Адстань, адстань, рожа,
Ад Мікалаевай рукі!
Угавараваю: з касцей,
З машчэй, з ясных вачэй,
З буйнай галавы,
З румянага ліца!...
Тыды гэтыя ўгаворы засылаю,
Дзе петухі не пяюць,
Тапарамі не рубяць...

## ЗАМОВА АД СУРОКУ

Первым разам, добрым часам
Устану я ранюсенька,
Памалюсь господу богу
Тром угоднікам
Кіеўскаму, Пячэрскаму, Сафійскаму.
Царыца, господняя памашніца,
Ішла ты лугамі, балотамі,
Абмывала ты частыя кусточкі...
Адмый, адмый, адмый ад
Івана ўрокі-ўрочныя,
Падумныя, прыгаворныя,
Наскія, дзецкія!..
Угавараю: з касцей, з машчэй,
З ясных вачэй, з буйнай галавы, з румянага ліца!..
Не я ўгаварваю, а сам господзь і маць прачыстая
Туды гэтыя ўрокі засылаюць, дзе петухі не пяюць
Тапарамі не рубяць...

*Запісана ад Сукманавай А.М.*
*у в.Сафіеўка Магілёўскага раёна*

## ЖНІЎНАЯ ПЕСНЯ

Ой, белая бярэзіна,
Баліць мая сярэдзіна,
Каб у мяне было кугакала,

Дык бы яно заплакала.
Я б яго скалыхнула,
Сярэдзіна мая б аддыхнула.
Ой, я ў полі жыта жала,
А ў доме бяда стала:
Звалілася свякроў з печы –
Пабіла сабе плечы.

*Запісана ад Дашкевіч М.І., 1901 г.н.,*
*у в. Гаі Магілёўскага раёна*

# З М Е С Т

Вучэбнае выданне

**Абабурка** Мікалай Васільевіч,
**Бузук** Мікалай Пятровіч,
**Лаўшук** Аляксей Сцяпанавіч і інш.

# МАТЭРЫЯЛЫ
## да абласнога слоўніка Магілёўшчыны

### ВЫПУСК 2

Рэдактар *Л.І. Шапавалава*
Тэхнічны рэдактар *Г.М. Гладун*
Камп'ютэрная вёрстка *В.С. Маляўка*
Карэктура аўтарская

Падпісана да друку 3.10.2005.
Фармат 60x84/16. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman Cyr.
Ум.-друк. арк. 5,0. Ул.-выд. арк. 5,3. Тыраж 200 экз. Заказ 403.

Установа адукацыі "Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А.А. Куляшова", 212022 Магілёў, вул. Касманаўтаў, 1
ЛВ № 02330/278 ад 30.04.2004

Надрукавана на рызографе аддзела аператыўнай паліграфіі МДУ імя А.А. Куляшова.
212022 Магілёў, вул. Касманаўтаў, 1